Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 23 (4567) 11 чэрвеня 2010 г.

## У нумары:





Аляксею Дудараву —
шэсцьдзесят.
Мне давялося калісь
выказацца пра тое,
як позна ў чалавеку
нараджаецца драматург.
Паэт можа нарадзіцца
ў пятнаццаць гадоў,
празаік — у трыццаць,
драматург — дзесьці ў сорак.
Бо драматургія — гэта
і паэтычны талент,
і веданне прозы жыцця,
і адчуванне законаў сцэны, і — калі аўтару
ёсць што сказаць.
Драматургія творчага
лёсу Аляксея Дударава ў
тым, што ён жыве
для таго, каб парушаць
стэрэатыпы.
У тым ліку і мой.



# Перакульваючы стэрэатыпы

Як празаік Дудараў саспеў у дваццаць гадоў, бо ў 1979 годзе выдаў зборнік апавяданняў "Святая птушка", адразу заўважаны чытачамі і крытыкамі. Законы сцэны Дудараў спасцігаў не толькі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе атрымаў спецыяльнасць "акцёр тэатра і кіно", але і ў Тэатры юнага гледача, дзе гэты дыплом, так бы мовіць, адпрацоўваў... Мала засталося тэатральных прафесій, якія ён не зведаў бы — цяжкі хлеб загадчыка літаратурнай часткі, вось стаўся і рэжысёрам. А прызнаным драматургам зрабіўся адносна рана — у трыццаць адзін год, калі паставілі ягоную п'есу "Парог".

Гэтыя яго персанажы-"мульцікі", якія з кнігі "Святая птушка", перабраліся ў п'есы — "Парог" і "Вечар"... Іх параўноўвалі з шукшынскімі "чудиками", але яны тутэйшыя, крэўныя. Крывічы — бо з паўночнай Беларусі, дзе прайшло дзяцінства драматурга. Хай сабе і набылі кінематаграфічны брэнд — "Белыя росы".

Што цікавае можа выгадавацца ў закінутай, нешматлюднай, "неперспектыўнай" паўночнабеларускай вёсцы? Але вось Андрэй Буслай, які здзівіў тэатральную супольнасць і зачапіў за жывое крытыкаў. Якія такія ісціны могуць прамаўляцца вуснамі "жывога трупа", хранічнага алкаголіка, які адпіў памяць да такой ступені, што не можа роднаму дзіцёнку збаяць казку? А нешта ж прамаўляецца!

А гэтыя васьмідзесяцігадовыя Мульцік, Ганна, Гастрыт? Пра пенсіянераў хтосьці прывык думаць як пра старых, якія адно целяпаюцца па лякарнях і хваляць сталінскія часы, калі парадак быў і гарэлка танная. А гэтыя ўцякаюць са шпіталяў, моляцца сонцу, ствараюць любоўны трохкутнік — тыя, каму за восемдзесят. Драматург неяк сам уголас падзівіўся трывушчасці сцэнічнага жыцця гэтай п'есы і яе насельнікаў. Сёння забываецца бяда "неперспектыўных" вёсак (бо яны ад сваёй неперспектыўнасці, можа, і памерлі). Менш гаворак пра трагедыю 1930-х гадоў. Змяняюцца акцёрскія пакаленні. Ды вось зноў паказваюцца на сцэне гэтыя трое і пачынаюць сваю старую-новую, споўненую нечаканасцямі гульню...

Здавалася, у абліччы Аляксея Дударава маем драматурга-псіхолага, стваральніка вострасацыяльнай драмы. Але надыходзіць момант – і гэты стэрэатып перакульваецца. Бо новы Дудараў шукае новых герояў не на "зломе" сучаснага быцця, а ў галерэях гісторыі. І гістарычныя партрэты, намаляваныя драматургам, не супадаюць з іх вядомымі па гістарычных і літаратурных крыніцах арыгіналамі.

Рагнеда, якая насамрэч кахала рабыніча Уладзіміра. Барбара Радзівіл, якая паўтарылася ў абліччы сваёй распуснай копіі — Бжэнкі. Ягайла, які не такі ўжо пачварна падступны і здрадлівы. Вядома, галоўнае ў гістарычных драмах Дударава — не эксперыменты з рэаліямі мінуўшчыны. А тое, што старыя беларускія летапісы і хронікі ажываюць на сцэне. Уладзімір Караткевіч калісьці белетрызаваў і рамантызаваў беларускую летапісную мінуўшчыну. Цяпер яна тэатралізуецца. Барадатыя літоўскія князі і іх прыўкрасныя княжны паўстаюць, бы героі купалаўскай паэмы "На Куцці", з руінаў Крэўскага замка. І гэта галоўнае.

Бо расцягнутая на стагоддзі драма беларускай гісторыі споўненая такімі характарамі і эпізодамі, каб вакол іх завіравалі шэкспіраўскія жарсці. Драматург зразумеў гэты пастулат літаральна і паклікаў у настаўнікі Уільяма Шэкспіра як стваральніка гістарычных хронік. У наш час так робяць рэдка. Часцей з Шэкспірам ідуць у рожкі (як Талстой або Шоу) ці зацягваюць караля драматургаў у бурлескавыя постмадэрновыя гульні.

Шэкспірызацыя паводле Дударава — гэта імклівыя змены месца дзеяння, умоўнасць дэкарацый, эфектныя масавыя сцэны, канцэнтрацыя сцэнічнага часу, моцныя характары, крутыя жарсці, перапады камічнага і трагічнага, звар'яцелыя мысляры і мудрыя блазны. Ды яшчэ пяцістопны ямб уперамешку з прозай.

Аляксей Дудараў — у ліку пісьменнікаў новага часу, якія і пра Вялікую Айчынную вайну пачынаюць пісаць як пра гісторыю. Бо сам нарадзіўся праз пяць гадоў пасля Перамогі. Хаця крытыкаў здзіўляла псіхалагічная выверанасць ваеннай драмы Дударава — як быццам ён сам нябачна прысутнічаў поруч з імі, "Радавымі". Але бачыў вайну ўжо вачыма сучасніка — з гледзішча гуманізму, які некалі здзекліва называлі абстрактным, а сёння кажуць проста — любоў да чалавека, да ўсяго людскага.

Тэатр і падлетак... Існавала думка пра тое, што школьніка на спектакль трэба "заганяць". Гэты стэрэатып перакулены спектаклем "Кім". На свае вочы бачыў тынэйджэраў, якія смяяліся і плакалі, назіраючы за сваім аднагодкам, які вучыць дарослых людзей майстэрству жыцця. Сёй-той з крытыкаў знаходзіць у фінале залішне слодычы. Як у шклянцы перасалоджанай гарбаты. Але тэатральная зала на баку драматурга.

"Стомленае сонца", — незласліва і лірычна пажартавала некалі на адрас драматурга жанчына-крытык. Драматург у сваіх інтэрв'ю не раз казаў, што любіць крытыку і крытыкаў. Бяда была б, калі б крытыкі пачалі не з усмешкаю, а ўсур'ёз ствараць арэол вакол драматурга-сонца. А стамляцца, мяркую, яшчэ рана. Хоць і юбілейная мітрэнга. Хоць і тры кандыдацкія дысертацыі ўжо абаронены па творчасці майстра. Бо неперакуленых стэрэатыпаў у жыцці значна больш, чым адораных драматургаў.

Пятро ВАСЮЧЭНКА

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

•Як паведамляе прэс-служба Прэзідэнта нашай краіны, на гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні. У прыватнасці, кіраўнік дзяржавы даў згоду на прызначэнне Уладзіміра Карачэўскага першым намеснікам міністра культуры Беларусі.

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў мастацкага кіраўніка Драматычнага тэатра Беларускай арміі, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Аляксея Дударава з 60-годдзем. "Ваша творчасць добра вядома ў Беларусі і за яе межамі. Дзякуючы шматгранаму таленту і высокаму прафесіяналізму вы занялі асаблівае месца ў літаратуры, тэатры і кіно. Напісаныя вамі цудоўныя п'есы і сцэнарыі да фільмаў назаўжды ўвайшлі ў скарбніцу беларускай культуры", — гаворыцца ў віншаванні.

•Фотафільм гісторыка і рэжысёра Дзяніса Салаша «Нашы касцёлы» заняў першае месца на Міжнародным каталіцкім фестывалі фільмаў і мультымедыя ў Польшчы «NIEPOKALANÓW-2010». У фільме, які складаецца з нерухомых здымкаў, расповед ідзе пра гісторыю беларускіх касцёлаў, выпадкі іх знішчэння і ўзнаўлення.

•Кніга Міхася Тарэлкі і Ірыны Сынковай "Адкуль пайшлі ідалы: помнік рэлігійна-палемічнай літаратуры з рукапіснай спадчыны татараў Вялікага Княства Літоўскага" нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Тэхналогія". У ёй даследуецца арабаграфічны рукапіс канца XVIII стагоддзя з тэкстам на польскай мове з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

•Цэнтр беларускай мовы і культуры пачаў працу ў Бакінскім славянскім універсітэце. Удзел у цырымоніі адкрыцця ўзяў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Таксама існуе дамоўленасць пра адкрыццё азербайджанскага цэнтра ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.

•Адбылася прэзентацыя навуковай манаграфіі Андрэя Катлярчука "У ценю Польшчы і Расіі. Вялікае Княства Літоўскае і Швецыя ў часе еўрапейскага крызісу сярэдзіны XVII ст". Багата ілюстраваная кніга, што ўяўляе сабой беларускамоўнае выданне доктарскай дысертацыі гісторыка, адлюстроўвае спробы ВКЛ заключыць дзяржаўную унію са Швецыяй.

•Другакурсніца Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны Марыя Вялічка перамагла ў міжнародным конкурсе прыгажосці "Міс СНД-2010", што адбыўся ў Арэнбургу. Паводле ўмоў конкурсу ў наступным годзе прыгажунь з розных ВНУ СНД прыме акадэмія, дзе вучыцца пераможца.

•23 чэрвеня ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца трыо-фэст сучаснага мастацтва "Ноч музыкі". Праграма вечара складаецца з выставачнай часткі (будзе дэманстравацца жывапіс і графіка сучасных беларускіх мастакоў, а таксама серыя акварэльных работ народнага артыста Расіі Уладзіміра Васільева) і ўласна музычнай, прысвечанай 200-годдзю Фрыдэрыка Шапэна.

•Сафійскі сабор у Полацку зачыняецца на трохгадовую рэстаўрацыю. Саборны музей, які з'яўляецца і канцэртнай залай, перастане прымаць наведнікаў толькі ў перыяд рамонту даху, які мусіць завяршыцца напрыканцы лета.

•Беларускі тэатральны мастак Аляксандр Салаўёў перадаў 30 сваіх работ у падарунак Віцебскаму мастацкаму музею. Сярод іх абстрактныя кампазіцыі і эскізы дэкарацый, створаныя ў пасляваенныя гады.

Саша ДОРСКАЯ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ВАСІЛЬЕВА Ганна Яўгенаўна, паэтэса

Нарадзілася 18 кастрычніка 1960 года ў горадзе Мінску. Скончыла фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працуе вядучым інжынерам у Навукова-даследчым інстытуце прыкладных фізічных праблем імя А.Сеўчанкі пры Белдзяржуніверсітэце, займаецца навуковай дзейнасцю.

Друкавалася ў часопісе "Новая Немига литературная". Аўтар кніг паэзіі "Моя печаль нашла плечо" (2007) і "Движение легкого крыла" (2009). У апошні ўвайшлі лепшыя вершы, напісаныя аўтарам на працягу 2008 — 2009 гадоў.



СКАКУН Аляксей Сцяпанавіч, публіцыст

Нарадзіўся 1 сакавіка 1946 года ў вёсцы Дастоева Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут, доктар эканамічных навук. Старшыня СВК "Астрамечава".

Пачаў сваю літаратурную дзейнасць з публікацый у раённай прэсе. У рэспубліканскіх часопісах выступаў з вучэбна-метадычнымі, навуковымі працамі. Вядомы як аўтар кніг у жанры публіцыстыкі і мастацкай дакументалістыкі: "Ориентир — новые высоты" (1986), "Деревенская политэкономия" (1990), "Дорога в завтра" (1992), "Право на жизнь" (2001), "Единственный выход, или Три НЭПа "Остромечево" (2008).



КАЖАМЯКА Аляксей Мартынавіч, публіцыст

Нарадзіўся 10 мая 1931 года ў вёсцы Раськоў Клімавіцкага раёна Магілеўскай вобласці. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Служыў ва Узброеных Сілах СССР на афіцэрскіх пасадах, падпалкоўнік у адстаўцы.

Аўтар брашуры "Хроника освобождения Климовщины. Боевые действия войск и работа местных органов власти на территории района осенью 1943 года" (2000). Адзін з аўтараў-складальнікаў кнігі "Воспоминания климовчан-гостарбайтеров" (2005, 2007). У 2008 годзе выдаў кнігу нарысаў "Немцы на Климовщине" (2008).

## Форумы

Сёння завяршаецца V Беларускі міжнародны медыяфорум "Партнёрства ў імя будучыні". На працягу чатырох дзён у Мінску гасцявалі журналісты з 17 краін свету: Расіі, Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Туркменістана, Малдовы, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Узбекістана, Кыргызстана, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Германіі, Сірыі і Вялікабрытаніі.



# Медыя-прастора без межаў

Самыя цікавыя падзеі форуму разгорталіся ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Тут праходзілі майстар-класы з удзелам нацыянальных і замежных медыя-персон – прэзідэнта Міжнароднай акадэміі тэлебачання і радыё Анатоля Лысенкі, прэзідэнта тэлекампаніі ТРК "Цывілізацыя" Льва Нікалаева, галоўных рэдактараў расійскіх выданняў — газеты "Новые известия" Валерыя Якава, часопіса "Медиарынок" Уладзіміра Касюціна, шэф-карэспандэнта газеты "Times" Энтані Халпіна ды многіх іншых. Наведаць "Летнюю школу журналістыкі" і пашырыць свае прафесійныя веды маглі не толькі студэнты інстытута, але ўсе жадаючыя прадстаўнікі СМІ.

Падчас прэс-канферэнцыі напярэдадні адкрыцця медыяфоруму першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч патлумачыла асноўныя мэты мерапрыемства: "На беларускіх тэлеканалах досыць рэдка можна пабачыць рэпартажы з Казахстана, Туркменістана альбо іншых краін, мы не маем шырокай сеткі ўласных карэспандэнтаў. Гэты форум дасць старт такому руху, ён мусіць аднавіць міжнародную інфармацыйную прастору, каб журналісты розных краін мелі магчымасць аб'ектыўна распавядаць пра тое, што адбываецца ў іншых дзяржавах".

У межах форуму таксама стартаваў праект "Беларусь: погляд збоку", падчас якога замежныя журналісты маглі скласці ўражанне пра эканоміку і культуру Беларусі, наведаўшы рэгіёны нашай краіны, галоўныя прадпрыемствы і культурныя аб'екты. А сёння, у заключны дзень форуму, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбываюцца дыскусіі, прысвечаныя галоўным чынам інтэграцыі краін постсавецкай прасторы.

Алена НАЧАЛАВА

## З нагоды

Зусім нядаўна Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва адсвяткаваў 50-гадовы юбілей. Калегі-архівісты, даследчыкі літаратуры, пісьменнікі, дырэктары музеяў і буйных бібліятэк, мастакі, акцёры сабраліся ў актавай зале філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, каб урачыста павіншаваць калектыў архіва з гэтай значнай датай.



# Масток паміж эпохамі

Для архіва-музея літаратуры і мастацтва найвышэйшым сэнсам ёсць збор і захаванне літаратурнай і мастацкай спадчыны беларускага народа. Тут кожны дакумент, кожны фотаздымак — каштоўнасць. Асабліва важнымі яны з'яўляюцца для наведвальнікаў архіва — людзей, апантаных мінуўшчынай, якія працуюць над кнігай, праводзяць навуковыя даследаванні.

Дырэктар БДАМЛМ Ганна Запартыка адзначыла, што перад юбілеем вывучаліся многія старонкі гісторыі архіва, якія раней былі невядомымі. І, што адметна, самы першы фонд Міхася Машары быў прыняты яшчэ да стварэння афіцыйнага архіва. Людзі, якія яго прымалі, мелі ўпэўненасць, што архіў будзе адкрыты.

У час імпрэзы ўспаміналі тых, хто працаваў у архіве з самага пачатку яго існавання, прыгадвалі і значныя старонкі дзейнасці гэтай установы. Сённяшні БДАМЛМ адрозніваецца ад таго, якім ён быў у 1960 — 1970-х. Зараз тут працуюць сапраўдныя прафесіяналы. Але іх дзейнасць поўніцца тым жа энтузіязмам, якім валодалі яго першыя супрацоўнікі.

Дырэктар дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Беларусі, кандыдат гістарычных навук Уладзімір Адамушка адзначыў, што апошнім часам архіў атрымаў новы ўздым, ён многа працуе на імідж галіны, краіны і стаў тым архівам, які ніхто ў галіне на працягу апошніх пяці год не можа дагнаць па колькасці выстаў, што праводзяцца на аснове дакументаў з яго фондаў.

Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі звярнуў увагу на тое, што сёння нельга ў паўнаце і цэласнасці прадставіць нашу культуру без архіва-музея літаратуры і мастацтва. Матэрыялы, якія ў ім захоўваюцца, запатрабаваныя цяпер, але яшчэ больш яны будуць патрэбныя заўтра. Бо чым далей мы адыходзім ад тых людзей і памятных падзей, тым больш значнымі становяцца фонды архіва-музея.

Ганна БАСОРЫНА

На здымку: віншаванне з юбілеем ад намесніка міністра культуры Беларусі Тадэуша Стружэцкага.

Фота Кастуся Дробава

## Конкурсы

# Сто аўтографаў для Буда-Кашалёва

Творчы праект штотыднёвіка "ЛіМ" — "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў — у бібліятэкі Беларусі" крочыць па рэгіёнах краіны. У Гомельскай вобласці пераможцам па выніках падпіскі на нашу газету на I паўгоддзе 2010 года стала Буда-Кашалёўская цэнтральная раённая бібліятэка. Ёй уручаны сто кніг беларускіх аўтараў з дарчымі надпісамі творцаў.

Як паведаміла дырэктар бібліятэкі Ірына Ахрэменка, "ЛіМ" у Буда-Кашалёве пераважна чытае насельніцтва ва ўзросце ад 20 да 40 гадоў. Гэта ў асноўным людзі, якія працуюць, навучэнцы ды студэнты. Студэнты-завочнікі, якія вучацца ў ВНУ Гомеля, Брэста і Мінска, але родам з гэтых мясцін, па добрай звычцы абслугоўваюцца ў скарбніцы, з дзяцінства ім знаёмай. Агулам у структуру раённай бібліятэчнай сістэмы ўваходзяць 35 устаноў: цэнтральная і 34 яе філіялы, у ліку якіх дзіцячая, дзве гарпасялковыя і шмат сельскіх. Між іншым, самая паважная па ўзросце — Івольская сельская бібліятэка, якой больш як 80 гадоў! Зона яе абслугоўвання — каля 550 жыхароў. Сельскія бібліятэкары ўлічваюць нават сезонную занятасць сваіх чытачоў, пажылым і тым, хто мусіць падоўгу затрымлівацца на працы, носяць кнігі дадому. Кнігі і перыёдыку ў рэгіёне актыўна чытаюць! "ЛіМ" — сярод запатрабаваных выданняў.

Між іншым, стартавала падпіска на другое паўгоддзе 2010 года. І значыць, у акцыі "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў — у бібліятэкі Беларусі" будзе працяг. Запрашаем усе бібліятэчныя сістэмы да супрацоўніцтва!

Ірына ТУЛУПАВА

## Памяць

# Баліць жывым

Тэму Вялікай Айчыннай вайны развівае ў сваёй новай кнізе "Непраходзячы боль" вядомы журналіст і пісьменнік Мікола Леўчанка. Працуючы галоўным рэдактарам быхаўскай раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя", ён запісаў успаміны ўраджэнцаў Быхаўшчыны, малалетніх вязняў фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў, падлеткаў, якія былі вывезеныя на прымусовую працу ў Германію ці сталі інвалідамі ў час Другой сусветнай вайны.

Дзецям той пары хапіла ліха, але яны вытрымалі ўсе нягоды, не здрадзілі Айчыне, вярнуліся дадому і выраслі годнымі грамадзянамі нашай краіны. У 2009 годзе такіх пацярпелых ад вайны налічвалася ў Быхаўскім раёне 134 чалавекі. Пра ўсё гэта і расказвае Мікола Леўчанка ў змястоўнай і поўнай трагізму кнізе. Яна ілюстравана фотаздымкамі з архіва газеты "Маяк Прыдняпроўя" і асабістых архіваў герояў аповедаў.

Выданне ажыццёўленае за сродкі Быхаўскага райвыканкама, паступіла ў бібліятэкі і школы, выкарыстоўваецца ў патрыятычным выхаванні падрастаючага пакалення.

Міхась КАВАЛЁЎ

## Літ-абсягі

Прэзентацыя гэтай незвычайнай кнігі распачалася выступленнем удзельнікаў творчай групы гісторыка-краязнаўчага народнага музея "Невычэрпная крыніца гісторыі" гімназіі № 25 г. Мінска. Яны прадставілі аўдыторыі тэатральна-музычныя мініяцюры на ваенную тэматыку.

Член Беларускага саюза мастакоў Якун Хайрулін, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў над выпускам плакатаў у Ташкенце, падчас прэзентацыі перадаў у музей сапраўдныя рэліквіі — арыгіналы ваенных паштовак, ручку, з дапамогай якой ён сам пачынаў працаваць, і апісанні працы па стварэнні плакатаў.

Ала Корбут, намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва", заўважыла, што для выдавецтва выхад такога каталога — вялікі гонар. Кніга плакатаў — гэта пачуцці тых людзей, якія ў гады вайны абаранялі родную зямлю. Вершы, песні і плакаты паказваюць нам праўду пра вайну.

Увазе гледачоў была прадстаўлена мультымедыйная прэзентацыя плакатаў, што ўвайшлі ў каталог. Галіна Паўлоўская, аўтар-складальнік выдання, старшы навуковы супрацоўнік музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пазнаёміла прысутных з гісторыяй развіцця плакатнага мастацтва, на прыкладах паказала эвалюцыю мастацкага вырашэння ад простага да сапраўдных вяршынь палітычнай сатыры. Галіна Уладзіміраўна падзякавала першым супрацоўнікам музея, якія, пачынаючы з 1944 года, збіралі калекцыю.

# Надзейная крыніца гісторыі

У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прайшла прэзентацыя каталога "Родина-Мать зовет! Плакаты Великой Отечественной войны", што выйшаў у РВУ "Літаратура і Мастацтва" да 65-й гадавіны Перамогі. Каляровае ілюстраванае выданне ўтрымлівае 418 плакатаў, створаных 157 мастакамі. Выданне здзейснена пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі. Каардынатарам праекта выступіў Сяргей Азаронак, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а фатографы Кастусь Дробаў, Валерый Сідрыкаў, дызайнер Уладзімір Шолк прыклалі шмат намаганняў, каб каталог атрымаўся якасным.



Сваімі ўражаннямі ад каталога падзяліліся і ветэраны. Уладзімір Ракоўскі расказаў, што яму яшчэ з ваенных часоў запомніліся плакаты мастакоў Кукрыніксаў. Яны падбадзёрвалі, нагадвалі салдатам пра тое, што яны робяць правільную справу. Яўгенія Канавалава, старшыня камісіі жанчын-удзельніц вайны, выказала падзяку за тое, што ветэранаў не забываюць, беражліва і з пашанай да іх адносяцца. Такое стаўленне да жывых ветэранаў — даніна памяці ўсім удзельнікам вайны.

Аляксандр Ульяновіч, у мінулым адзін з дырэктараў музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, заўважыў: "Сёння мы маем альбом, і можам сказаць, што наша праца не знікла дарма. Ён пойдзе ў людзі і многім раскажа пра вайну".

Літаратурна-музычная гасцёўня, прадстаўленая членамі творчай групы "Акорд" пад кіраўніцтвам Тамары Залескай, завяршыла прэзентацыю.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: як знак памяці і пашаны кнігі былі падораныя прысутным на імпрэзе ветэранам.

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

Гомельскі абласны цэнтр народнай творчасці выпусціў у свет адразу тры зборнікі п'ес драматурга Васіля Ткачова: "Жаночы вулей", "Кветкі і тайнае каханне Макізара" і "Мая жонка хоча замуж". Акрамя твораў, што далі назвы зборнікам, у кнігах надрукаваныя п'есы "Снукер", "Дошкі", "Сланечнік з левай кішэні", "Следчы эксперымент" і казка "Тайна чорнага каменя". Гэтыя п'есы Васіля Ткачова пасяхова папаўняюць сёння рэпертуар не толькі народных тэатраў, але і прафесійных. Дарэчы, цэнтр народнай творчасці зрабіў і электронны варыянт згаданых кніг.

Мікола ГУЛЕВІЧ

Вынікам супрацоўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускай дзяржаўнай філармоніі стаў майскі канцэрт "Вясенняе натхненне". На сцэне Дома літаратара свае майстэрства дэманстравалі шоу-балет "Феерыя", салісты філармоніі Ганна Янкоўская і Ігар Задарожны, кампазітар Алег Чыркун, а таксама вядучыя Святлана Паўлішына і Аляксандр Бабарыкін, якія таксама паказвалі свае артыстычныя здольнасці: першая — як спявачка, другі — як парадыст. Прыемна, што ў гэтай філарманічнай кампаніі не згубіліся і пісьменнікі: гледачы не меншымі апладысментамі, чым прафесійных артыстаў, узнагародзілі выступленні Васіля Найдзіна і Анатоля Зэкава.

Ганна БАСОРЫНА

Літаратурнае свята адбылося на радзіме вядомага пісьменніка, сакратара Праўлення СПБ, старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова. Знакамітага земляка і яго сяброў сустракалі ў роднай Глухскай сярэдняй школе. Амаль дзве гадзіны гучалі вершы М. Пазнякова і песні на яго словы ды на словы іншых аўтараў у выкананні вучняў, а таксама саліста Дзяржаўнага ансамбля "Свята" Вячаслава Статкевіча, якому акампаніраваў кіраўнік ансамбля "Мінскі гармонік" Іван Раманчук. Прачытаў свае новыя вершы, адказаў на пытанні, уручыў падарункі і Міхась Паўлавіч. Свята працягвалася да позняй ночы каля бацькоўскай хаты ў вёсцы Забродддзе, пад магутнымі стопяцідзесяцігадовымі клёнамі. На другі дзень зямляка віталі ў горадзе Быхаве, у раённым Палацы культуры. Прайшла тут і прэзентацыя новай кнігі прозы М. Пазнякова "Паміж радасцю і болем". З асаблівай цеплынёй сустрэлі літаратара дырэктар раённай бібліятэкі Наталля Кроза, галоўны рэдактар райгазеты "Маяк Прыдняпроўя", пісьменнік Мікола Лелучанка ды іншыя.

Павел КУЗЬМІЧ

У Курску (Расія) выйшаў з друку літаратурна-мастацкі альманах расійскіх, украінскіх і беларускіх аўтараў "Междуречье" ("Единение"). Па ліку гэта ўжо дваццаць дзевятая кніга міжнароднага выпуску твораў літаратараў трох братніх краін. Выдаецца ж гэты альманах з 1994 года. Салідны том — 280 старонак — утрымлівае некалькі раздзелаў: тут і паэзія, і проза, і публіцыстыка, ёсць нават тэксты песень з нотамі. У раздзеле «Славянское братство» змешчаныя беларускамоўныя творы паэтаў Ніны Шкляравай, Тамары Кручэнкі, Мікалая Ждановіча, Генадзя Говара і некаторых іншых аўтараў. На паэтычных старонках зборніка чытач сустрэнецца з творамі Лілії Вялічкі, Алега Ананьева, Веры Кваткоўскай, Ані Чумаковай, Міхаіла Міронава. Беларускую прозу ў кнізе прадставілі пісьменнікі Уладзімір Гаўрыловіч, Васіль Ткачоў, Міхась Сліва, Іван Лосікаў. Прыемна, што выданне выйшла з друку на выдатнай паперы тыражом 999 экземпляраў, добра аформлена, мае ілюстрацыі. А самае галоўнае — у кнізе шмат цудоўных твораў, якія прынясуць сапраўдную асалоду чытачам, зблізяць народы Расіі, Украіны, Беларусі.

Міхась КАВАЛЁЎ

## Арт-лінія

# Усмешкі ад Марыны

З чарады падзей мастацкага жыцця сталіцы вылучылася выстаўка арыгінальнага жанру графікі, карыкатуры "Усмешкі дорыць нам вясна" Марыны Гарэлавай, зладжаная ў зале грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы. У тэматычнай разнастайнасці і гумарыстычнай насычанасці экспазіцыі пераканаліся не толькі сталічныя журналісты, а і прадстаўнікі цэнтра інтэлектуальнай уласнасці, праваахоўных структур ды іншыя ўдзельнікі шматлікіх мерапрыемстваў, наведвальнікі Дома прэсы.

Марына Гарэлава прадставіла на гэтай выстаўцы не толькі гумарыстычныя, але і сатырычныя малюнкі, а таксама філасофскія работы. Добрыя ўсмешкі над пацешнымі сітуацыямі штодзённага жыцця ("У стаматолага", "Пагладзіла", "Дазвольце прадставіцца") суседнічаюць з развагамі на экалагічную тэматыку, што прымушае задумацца пра глабальныя праблемы забруджвання навакольнага асяроддзя, недахопу пітной вады і пра іншыя небяспекі, што падпільноўваюць чалавецтва ("Зямля", "Кропля вады").

Адмысловай увагі вартая работа "Талерантнасць", якая выразна і эмацыйна паказвае, што, нягледзячы на існыя жыццёвыя супярэчнасці, людзі могуць быць вышэй за іх, калі паспрабуюць знайсці злучальную нітку паразумення — аснову добрасуседскіх адносін. Нездарма талерантнасць — адна з адметных рыс беларусаў. Таксама ад пільнага погляду мастака не схаваліся праблемы сям'і ("Самае каштоўнае"), школы ("Прыватызацыя", "Целаахоўнік"), такія негатыўныя з'явы, як хабарніцтва ("У міністэрстве"), крадзеж ("Час збіраць камяні"), п'янства ("40°").




Глыбіня і дасціпнасць вырашэння тэмы спалучаюцца ў творах мастачкі з графічным майстэрствам, упэўненай тэхнікай выканання. Жывыя лініі, выразныя контуры, кантрастныя супастаўленні дазваляюць дасягнуць мастацкай пераканаўчасці і эмацыйнага ўздзеяння.

Марына Гарэлава не раз дарыла ўсмешкі чытачам шматлікіх газет і часопісаў. Больш як 30 выданняў (у тым ліку і "ЛіМ". — Рэд.) на працягу 15 гадоў творчай дзейнасці мастачкі апублікавалі сотні яе дасціпных і актуальных карыкатур. Жыхары Слуцка, Капыля, Горак, Барысава атрымалі зарад бадзёрасці і аптымізму, наведаўшы персанальныя выстаўкі мастачкі, якія адбыліся ў гэтых гарадах.

Апошнім часам з творчасцю нашай таленавітай суайчынніцы пазнаёміліся і замежныя гледачы. Яна ўдзельнічала ў шэрагу міжнародных выставак і фэстаў за межамі Беларусі. Яе малюнкі змешчаныя ў каталогах карыкатур у Балгарыі, Бельгіі, Сербіі, Іране. Малюнкі Марыны Гарэлавай нібы добрае надвор'е: яны прымушаюць забыцца на кепскі настрой, дораць нам радасць і ўсмешку.

Антаніна ПАЎЛОВІЧ

На здымку: Марына Гарэлава "Талерантнасць".

Фота аўтара

## Повязі

# Радкі, прапушчаныя праз сэрца

Дабрачынная літаратурна-музычная вечарына "Голас сэрца" прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа з нагоды чарговай гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Пісьменнік Анатоль Зэкаў, адзін з удзельнікаў вечарыны, адзначыў, што, па сутнасці, на нашай абпаленай Чарнобылем, забруджанай радыяцыяй зямлі ўжо вырасла новае пакаленне. Але наступствы Чарнобыля, на жаль, будуць працягвацца не ў адным пакаленні. Гэта наш боль, трагедыя, якія не пакідаюць нас і сёння.



Па вялікім рахунку, у беларускай літаратуры пасля тэмы Вялікай Айчыннай вайны чарнобыльская тэма стала другой па сваёй значнасці і трагічнасці. Многія паэты, празаікі, драматургі адгукнуліся сваім сэрцам, сваімі радкамі на гэту тэму: выйшлі раманы, аповесці, зборнікі, паэтычныя творы. Гэта тэма будзе яшчэ доўга адгукацца ў літаратуры.

Да Анатоля Зэкава далучыўся пісьменнік Міхась Башлакоў. Яны распавялі прысутным пра паездкі і выступленні ў забруджаных раёнах, перасяленцаў, чыталі свае прачулыя, прапушчаныя праз сэрца вершы на чарнобыльскую тэматыку.

Але Беларусь не засталася сам-насам з гэтай бядой. Шматлікія краіны прапанавалі сваю дапамогу, у тым ліку Ірландыя. Старшыня Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч (дарэчы, яна з'яўляецца намеснікам старшыні таварыства дружбы і культурнай сувязі "Беларусь — Ірландыя") расказала пра гісторыю беларуска-ірландскіх сувязей у паслячарнобыльскі час, сумесныя дабрачынныя акцыі, аздараўленне дзяцей, пра кнігі ірландскіх аўтараў пра чарнобыльскую аварыю. Шмат ірландскіх валанцёраў і па гэты час прыязджае ў Беларусь, працуе ў інтэрнатах і дапамагае нашым дзеткам.

Па ініцыятыве таварыства дружбы і культурнай сувязі "Беларусь — Ірландыя" і Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" у той вечар адбылася сустрэча з вядомым піяністам лаўрэатам прэміі імя Ф. Шапэна Майкам О'Руркам. Спадар О'Рурк — вядучы ірландскі піяніст, які вывучаў ігру на фартэпіяна пад кіраўніцтвам Марселя Чампі, вучня Клода Дэбюсі.

Выдатны піяніст невыпадкова прыехаў у Беларусь: шмат гадоў таму каля Навагрудка жылі яго продкі — графы О'Рурзі. Спецыяліст Камітэта па архівах і справаводстве Беларусі, даследчыца беларускіх каранёў роду ірландскіх графаў О'Рурках Марына Ялінская азнаёміла прысутных з цікавымі фактамі з гісторыі гэтага роду і падарыла яго прадстаўніку выяву радавода герба О'Рурках. У знак падзякі таленавіты нашчадак выканаў для ўдзельнікаў вечарыны некалькі твораў знакамітага ірландскага кампазітара-рамантыка Джона Філда.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Марыя і Міхась Міцкевічы.

Фота аўтара

# Аркестр, які ведаюць усе

Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь заняў сваю адметную нішу ў культурнай прасторы краіны, заваяваў давер і любоў мільёнаў слухачоў, набыў аднадумцаў у розных краінах свету.

Калектыў маладых музыкантаў вызначаецца высокім прафесіяналізмам, універсальнасцю. Іх майстэрства ацэненае публікай, выклікае самыя ўхвальныя водгукі. Мішэль Легран, прыкладам, сказаў так: "Усе музыканты граюць з такім энтузіязмам і задавальненнем, што шчасце дасягае самых аддаленых куточкаў залы, пасля даходзіць да пульта кіраўніка аркестра, які дырыжыруе з сапраўдным любоўю да музыкі".

Што новага ў творчасці Прэзідэнцкага аркестра? Пра гэта мы спыталі ў мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора калектыву Віктара Бабарыкіна.

— Сем гадоў — гэта невялікі адрэзак часу, але за гэтыя гады вы паспелі дабіцца велізарных поспехаў: на вашых канцэртах аншлагі, вы выступалі з такімі салістамі, як Дэміс Русас, Сара Конар, Дзмітрый Хварастоўскі ды іншымі зоркамі сусветнага музычнага мастацтва. Як вы лічыце, у чым сакрэт вашага поспеху?

— Сакрэту ніякага няма. Проста неабходна займацца любімай справай. Усе нашы музыканты вучыліся альбо ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, альбо ў сярэдніх музычных навучальных установах, для нас занятkі музыкай — гэта, бясспрэчна, прызванне. Ну, а для таго, каб быў поспех, неабходна шмат працаваць, праводзіць рэпетыцыі.

— Мінулы год для Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь стаў паспяховым, плённым, дынамічным. Чым ён вам запомніўся?

— Перш за ўсё — яркім канцэртам у Маскве разам з вядомай спявачкай Сарай Конар. Гэта адзін з нямногіх канцэртаў папулярнай музыкі, ад якога я атрымаў задавальненне.

— А яшчэ летась Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь праводзіў конкурс "Новыя галасы Беларусі", адабраны лепшыя выканаўцы з усіх рэгіёнаў краіны, якія цяпер працуюць у аркестры. Раскажыце пра іх.

— У асноўным яны выконваюць эстрадныя песні, і трэба сказаць, што для гэтых людзей вялікі шанц трапіць да прафесіяналаў, якія працавалі з зоркамі сусветнага ўзроўню. Цяпер мы працуем з выканаўцамі-пачаткоўцамі, якім яшчэ шмат трэба вучыцца як у нас у аркестры, так і самім.

— Віктар Уладзіміравіч, якія планы аркестра на гэты год?

— Мы распачалі тур па Беларусі, будзем выконваць толькі якасную музыку, узнімаць настрой нашым слухачам ды гледачам, якія прыйдуць на нашы канцэрты. Збіраемся нешта паказаць у Мінску, багата плануецца замежных паездак. Думаю, што будзе шмат цікавых праектаў. Апошнім часам з'явіліся маладыя выканаўцы, якіх трэба вучыць працаваць з аркестрам, а гэта досыць складана. Ёсць сярод іх лідэры, магу адзначыць Арцёма Міхаленку, які мае добры рэпертуар, ён займаецца ў Рыгора Палішчука разам з Ягорам Фарашанам.

— Летась Беларусь адзначыла 65-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, сёлета — свята Вялікай Перамогі. Якія канцэртныя праграмы аркестр падрыхтаваў да гэтых дат?

— Канцэртныя праграмы ў нас рыхтуюцца пастаянна, мы з павагаю ставімся да нашых дзяржаўных святаў, ёсць шэраг песень, якія напісалі нашы выканаўцы, кампазітары. Гэта песні Ізмаіла Капланава, Ігара Лучанка, Аляксандра Іванова. У прынцыпе, гэтая тэма досыць шырока прадстаўлена ў аркестры, ёсць рэпертуар, і я думаю, ваенная тэматыка будзе пашырацца яшчэ.

— Жанравая палітра вашага аркестра досыць багатая, а якой музыцы аддаяце перавагу вы самі?

— Класічнай, люблю сімфоніі, музыку для тэатра, оперы. Мне складаней выконваць гэтую музыку як прафесіяналу. Лічу, што выканаць эстрадную песню лягчэй, чым дырыжыраваць альбо паставіць спектакль ці сімфонію.

— Прэзідэнцкі аркестр вядомы ў многіх краінах свету. Вы часта гастралюеце. Падзяліцеся сваімі ўражаннямі ад замежных паездак.

— Летась мы былі ў Польшчы, у Гданьску. Выступалі ў цудоўнай філармоніі, пасля я як дырыжор быў запрошаны ў аркестр Венесуэлы, дзе правёў з аркестрам некалькі рэпетыцый, затым мы выступалі на Кубе. Уражанні вельмі яркія, таму што музыканты — высокія прафесіяналы, аркестр той складаюць — працэнтаў семдзесят — венесуэльцы. Астатнія — іх замежныя калегі. Я прывёз адтуль запісы венесуэльскай, кубінскай музыкі. Мы працуем і з іншымі краінамі, каб наш калектыў чулі і па-за межамі Беларусі.

Уладзіслаў ШЫКУРАЎ

На фестываль у Гродна едуць тыя, хто сцвярдзіў сваё права мовай мастацтва весці дыялог культур. Свята праводзіцца раз на два гады, і, значыць, на гарадзенскай зямлі яно — мінімум чатырнаццаты год! Цягам гадоў характэрныя рысы, уласцівыя народам іх этнічнай радзімы, імкнуліся паказаць беларускія армяне, азербайджанцы, грузіны, індыйцы, а сёлета ўпершыню і галандцы, кітайцы — прадстаўнікі розных нацыянальных супольнасцей. Але за гэты час яны не толькі расказалі пра сваю этнічную радзіму, выявілі свае таленты і здольнасці. Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка і старшыня журы фестывалю Міхась Дрынеўскі пацвердзілі: калектывы набываюць мастацкую моц, становяцца больш прафесійнымі. І — узрастаюць духоўна.



# Фестываль прызямліўся ў Гародні

Заключны этап VIII Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур праходзіў 4 — 6 чэрвеня ў старажытным Гродне. Сяміпялёсткавая кветка — нязменны яго сімвал.




Ідэя правядзення фестывалю нацыянальных культур узнікла напачатку 1990-х. Першы падобны фэст адбыўся ў 1994-1996 гг. Справа ў тым, што ў Гродне праходзіць заключны этап фестывалю, да гэтага святы ладзяцца ў нацыянальных супольнасцях ва ўсіх беларускіх рэгіёнах. Фестываль стаў яркай падзеяй, своеасаблівым аглядам культур розных народаў. Вядома, што трох дзён для гэтага — мала. І ўрачыстае адкрыццё VIII Рэспубліканскага фестывалю адбылося задоўга да згаданых заключных урачыстасцей. А менавіта — летась, у маі, у Белдзяржфілармоніі. Свята пашыраецца, шукаюцца майстры, і відавочнай становіцца новая яго агранка.

Упершыню сёлета адкрыццё урачыстых мерапрыемстваў адбылося на гарадскім стадыёне "Нёман", госці і жыхары горада маглі назіраць трансляцыю адкрыцця на вялікім плазменным экране на Савецкай плошчы. Менавіта з яе удзельнікі фестывалю прайшлі тэатралізаваным шэсцем да спартыўнага комплексу. Гарадская моладзь пранесла 12-метровы "Пакроў Міру", сшыты з лапікаў тканіны, вышыты стужкамі, аздоблены ткацтвам, батыкам, вырабамі са скуры, даслaнымі майстрыхамі з розных краін. У яго цэнтры — пано з сімвалам фестывалю — чароўнай сяміпялёсткавай кветкай.

Свята ў пачатку лета — шматколернае. Цвітуць рамонкі і званочкі, язмін, шыпшына. Насычана-яркія прыродныя фарбы шматкроць адлюстроўваюцца ў нацыянальных касцюмах удзельнікаў, а цеплыня пяшчотнага сонца, якое ўсё яшчэ павялічвае светлавы дзень, разліваецца па плошчах і скверах горада — па ўсім гарадзенскім асяроддзі.

На падворках паказваўся абрад радзінаў, шчыравала сямейная абраднасць як найвышэйшая каштоўнасць, як частачка духоўнага ўзрастання нованароджанага чалавека. Актыўна далучыліся да свята студэнты гарадзенскіх ВНУ, якія таксама сталі ўдзельнікамі многіх мерапрыемстваў. У прыватнасці, "Студэнцкага карагоду" і "Інтэрфэсту".

На набярэжнай Нёмана адкрылі цудоўнай архітэктуры фантан Дружбы. Хутчэй нават не фантан, а вадаспад, выкананы ў выглядзе грота з шасцю воднымі плынямі, скіраванымі ў неба, і шасцю струменямі, якія падаюць долу. Хуткасць руху штучнай воднай плыні сінхранізавана з хуткасцю Нёмана. Адбылася прэзентацыя мастацкай выставы ў галерэі "Крыга", услаўленне выбітных дзеячаў розных нацыянальнасцей, якія зрабілі горад Гродна цікавым і прыгожым, пачынаючы ад француза Жан Эмануэля Жылібера, заканчваючы чувашом Мікалаем Волкавым, які стварыў першую падпольную арганізацыю ў гады акупацыі. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Волкаву стала адной з падзей, арганізаваных чувашскай суполкай.

І, бясспрэчна, ніхто не мог прамінуць Замкавую гару — гістарычны цэнтр, у якім разгортваліся не менш значныя падзеі. У велічным Старым замку размясціўся літоўскі падворак, у Новым замку — польскі. На апошнім разгарнулася кніжная выстаўка — якраз блізу Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Карскага. У яе чытальнай зале таксама была выстава, прымеркаваная да шыкоўнага,



багатага сваёй эмацыянальнай насычанасцю свята паэзіі "Бацькаўшчына светлая мая". На свяце прысутнічалі беларускія творцы, знаныя літаратары з Польшчы, іншых краін, таксама прыехалі госці з Берасцейшчыны. Але гэтая падзея вартая асобнага аповеду.

А ў самім Гродне, багатым гісторыяй, яшчэ раз пацвердзілі: тут шануюць гісторыю іншых народаў і клапатліва аберагаюць сваю. З новага навучальнага года тут плануюць уводзіць спецыяльны курс — гродназнаўства. Для гэтага падрыхтаваны навучальныя дапаможнікі і прайшлі падрыхтоўку спецыялісты, якія змогуць яго выкладаць. Дзейнічае праграма "Спадчына", рэалізуецца праект "Невядомая Еўропа". Адрэстаўраваныя гістарычныя памяшканні, дбаюць пра тое таксама, каб зрабіць Гродна горадам-музеем пад адкрытым небам.

Загадкавая душа гарадзенская. Пры вялізным бюджэце фестывалю каля 65 працэнтаў яго сродкаў — спонсарскія. Такая дапамога сапраўдных мецэнатаў: толькі высокаадукаваны і інтэлігентны чалавек у наш прагматычны век не эканоміць, а, наадварот, укладае грошы ў культуру. І яны апраўдваюць сябе! Прыклад фестывалю — таму сведчанне.

Метафарычная таямнічая кветка — сімвал фестывалю — цяпер у выглядзе прыза (выраб шклозавода "Нёман") падораная кіраўнікам нацыянальных супольнасцей. У яе — сем пялёсткаў, а адзін нібыта адарваўся і паляцеў па прасторы з адвечным пытаннем: "Любіць — не любіць?". Што і каго любіць гэты край? — Людзей, якія вытрымліваюць жыццёвыя выпрабаванні, прызнаных майстроў — не па прафесіі — па духу. Натхнёнае слова, багатую спадчыну, людскую нашу зычлівасць. Але марная справа — адказваць за кагосьці. Паслухаем гарадзенцаў: што скажуць далей?

Загаварылі ўжо пра тое, што многія беларусы за мяжой выказваюць сваю зацікаўленасць фестывалем, і, магчыма, мэтазгодная будзе арганізацыя асобнага, новага фестывалю для беларусаў замежжа. Магчыма, ён пройдзе ў абласцях з цэнтральнай пляцоўкай у Мінску. На канец чэрвеня запланаваны ўжо збор кансультацыйнага савета беларусаў замежжа.

Падчас правядзення сёлетняга Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур актыўна абмяркоўвалася і пытанне пра ўключэнне яго ў Міжнародны каляндар фестываляў — з тым, каб прыцягнуць да яго большую ўвагу ў Еўропе і свеце, каб наш беларускі унікальны творчы форум прэзентаваць і ў замежжы.

Ці будзе гэты фестываль міжнародным, пакажа час, але яго ўсебеларускі характар застаецца непахісным: пад адным беларускім сцягам аб'ядноўваюцца ўсе нацыянальнасці, і ў іх ёсць шыкоўная магчымасць развіваць і ўзбагачаць сваю культуру ў Беларусі.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: госці свята; урачыстасці на стадыёне "Нёман"; літоўскія танцы на падворку ў Старым замку.

Фота аўтара



Адно з паданняў пра назву Магілёва звязанае з імем Льва Данілавіча Могія (Могій Леў — магутны леў), які ў сутоках рэк Дубравенка і Дняпро ў 1267 годзе пабудаваў замак. Але археолагі, якія вядуць раскопкі ў старажытных кварталах, пераканаыя: яны могуць стварыць шкалу-даціроўку па гісторыі горада і даце яго ўзнікнення, якая будзе куды больш дакладнай, чым названы, далёкі ад нашага часу 1267 год.

# Таямніцы горада Магутнага Льва

## На дзядзінцы старажытнага Магілёва

“Пры раскопках гарадзішча выявілася шмат цікавага, — распавядае загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова, доктар гістарычных навук, дацэнт Ігар МАРЗАЛЮК. — Аказалася, што ў зямлі схаваныя матэрыялы значна больш раннія, чым да гэтага лічылася. Самыя унікальныя з іх датуюцца III — V стагоддзямі, ёсць артэфакты паселішча кіеўскай культуры, потым, у канцы X — пачатку XI стагоддзяў Магілёў ужо быў пагостам, цэнтрам збору даніны. Таму што знойдзена кераміка з княскімі клеймамі. Прычым вельмі архаічнымі, якія дазваляюць сказаць, што хутчэй за ўсё прадстаўнік княскай адміністрацыі быў у Магілёве не пазней 1003 года.

Такой думкі прытрымліваецца і даследчык з Санкт-Пецярбурга Сяргей Бялецкі, які лічыць, што самы ранні трызубчык, які мы знайшлі на гарадзішчы, хутчэй за ўсё належаў сыну Полацкага князя Ізяслава. Таму што пазней знак быў бы іншым”.

Шмат якая інфармацыя ды новыя звесткі з гісторыі горада актыўна збіраюцца ў галоўнай навучальнай установе рэгіёна — МДУ імя А. Куляшова. Між іншым, на кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін створана адзіная ў краіне археалагічная лабараторыя — В. Ф. Капыціна.

Лабараторыя — быццам адмысловы музей, які складаюць шэраг экспазіцый. Гэта звесткі пра жыццёвы і творчы шлях знанага даследчыка В. Капыціна, пра гісторыкаў, якія вывучалі край, раскопваючы розначасовыя пласты горада. Праўда пра яго мінулае схаваная там, у зямных глыбінях. І ад таго, як змогуць прачытаць яе навукоўцы, разгадваючы знойдзеныя ў зямлі падказкі гісторыі, залежыць узровень нашай дасведчанасці пра падзеі, што папярэднічалі нашаму часу. Таму невыпадкова ў лабараторыі — шмат рэчаў, знойдзеных пры раскопках, старажытныя прылады працы, ілюстрацыі — убранне князя, багатай жанчыны...

Але самае каштоўнае — што ў лабараторыі сабраныя і кнігі-манаграфіі, навуковыя працы. Сучасныя даследчыкі не прамінаюць гэты пакой. Ды і кафедрай за апошнія два дзесяцігоддзі зроблена нямала: у вывучэнні гісторыі гарадоў кропку ставіць пакуль яшчэ рана.

“Гарадзішча, каскад яго помнікаў, — заўважае Ігар Марзалюк, — месца дабрадатнае. Аналіз некаторых знаходак сведчыць: тут былі стаянкі нават каменнага веку. Але калі гаварыць пра тое, што бліжэй за ўсё і больш даследаванае менавіта па гісторыі горада, дык згадваюцца два помнікі археалогіі — Пелагеeўскае гарадзішча, гарадзішча Змяёўка — каля сучаснага кінатэатра “Кастрычнік”. І месца, дзе знаходзіўся дзядзінец старажытнага Магілёва. Гэта ўмацаванае гарадзішча, на якім першапачаткова існавала паселішча кіеўскай культуры. Намі знойдзены матэрыялы III — V стагоддзяў, затым назіраецца нейкі перапынак у жыцці. І потым з канца X стагоддзя і надалей гэта быў важнейшы цэнтр гарадскога жыцця, дзе канцэнтравалася ўлада, дзе размяшчалася замкавая адміністрацыя. І так доўжылася прыкладна да канца XVIII стагоддзя. Пасля замак не адыгрываў ужо вялікай ролі, паволі занепаў. У XIX ст. там быў закладзены цудоўны парк, заснаваны губернатарам горада Аляксандрам Станіслававічам Дэмбавецкім”.

Ігар Марзалюк пачаў самастойныя даследаванні ў Магілёве ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Археолагамі знойдзены вельмі вялікі пласт, які сведчыць пра росквіт культуры ўсходнеславянскага паселішча якраз у XII — сярэдзіне XIII стагоддзя. “Шмат шкляных бранзалетаў знойдзена, у нашай калекцыі знаходзіцца нават бранзалет з кірылічным надпісам унутры, — тлумачыць Ігар Марзалюк. — Гэта першае сведчанне пісьменнасці магілёўцаў”.

Пры раскопках упершыню былі знойдзеныя рэшткі будаўнічых матэрыялаў XII — XIII стст. Сярод рэчаў — шмат цікавага. Да прыкладу, берасцяныя паплаўкі, якія да болю нагадваюць берасцяныя граматы. Але гэта былі менавіта паплаўкі. Даследаванні гэтай часткі горада сведчаць, што ў сярэдзіне XII — XIII стагоддзяў гэта быў вялікі горад на памежжы Полацкага і Смаленскага княстваў і належаў хутчэй за ўсё да друцкага ўдзелу Полацкай зямлі. “Гэта пацвярджаецца іншымі дадзенымі пісьмовых крыніц, — тлумачыць даследчык. — Прасочваюцца гістарычныя сувязі з паўночна-ўсходняй Беларуссю, а не, скажам, са Смаленшчынай. Княскія клеймы былі знойдзены і ў Друцку. Гэта дазваляе, між іншым, гаварыць, што Магілёў у свой час уваходзіў у склад Друцкай воласці. Гэта пацвярджаецца іншымі дадзенымі пісьмовых крыніц. Менавіта з Полацкімі землямі, а не са Смаленскімі сувязі прасочваюцца праз усё Сярэднявечча.





## Ці былі тут манголы?

Раскопкі таксама паказалі, што ў Магілёве сярэдзіны XI — XII стагоддзяў адбываліся вельмі трагічныя падзеі. “Мы хочам зрабіць некалькі даследаванняў па радыёвугляродзе. Людзі прыходзілі, выпальвалі пляцоўку, а затым на месцы вогнішча пачыналі насыпаць валы. На месцы вала — праслойка вугалю. Яго і возьмем на даследаванне, — разблытвае нітку гісторыі Ігар Аляксандравіч. — І створым шкалу-даціроўку па горадзе, больш дакладную, чым мы маем цяпер. Да прыкладу, сляды вялікага пажару зафіксаваныя намі ў напластаваннях сярэдзіны XIII стагоддзя. У гэты час Магілёў быў узяты штурмам, спалены. Жыццё горада аднаўляецца толькі ў сярэдзіне XIV стагоддзя. З чым гэта звязана? І з кім гэта звязана? Вядома, што жыхары адчайна супраціўляліся, знаходзіліся фрагментаваныя, пасечаныя чалавечыя косткі. У слоі пажару знойдзеныя і спецыфічныя стрэлы — “зрэзні”. А для “мангольскіх” старажытнасцей, прыкладам, характэрныя стрэлы, якія воіны Усходняй Еўропы не ўжывалі. Тут якраз мы ўбачылі поўны іх набор. І кераміка, і іншыя матэрыялы XIII стагоддзя, і гэтыя стрэлы якраз былі характэрныя для войск Батухана. Згадайма: Гомель быў таксама спалены. І, магчыма, у той жа час, што і Гомель, быў знішчаны Магілёў. Ва ўсякім разе, ускосныя дадзеныя пісьмовых крыніц пра гэта існуюць. А археалагічныя артэфакты даюць інфармацыю больш дакладную. Нягледзячы на прыгожую версію, што манголаў тут не было, альбо што мы ад іх адбіліся, ёсць ускосныя звесткі і доказы, якія нікуды не выкінеш. Шмат знаходзіцца матэрыялаў, якія сведчаць пра ўчынены тут пагром. Адпаведна адбыўся рэгрэс у эканоміцы, матэрыяльнай і духоўнай культуры. І ён выразна прасочваецца”.

## Этапы росту

Усё сказанае было б недасягальна для шырокай публікі без стацыянарных археалагічных раскопак. У гэтым плане археалогія мае каласальны патэнцыял. Таму што менавіта дзякуючы яму можна “прачытаць” многія старонкі нашай гісторыі, якіх папросту няма ў іншых крыніцах, але якія фрагментарна недзе прадстаўлены. Любы знойдзены артэфакт, нават просты гаршчок — пэўны злепак эстэтычных, ментальных уяўленняў. Ёсць такое паняцце, як семантыка рэчы. Чалавек, калі даследуе рэчы, максімальна выкарыстоўвае, “прачытвае” гэты полісемантычны рад.

Цяпер на падставе знойдзенага матэрыялу на кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін ствараецца карта з этапамі росту горада. Першая





фаза інтэнсіўнага росту — гэта XII — XIII стагоддзі. У XV ст. збольшага афармляецца тая структура, якая будзе характэрная і для пазнейшага часу. І час максімальнага росту Магілёва — калі ён дасягаў межаў 58 гектараў, на той час гэта быў адзін з самых вялікіх гарадоў Беларусі. Справа нават не ў плошчы, а ў заможнасці і багацці. Гэта “залаты век”, калі складаецца сетка пасадаў, калі горад займеў ажно тры ланцугі ўмацаванняў. Першы — замак, другі — стары горад, трэці — новы горад, які таксама абнесены магутнымі бастыёнамі. Між іншым, Магілёў значна менш пацярпеў падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай. Ігар Аляксандравіч тлумачыць шэраг цікавых фактаў.

Як вядома, важнейшым цэнтрам транзітнага гандлю на Усходзе ў канцы XV — пачатку XVII — стагоддзяў быў Смаленск — горад Вялікага княства Літоўскага. У ходзе той вайны Смаленск быў страчаны і ўвайшоў у склад Маскоўскай дзяржавы. Шмат смаленскіх купцоў, выгадаваных у духу гарадскога самакіравання і дэмакратыі і нежадаўшых знаходзіцца пад маскоўскай уладай, з капіталамі, грашыма ўцяклі і дабеглі да Магілёва. Магілёўскія гараджане ўцекачоў сустрэлі не вельмі ветла, але далі ім месца. І ў Баркулабаўскім летапісе, і ў актавых кнігах літоўскай метрыкі працэс прытоку вельмі багатага гарадскога насельніцтва са Смаленска фіксуецца. І так сталася, што Магілёў, у якім да таго часу быў пабудаваны вельмі магутны новы (гаспадарскі) замак, стаў важнейшым цэнтрам транзітнага гандлю з Усходам.

Багацейшай за Магілёў у гэты час у ВКЛ была толькі Вільня. Багацелі на тым, што гараджане скупалі сыравіну, футра па невялікім кошце, а апрацоўка адбывалася ўжо тут. Вельмі шмат мы знаходзім скураных вырабаў. Прычым, магілёўскія тавары канкурыравалі з таварамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Дзякуючы і таму таксама, што існавала вельмі вузкая спецыялізацыя. Былі майстры, якія выраблялі сабаліныя футры. Вялікага росквіту дасягнула металаапрацоўка, магілёўскія збройнікі славіліся зброяй, былі вядомыя і кафляры. Час каласальнага росквіту матэрыяльнай культуры — гэта час, калі горад рос, багацеў і развіваўся. У старым горадзе па вуліцах Ленінская, Першамайская, у межах старажытных кварталаў пры раскопках 90-х гадоў і пачатку гэтага стагоддзя даследчыкамі знойдзены драўляныя маставыя, рэшткі майстэрняў, вельмі шмат каштоўных знаходак, якія зробяць гонар калекцыі любога музея.

## Легенда з гістарычнай хронікі

Але, пагартаўшы слаўныя старонкі мінулага, з Ігарам Аляксандравічам вяртаемся да галоўнага: даты заснавання горада. Зазвычай менавіта першыя згадкі пра яго ў летапісах і становяцца кропкай адліку.

“Справа ў тым, што па археалагічных крыніцах атрымліваецца, што горад заснаваны значна раней, — заўважае мой дасведчаны суразмоўца. — А што датычыць даты 1267 г. — яна ў нейкім сэнсе легендарная. І ўзнікла вельмі арыгінальна. Ёсць польскамоўная хроніка — помнік магілёўскага летапісання. У ім ёсць інфармацыя, што ў 1526 годзе быў пабудаваны новы магілёўскі замак, прычым агаворваецца, што замак да гэтага некалькі соцень гадоў быў. А ўжо перакладчык хронікі спадар Гартынскі аднекуль узяў дату 1267 год. І так яна трывала прапісалася ў гісторыі. Рэальна першы надзейны дакументаваны запіс пра горад сустракаецца ў “Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх”.

“У нас на сённяшні дзень самыя безабаронныя помнікі менавіта археалагічныя, — працягвае роздум пра стан навукі і раскопкі гарадзішчаў Ігар Марзалюк. — Яны — самая прыдатная глеба для прыкладання інтарэсаў так званых “чарнушнікаў”, якія, асабліва не сумуючы, дбаюць, каб найхутчэй знойдзенае прадаць. Паглядзіце, колькі скарбаў у Інтэрнеце адкрыта выстаўляецца на продаж. І які фінансавы ўрон такія дзялкі наносяць дзяржаве. У нас на паперы ахова помнікаў ёсць. Але інспектар аховы помнікаў можа пры выпадку акт скласці, а павінна быць служба, якая мае штрафныя санкцыі і якой лягчэй вырашаць пытанні з афіцыйнымі ўстановамі. Можа, тады гарадскія скарбы былі б і больш даследаваныя”.

Ірына ТУЛУПАВА
Магілёў — Мінск

На здымках: І. Марзалюк; кераміка з расчэсамі; на раскопках горада; гаршчок сярэдзіны XIII ст.

Фота з архіва Ігара Марзалюка

# Подзвіг паэта-фальклярыста




**Канец XVIII — пачатак XIX стагоддзяў характарызуецца фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці славянскіх народаў і звязанай з ёю цікавасцю да сваёй гісторыі. Адным з праяў нацыянальна-патрыятычнага руху славянскіх народаў стаў славянскі фальклярызм, які выступаў як зброя барацьбы за захаванне народнай годнасці. Да выдатнай плеяды славянскага адраджэння належыць Ян Тадэвушавіч Чачот (1796 — 1847), якому ўдалося зрабіць самую вялікую публікацыю беларускай песеннай паэзіі ў першай палове XIX стагоддзя.**

Сучасная фалькларыстыка мае ў сваім распараджэнні запісы народных песень, зробленыя прыкладна на працягу апошніх 200 гадоў. У асноўным з часоў А. Пушкіна ў Расіі і Я. Чачота на Беларусі. Яны — сучаснікі. І яны — пачынальнікі.

Пачнём з Пушкіна...

Ён першы сярод рускіх пісьменнікаў ацаніў ролю народа ў стварэнні нацыянальнай культуры і першы пачаў мэтанакіравана вывучаць фальклор.

Але ж ён быў не толькі паэт, але і вучоны-даследчык. Намерваўся выдаць зборнік песень, напісаць тэарэтычнае даследаванне пра песні (ёсць толькі план, у якім ён вылучае і ўпершыню абазначае гістарычныя песні). У 1833 годзе Пушкін падараваў П. Кірэеўскаму сшытак са сваімі запісамі песень сялян Пскоўскай губерні (каля 50), прапанаваўшы вызначыць, якая з іх створана самім паэтам. Аналагі народных песень не змог адрозніць ад сапраўных нават сам Кірэеўскі — такі цудоўны імітатар быў Пушкін...

Як бачна, Пушкін вельмі многа зрабіў для асваення фальклору, але пакласці пачатак выданню песень народаў Расіі ў першай палове XIX стагоддзя так і не ўдалося. Гэты практычны пачын увасобіўся ў дзейнасці першага сапраўднага беларускага фальклырыста Яна Чачота на Беларусі.

Для сябе і сваёй радзімы XIX стагоддзе А. Пушкін вызначыў як "жорсткае", для нашай жа радзімы яно было трагічным і жорсткім удвая. Гвалтоўная русіфікацыя прывяла да таго, што Беларусь надоўга знікла з карты Еўропы: была ўжо забаронена не толькі мова карэннага насельніцтва нашай краіны, але нават назва яе "Беларусь" была заменена назвай "Северо-Западный край".

У пачатку стагоддзя толькі ў фальклоры ды яшчэ ў творчасці філарэтаў і філаматаў (членаў тайных студэнцкіх таварыстваў і аб'яднанняў) жыў невынішчальны нацыянальны дух. Трагічным быў іх лёс: арышты, ссылкі, турмы... Кожны з іх заслугоўвае ўдзячнай памяці нашчадкаў за сваю высакародную ахвярнасць. Большасць з іх пісала па-польску. А вось Я. Чачот ад захаплення беларускай народнай паэзіяй перайшоў да творчасці на мове свайго народа ў той "жорсткі" час. Яму — наша асаблівая ўдзячнасць і пашана.

Я. Чачот пачаў ствараць літаратуру якраз на пагарджанай прыгоннікамі роднай беларускай мове. Гэта была падзея невымернай важнасці — упершыню пасля двухсотгадовага маўчання са старонак добра аформленых друкаваных кніг на ўвесь голас загучала жывое беларускае слова. Ян Чачот, які ведаў шэсць замежных моў, смела і доказна прамовіў, што беларуская мова — не дыялект рускай альбо польскай мовы, а самастойная мова, якая мае багатую гісторыю, адлюстраваную ў літаратуры і фальклоры.

Фальклорныя зборнікі Я. Чачота (1838 — 1846 гадоў) з яго уласнымі беларускімі вершамі яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова выхад на гістарычную сцэну аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў. Гэты подзвіг паэта высока ацаніў у 1914 годзе ў артыкуле "Беларускае адраджэнне" Максім Багдановіч, паставіўшы Яна Чачота на чале беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў. У беларускай фалькларыстыцы Я. Чачот — "постаць, можна сказаць, першай велічыні... Гэта быў сапраўдны подзвіг паэта-фальклярыста", — сцвярджае Кастусь Цвірка.

Я. Чачот сабраў каля тысячы беларускіх народных песень і выдаў іх у шасці зборніках пад назвай "Вясковыя песенькі з-пад Нёмана, Дняпра, Дзвіны…".

Выдаўшы першы друкаваны збор беларускіх народных песень, Я. Чачот падрыхтаваў глебу для навуковых даследаванняў народнай творчасці.

Ён меў цудоўны талент паэта-песенніка. Да нас дайшло каля 30 яго вершаў, змешчаных у шасці тамах беларускіх народных песень. Вершы Чачота лёгка кладзіся на музыку, бо ён быў надзвычай чуйны да мелодыкі слова. Яго песню "Прэч, прэч, сум, нудота…" вельмі любіла моладзь. Твор быў напісаны на матыў песні "Сем дзён малаціла, шастак зарабіла…". Ахвотна спявала моладзь і іншыя яго песні, што былі створана на беларускія народныя матывы.

Сваё захапленне песнямі Я. Чачота выказаў Адам Міцкевіч у лісце ад 27 лістапада 1819 года: "Што мяне… узрадавала — прызнаюся табе па-філамацку — гэта твае песні, я бачу ў іх агромністы і хуткі прагрэс з часу твайго ўступлення на пісьменніцкую дарогу. Лёгкасць ды пры тым агонь… пераўзышлі нават тыя надзеі, якія я ўскладаў на цябе".

У 1996 годзе былі нарэшце выдадзеныя (паўтара стагоддзя "хаваліся" ў архіве) Чачотавы "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года" — своеасаблівая гісторыя старажытнай Беларусі ў 55 песнях-баладах. Ян Чачот у свой час марыў, каб "Спевы…" спяваліся… Васіль Ліцвінка ў адным з артыкулаў марыў, "каб яны сталі мастацка-гістарычнай хронікай будовы магутнай беларускай дзяржавы!".

Ніна РУСАКОВІЧ




# Ад пекла да раю

**Сваімі каранямі Таццяна Раманоўская цесна звязана з Ушаччынай — вельмі прыгожай і багатай паэтамі зямлёй. І вось перада мной — першы зборнік яе вершаў "Усё пра каханне", што выйшаў у выдавецтве "Кнігазбор".**

Помню першыя крокі Тані, якая толькі пачынала акунацца ў таемны лірычны свет, — наўпэўненыя, нясмелыя, але разам з тым абнадзейваючыя. Хутка яе вершаваныя практыкаванні былі надрукаваныя ў абласной газеце "Віцебскі рабочы".

Радкі і строфы новых вершаў рабіліся ўсё больш ладнымі, набывалася ўменне не толькі рыфмаваць, але і выказваць думкі ў словах. І не проста ў словах, а ў словах, адухоўленых пачуццямі, сярод якіх вызначальнае — усеабдымнае пачуццё кахання, заўсёды нечаканае і новае, неспатольнае і нават катэгарычнае:

В меру быть щедрым, в меру скупым,
В меру быть умным, в меру пустым,
В меру смеяться, в меру грустить
Можно, но в меру нельзя полюбить.

У гэтым чатырохрадкоўі — уся яна. З яго нарадзіліся іншыя вершы і будуць, як мне здаецца, нараджацца яшчэ і яшчэ. Добра некім сказана: "Жанчыне хочацца любові так, як сасмягламу — напіцца". А Раманоўская кажа пра гэта сваімі словамі: "О тайне женщины немало говорили, / Она сама ее не в силах разгадать. / А ей всего лишь надо, чтоб любили. / Все остальное можно и не знать".

Усхвалявана і трапятліва распавядае дэбютантка пра рознакаляровы дыван лета і золата восені, пяршародную чысціню сняжынак. Прырода не прысутнічае, а жыве ў яе вершах:

Мне снятся удивительные сны:
Травы сиянье, сказочные розы
И небеса бездонной глубины,
Где облаков не сосчитать обозы.

Чытаючы верш за вершам, адчуваеш душу жанчыны, якая імкнецца насустрач святлу і дабру, каханню і сяброўству, адпрэчваючы ману, здрадніцтва, спажывецкую мітусню, самалюбаванне і самалюбства, бо "чем больше людям отдаёшь, тебе тем больше остаётся".

Узаемаадносіны мужчыны і жанчыны — скразная тэма кнігі. Каханне для паэткі — усё. Пачуццю свайму яна аддаецца да самазабыцця, хоць у кожным пачуцці не ўсё так бясхмарна, часта зусім наадварот, нават тады, калі яно, здавалася б, такое бязмернае, цудоўнае і непаўторнае. Не магу ўтрымацца, каб не працытаваць колькі радкоў з нечым парадаксальнага верша "Амаль жарт", у якім Таццяна Раманоўская жадае свайму ворагу "не обессиленную плоть, не пепелище, не суму — пошли, Господь, любовь — ему". І будзе ўсё — ад пекла да раю...

Так жыве, адчувае і ўспрымае гэты свет у сваіх вершах новапалачанка. Піша, паводле яе слоў, нават пра тое, што "даже речи не известно".

Алег САЛТУК

## Калонка Сяргея Грышкевіча

# Тэндэнцыі вызначаюць аблічча



Жыццё складаецца з парадоксаў, а чалавек — з комплексаў, якія цудоўна дэманструе мастацкая літаратура. І гэта заканамерна. Творчасць — адна з праяў псіхічнай дзейнасці, якая вымагае натуральнага выйсця ў канкрэтных справах і ўчынках. Самарэалізацыя за кошт літаратуры дапамагае асобе сцвердзіцца ў сваёй жыццёвай неабходнасці і вартасці (падманных у глыбіннай сутнасці) для абгрунтавання няпростага зямнога шляху і яго сэнсу.

З улікам гэтага ўзнікае пытанне: "Ці магчыма разглядаць мастацкі твор у поўным адрыве ад персоны яго аўтара?". Лічу, што нельга, паколькі тое супярэчыць звычайнай логіцы, якой, на жаль, бракуе сучаснай прозе, дзе прынята розныя абстракцыі і псеўдафіласофскія закідоны вытлумачваць ірацыянальнасцю творчасці і аўтарскай самасцю. Алагічных агрэхі даволі часта сустракаюцца і ў сённяшняй паэзіі. Многія рыфматворцы спісваюць яўныя парушэнні фізічных законаў светабудовы на адметнасць стылёвага почырку, асаблівасці метафорыкі і іншыя непераканаўчыя аргументы, за якімі хаваюцца пасрэднасць і поўная бязглуздзіца.

У напісанні рэцэнзій крытык не можа і не павінен абстрагоўвацца ад асобы аўтара, якая ў мастацкай форме выяўляе жыццёвую пазіцыю, ацэньвае рэчаіснасць, даследуе сацыяльныя праблемы, стварае псіхалагічныя партрэты сучаснікаў... Калі нехта з пісьменнікаў гаворыць, што ў ягоных творах цалкам адсутнічае аўтабіяграфізм і ўласны зямны досвед, ён бессаромна хлусіць і чытачу, і самому сабе. Літаратура спараджаецца ўнутраным светам чалавека: болем, пакутамі, страхамі, крыўдамі, радасцю, шчасцем, каханнем... Адсюль адпаведныя героі, праз якіх аўтар даносіць поўныя ідэі. Персанажы могуць не падабацца, а могуць, чаго сення не назіраецца, выступаць эталонамі маральнасці, вучыць правільнасці. На жаль, сучасныя літаратурныя героі — тыпы малапрыемныя, далёкія ад ідэалу. Яны вучаць аднаму: такімі быць нельга. А вось якімі трэба — пісьменнікі, думаю, і самі дакладна не ведаюць, бо ў жыццёвай, загламуранай мітусні адчуваюць сябе разгубленымі, дзэарыентаванымі і проста непатрэбнымі. У выніку і персанажы атрымліваюцца з псіхічнымі адхіленнямі, крымінальнымі ўхіламі, духоўнай спустошанасцю і фізічным выраджэннем.

Безумоўна, апаэтызаваць сучасную рэальнасць складана. Тэракты, этнічныя войны, прыродныя катаклізмы, эканамічныя крызісы, палітычныя разборкі, татальная карумпаванасць... Ад усяго гэтага чалавеку няскладка. Ратуючыся ад знешніх раздражняльнікаў, ён замыкаецца ва ўнутраным свеце, бо ў знешнім не запатрабаваны. Бязмежная адзінота ўладарыць не толькі на планеце, але і ў літаратуры. Пісьменнікам прасцей пісаць з натуры — тое, што ёсць, а вось напісаць тое, да чаго варта імкнуцца, здольны не кожны. Бо гэта вымагае значных прафесійных высілкаў і духоўнай моцы.

Большасць сённяшніх літаратурных персанажаў выклікае маральную алергію, а часам нават і агіду. Гэтыя героі нецікавыя, бо яны традыцыйна-стандартныя, трафарэтна-шаблонныя, эвалюцыйна неразвітыя. У іх, апрача заганаў, больш нічога няма. Сваім існаваннем яны сцвярджаюць тупіковасць зямнога развіцця і распіваюцца ва ўласнай бездапаможнасці. А інакш і быць не можа, бо па-сапраўднаму прыцягальныя вобразы здольная стварыць толькі яркая, неардынарная, таленавітая асоба, якая прафесійна валодае слоўным майстэрствам і ведае адказы на адвечныя пытанні "куды?", "навошта?" і "за што?". А цяпер згадайце апошнюю прачытаную кнігу і падумайце, наколькі яна вартая быць надрукаванай.

Дзеля чаго пішуцца шматлікія раманы і вершы? Найперш дзеля сябе. Душэўнага спакою. Выпісаўся — і здаецца, што на сэрцы палягчэла і ў галаве пасвятлела.

Аднак кожны занятак павінен быць абгрунтаваны і мець хаця б мінімальны сэнс. Не можаш прапанаваць чытачу эфектыўны рэцэпт ад сучасных нягод — чытай класіку ці сузірай прыроду. Хопіць даставаць іншых уласнай некампетэнтнасцю. Татальнае дылетанцтва і дрымучую непрафесійнасць у сённяшняй літаратуры час ужо выкараняць.

**На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

Перачытваю рамана вядомага не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі літаратуразнаўцы Уладзіміра Гніламёдава "Уліс з Прускі" (2006) і "Расія" (2007), выдадзеныя асобнымі кніжкамі, і сам сабою выстройваецца лагічны рад, у які можна паставіць і аўтара, і яго творы: М. Багдановіч, В. Ластоўскі, М. Гарэцкі, Я. Колас, А. Бабарэка, В. Каваленка, В. Івашын, А. Вечар, Ф. Янкоўскі, Я. Лецка, В. Коўтун… Гэты рад складаецца з людзей, якія пісалі кнігі, артыкулы (і не толькі па філалогіі!), прысвечаныя раскрыццю складаных навуковых праблем, і паспяхова рэалізоўвалі свае здольнасці ў слоўным мастацтве. Тэарэтычныя пазнанні розных галін чалавечых ведаў спрыялі глыбейшай трактоўцы пытанняў гісторыі краіны М. Багдановічам, В. Ластоўскім, В. Коўтун, дапамагалі "адточванню" моўнага майстэрства М. Гарэцкага, Якуба Коласа, Ф. Янкоўскага. Спалучэнне тэорыі і практыкі, іх "узаемадапаўненне" сталі, на мой погляд, той удзячнай глебай, на якой "выраслі" і раманы У. Гніламёдава. Да ўсяго, яшчэ жыццёвы досвед, нібы асялок, "шліфаваў" падзеі, факты, эпізоды і парадкаваў іх у цэласную сістэму.

# У эпічным ключы

Сказаць папраўдзе, чытаючы многастаронкавыя творы прызнанага, тытулаванага навукоўца, перажываў: раптам рацыё пераможа эмоцыё, разважанне, усвядомленае канструяванне тэксту загасяць "памяць сэрца"? Рады, што гэтага не здарылася. Ужо пачатак рамана "Уліс з Прускі" заваражвае чытача сваёй маштабнай змястоўнасцю, непадзельнасцю лірычнага ("стаяў канец жніўня, але дрэвы ўжо паспелі пажаўцець, і на зямлю нячутна, па адным, ападала лісцё"), што выпраменьваюць найперш пейзажныя, побытавыя малюнкі, сцэны інтымнага жыцця, і эпічнага пачаткаў (ёмістыя, часта дакументальна-дакладныя апісанні і пададзеныя праз шматгалоссе грамадскія падзеі; міфы-экскурсы ў гісторыю вёскі Пруска, Палесся, тамтэйшага насельніцтва — велетаў, паказ буйным планам, нібы праз павелічальнае шкло, сцэн бежанства ад Першай сусветнай вайны, жыцця беларусаў у далёкім ад Радзімы Паволжы, іх удзелу ў ваенных баталіях, адлюстраванне падзей 1917-га і пазнейшых гадоў у рамане "Расія").

Аўтар адразу, з першых старонак рамана "Уліс з Прускі", знаёміць нас з месцам дзеяння ("Стаяла Пруска, як і, дарэчы, сёння стаіць на гасцінцы паміж двума мястэчкамі — Камянец-Літоўскам і Высока-Літоўскам"), якое то звужаецца да маштабаў вёскі, асобнай хаты, то шырыцца, ахоплівае Лібаву, Нью-Йорк, Дэтройт, Мінск, Маскву, Самару, выплёскваецца на прасторы Беларусі, ЗША, Расіі. Дзеянне (дарэчы, як таго і вымагае раманны жанр) вельмі павольна перамяшчаецца ў прасторы. Даведваемся ўжо ў пачатку першага твора мы і пра глабальны, і пра канкрэтны яго час. Пра першы — пачатак новага, ХХ стагоддзя — паведаміў прускаўцам вясковы дзівак, вандроўнік, апрануты ў боты "з бліскучымі халявамі", "са звыклай усмешкай на твары", падобны да дзіцяці, Кузёмка; другі, больш канкрэтны (1901), ведаў раней за іншых прускаўцаў, але нікому пра гэта не гаварыў бацюшка Глеб.

У рамане "Расія" дзеянне пачынаецца з вяртання з Амерыкі на радзіму Лявона Кужаля, адбываецца падчас бежанства ў Расію ў 1915 годзе і заканчваецца вяртаннем у Пруску галоўнага героя ў сакавіку 1922 года. Большую частку эпізодаў твора складаюць сцэны працы, адпачынку, застолляў, сутычак з уладамі, што мяняліся ў заволжскай самарскай вёсцы Запалоннае. На першы план у "Расіі" выходзіць паказ лёсу сям'і багацея Ільі Аляксандравіча Платонава, якая прыняла бежанцаў — Лявона Кужаля і яго маці Марылю, сёстраў. Вольнае перамяшчэнне падзей у прасторы і часе стварае эпічную аўру раманаў і дае магчымасць іх аўтару рэалізаваць сябе ў некалькіх кірунках.



Па-першае, у рэчышчы традыцый рэалістычнага мастацтва дасягнута выразнасць контураў кожнай сцэны — бытавой, масавай, "індывідуальнай". Усе яны і служаць рэалізацыі, думаецца, галоўнай задачы, якую паставіў перад сабой мастак слова: паказаць чытачу жыццё паўнакроўнае, ва ўсіх яго праявах і адценнях, захапіцца ім і захапіць чытача. Як вось у гэтым канкрэтным выпадку — апісанні перамоваў Лявонавага бацькі Міхаля з валасным пісарам Пацеем, якое ўключае ў сябе і дэталі партрэта чыноўніка ("гадоў сорак, чырванатвары, дзябёлы"; "гарнітур суконны"; "боты з добрага тавару"), і характарыстыку яго беднай на інтэлектуальнасць натуры (заганарыўся, што назвалі "панам"; пакутуе ад учарашняй папойкі і не саромеецца пасласць наведвальніка па "лёкі" ў манапольку). Такім жа самым парадкам падаюцца ў раманах і дыялогі — часцей разгорнутыя, але не абцяжараныя аўтарскімі каментарыямі, лаканічныя, бо прамаўляюць іх людзі простыя — сяляне, сейбіты, многія з якіх замест подпісу ставяць крыжыкі.

Арыентацыя на шырокае (дэталёвае), непаспешнае (у мележаўскім, чыгрынаўскім стылі) пісьмо дала магчымасць У. Гніламёдаву адлюстраваць старонкі жыцця народа, якія доўгі час па розных прычынах былі па-за ўвагай слоўнага мастацтва: лёс беларусаў, што ад'язджалі ў Амерыку на заробак; пакуты, якія падпільноўвалі беларусаў-бежанцаў у дарозе і ў часовым прыстанку; драматызм эпохі Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, Грамадзянскай вайны і пачатку вяртання да мірнай працы. Падобная манера пісьма дала магчымасць аўтару быць максімальна аб'ектыўным у паказе не толькі сямейна-бытавых, але і грамадска-сацыяльных падзей.

Так, у рамане "Расія" паказаны адрозныя знешне, але адзіныя ў сваім экстрэмізме прыхільнікі рэвалюцыйнай перабудовы жыцця, прадстаўнікі новай улады: былы наёмнік, цяпер "перабудоўшчык жыцця" Фрол забівае былога старасту сяла Запалоннае Мілягіна, сцягвае з яго ног і апранае боты, задаволена выгукнуўшы: "Якраз!". У ворагі рэвалюцыі чэкіст Кудрашоў залічыў нават непісьменных: "Непісьменны — той жа вораг. Ён не ў састаяніі паняць…". Пяцельнікаў — старшыня Запалонскага валвыканкама даводзіць Мальцу, што "для рэвалюцыі <…> патрэбна чыстае грамадства", а нягоднікаў трэба "пад ногаць". Падобная "падрабязнасць" пісьма ў нацыянальнай літаратуры мае вытокі ў паэме М. Гусоўскага "Песня пра зубра", у "Новай зямлі" Якуба Коласа і чорнаўскіх раманах "Вялікі дзень", "Пошукі будучыні", "Млечны шлях" ды іншых творах. Яе выдатным прадстаўніком быў незабыўны І. Мележ, а з прадстаўнікоў філалагічнага пакалення І. Чыгрынаў, В. Адамчык ды іншыя славутыя аўтары.

Творы У. Гніламёдава, наследуючы традыцыі такога пісьма, дапаўняюць іх навацыямі: падзейны сюжэт



агульнага плана паслабляецца, "ператвараецца" ў стужку кінаплёнкі з кадрамі, набліжанымі да чытача ці аддаленымі ад яго на большую ці меншую адлегласць. Многія з іх у адносную цэласнасць "сашчапляюцца" свядомасцю (асэнсаваннем) ці Лявона Кужаля — галоўнага героя, ці самога аўтара, ці іншых герояў, што выступаюць у ролі наратараў. За кошт дыялогаў, дакументальных заставак адбываецца пашырэнне суб'ект-суб'ектных адносін, пісьмо набывае шматграннасць, разнастаіцца апавядальная манера. Ствараецца ўражанне "перарастання" рэалістычнага аповеда ў аповед больш вольны, што служыць перадачы плыні свядомасці, працуе на прыёмы модульнай паэтыкі, прыклады якіх няцяжка знайсці ўжо ў ранніх творах М. Гарэцкага.

Названыя раманы У. Гніламёдава ўяўляюцца мне энцыклапедыяй чалавечых характараў, некаторыя з якіх падчас створаны адным — двума трапнымі штрыхамі… Лявон Кужаль — асоба няпростая, аналітык у жыцці, які ацэньвае тое, як весяляцца ў карчме ў роднай вёсцы хлопцы і дзяўчаты, як прымае-сустракае бежанцаў з Запалоннай Платонаў з жонкай, як паводзяць сябе раненыя ў шпіталях. Часам ствараецца ўражанне, што ён – назіральнік за падзеямі, а не іх актыўны ўдзельнік. Характар цалкам у межах беларускай ментальнасці.

Спакойны, гаваркі, разумны бацька Лявона Міхаль, які памірае заўчасна ад прастуды, так і не вырашыўшы спрэчку з суседам з-за мяжы. Дзед Лявона Кірыла — працавіты, адкрыты для людзей, гіне ў дарозе, у бежанстве, пахаваны на чужых могілках.

Сапернік Лявона Трахім, які ажаніўся, скарыстаўшы яго ад'езд у Амерыку, з Ганнай, — імпэтны, ганарысты, здатны да выпіўкі і скокаў, многімі рысамі нагадвае мележаўскага Яўхіма.

Калі ўспрымаць інтэртэкстуальнасць у агульнакультуралагічным плане, дык можна палічыць невыпадковым і супадзенне іменаў, прозвішчаў герояў твораў Мележа, Гарэцкага, Гніламёдава (Ганна, Лявон), нешчаслівых лёсаў закаханых маладых людзей Ганны Чарнушкі і Васіля Дзятліка, Ганны і Лявона Кужаля.

Сістэма вобразаў герояў раманаў "Уліс з Прускі" і "Расія" прадстаўлена трыма, калі так можна сказаць, складнікамі: гэта беларусы-прускаўцы, расіяне і амерыканцы. Ментальнасць першых прадстаўлена была класікамі нашай літаратуры Якубам Коласам, Іванам Мележам, Кузьмой Чорным, Васілём Быкавым, якія раскрылі характары ўпартых, цягавітых, нешматслоўных Міхала, Васіля Дзятліка, Міхала Тварыцкага, Хведара Ройбы і Петрака Багацькі, багатых і бедных, маўклівых і вострых на язык, сумленных і здольных здрадзіць людзей. Прускаўцы У. Гніламёдава шмат чым падобныя да названых і неназваных літаратурных герояў. Тут пісьменнік ішоў пратаптанай сцежкай. А вось сапраўдным адкрыццём сталі героі-іншаземцы, якія раней не фігуравалі ў творах беларускіх аўтараў.

Амерыканцы карэнныя і былыя эмігранты здзівілі Лявона Кужаля і яго сяброў Піліпко і Цімошу сваім практыцызмам, дзелавітасцю, уменнем усміхацца нават тады, "калі табе цяжка", пунктуальнасцю. Запамінаецца каларытная постаць фермера Бузука — Грыцько (мянушка — містэр Грэць), які сорак гадоў жыве ў штаце Ілінойс, мае сваю ферму, працуе сам і не дае адпачынку (апроч нядзелькі — дня набажэнства) ні сыну Івану, ні наёмным работнікам. Менавіта гэты чалавек вучыць Лявона жыць "не ў статку", а асобна (таму і адгароджваецца ад суседзяў); старацца стаць багатым ("бедны ты нікому не патрэбны"); не бунтаваць, а кіравацца канстытуцыяй, паважаць дэмакратычныя парадкі; верыць у Бога і выконваць яго запаветы ("Хрыстос патрабуе, каб мы любілі бліжняга, як і самога сябе"). Вышэй за ўсё Грыцько і яго сын ставяць працу, бо жывуць з яе.

Аб'ектывізм аўтарскага пісьма асабліва выразна выяўляецца пры паказе жыхароў сяла Запалоннае Борскага павета Самарскай губерні. У. Гніламёдаў стварае вобразы розных і кулакоў (багацеяў), і беднякоў, і сераднікоў, паглыбляючы Мележава выказванне, укладзенае ў вусны Апейкі, пра тое, што і бедныя бываюць розныя, імкнучыся пераадолець традыцыйнае адмоўнае стаўленне да тых людзей, хто цаной вялікіх высілкаў, стараннасці, гаспадарлівасці выбіўся на лепшы хлеб. Дарэчы, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля яшчэ да вайны 1941—1945 гадоў досыць спачувальна ставіліся да герояў, што сумленна дасягнулі матэрыяльнага дабрабыту (вобразы старога Скуратовіча, Язэпа Крушынскага). Такім чалавекам у рамане "Расія" з'яўляецца гаспадар Ілья Аляксандравіч Платонаў. Ён любіць зямлю і працу на ёй. Паважае тых, хто рупіцца, завіхаецца на полі і дома. Таму і Кужалям, што ў яго пасяліліся, выдзеліў граду, запрашае іх за святочны стол і грошы плаціць за старанне. Інтэлігентны, адукаваны, Ілья Аляксандравіч паважае справядлівую ўладу, цікавіцца палітыкай, не крыўдуе асабліва на нявестчынага брата Мішу Касякіна — перакананага рэвалюцыянера. Затое заможнік Мілягін за пуд пазычанага зерня бярэ два, а Елізар Сісяйкін, як павук, аблытвае чалавека працэнтамі за выдадзеную пазыку.

Запамінальныя ў рамане сцэны працы: сяўбы, малацьбы, пакошы. Яны паўтараюцца. Часцей — тройчы. Адбываюцца ў Прусцы, у Амерыцы, у Паволжы. На іх акцэнтуецца ўвага чытача невыпадкова: аўтар хоча давесці (і даводзіць), што праца — аснова чалавечага, вечнага жыцця. Апаэтызаваны ў раманах народныя святы — Каляды, Вялікдзень, звычаі, танцы. Часта гучаць у абодвух раманах прыпеўкі, песні. Віруе паўнаводная, шырокая плынь жыцця чалавечага. Як і ў першай кнізе шолахаўскага "Ціхага Дону".

У. Гніламёдаў ведае кошт мастацкай дэталі, рэдка ўжывальнага, а то і зусім не ўжывальнага слова. Пра ўрадніка Кастанту пішацца: "вялікі, як печ, якую апранулі ў непамерна вялікі шынель і спераду абтыкалі блішчастымі гузікамі". "Круты нахіл", "пастухоўскія абавязкі", "лемантарны перыяд", "навучаецца чытаць", "нешта ды ўчвэраць", "меў нейкае абачанне", "не надта ўпадалі за навукай", "займаўся шавецтвам", — так мог напісаць чалавек, які валодае не толькі літаратурнай мовай, але і яе больш глыбіннымі лексічнымі пластамі — народным, дыялектным словам.

Сучасны літаратурны працэс багаты на таленты. У ім сышліся традыцыйнасць і наватарства, неарэалізм і постмадэрнізм, падобна да таго, як гэта ўжо было на зломе XIX і ХХ стагоддзяў. У рэчышчы мастацкай творчасці, скіраванай на рэалістычную класіку, і развіваецца раманны эпас Уладзіміра Гніламёдава. І, на маю думку, паспяхова.

Мікола МІШЧАНЧУК
г. Брэст

№ 23 11 чэрвеня 2010 г. ЛіМ



## Алена БАБУРЭВІЧ

* * *

Дождж учора.
Сёння.
І заўсёды...
Мора ў Мінску выйшла з берагоў.
І пустуе з гэтае нагоды
Летняе кафэ. А смельчакоў —
Толькі двое.
Б'ецца навальніца
І трапеча палатняны дах.
Двое. Ён нічога не баіцца.
І яна забылася на страх.
Зноў цалуюцца.
Адно дыханне —
Паратунак ад апошніх слоў
Крыўды непазбежнага расстання.
І сціскае іх абдымкі гром.
Дождж учора...

* * *

Балюча прарастаюць крылы.
Такая праца для душы!
Адкінуць смецце, што ёсць сілы,
Стаць кропкай-птушкай у цішы
І — растварыцца.
Страціць цела,
Перятварыцца ў белы дым,
Заўсёды быць адчайна смелай,
Не клапаціцца больш аб тым,
Што плётак жорсткіх павуцінне
Ізноў расставіла сіло,
І верыць, што на аблачыне
Лагодна ўскінеш ты крыло.

* * *

Разгадваць твае
заблытаныя загадкі,
Адчуваць у словах схаваны сэнс,
Лавіць тваіх позіркаў
тайныя знакі
І бачыць учынкаў
двайное дно
Я стамілася.
Давай усё наадварот.

### Сіні і жоўты

Ты — халодны сіні лёд.
Я — гарачы жоўты пыл.
Я — салодкі светлы мёд.
Ты — астылы шызы дым.

Ты — шалёны сіні снег.
Я — апалы жоўты ліст.
Я — далёкі ціхі смех.
Ты — зянацку рэзкі свіст.
Ты — марозны сіні свет.
Я — гаючы жоўты дзень.
Я — твой цёплы мяккі цень.
Ты — ў маёй далоні след.

* * *

Ці думала я, што так цяжка
Твой горад трымаць на плячах?!
Аблічча — застылая маска
Неонавай плямы ў вачах.

Адбітак мой множаць вітрыны —
Сапраўднай сябе не адчуць —
Трамваі, метро і машыны
У розных напрамках вязуць.

Цяпер разумею, як цяжка
Твой горад трымаць на плячах:
І ведаць сапраўднае шчасце —
Паэмы чытаць па начах.

* * *

Ты спыніў мяне на ўзлёце,
Адмяніў усе законы фізікі,
Я не лячу і не падаю,
Я чакаю ў нерухомасці.
Гляджу на зямлю —
Хачу скокнуць.
Гляджу на зоры —
Хачу дакрануцца.
Мой гадзіннік маўчыць,
Не цікае.
З цяжкасцю пераводжу дыханне.
...Адпусці мяне.



## Марыя ДЗЮБАК

* * *

О слова! Лепей за ўсе скарбы
Ты ёсць. І будзеш. І было.
І не хачу я змрочных фарбаў —
Пішу святло.

Пішу любоў, як ласку Бога,
Жывую іскру мар і сноў.
Яе ў душы яшчэ так многа —
Пішу любоў.

Далёкі напамін аб леце...
Усё мінулася, прайшло,
Але трымае мяне ў свеце
Любві святло.

* * *

Настальгія, заве настальгія,
У дзяцінства вядзе за сабой.
Босай выхаджу берагі я,
Ахінёныя ціхай журбой.

Незабудкі ля Сэрвачы любай
Прытулю да сваіх грудзей.
Родных яблынь убор –
белы, шлюбны...
Толькі ночы усё карацей.

Ды і шлях па зямлі кароткі.
Ды ці нам падуладны лёс?
Настальгія, кінь сумныя ноткі —
Ёсць над намі апека нябёс.

* * *

Ёсць у звычайным незвычайнае,
У буднях — вечнае.
Так многа ёсць, і ўсё ж адчайна мы
Шукаем чалавечае.

А шчасце гэта — кожны дзень,
Імгненне кожнае,
І кожны сонечны прамень,
І жыта роснае.
І гэты дождж, і гэты верш,
І снегу срэбра,
І шчасце ў тым, што ты — жывеш.
І — недарэмна.

* * *

Ёсць светлая вечнасць.
Ёсць вечная памяць.
Зямных дзён расквечанасць.
Воля і слабасць.

Ёсць лад і гармонія.
Беды і шчасце.
Ёсць духам нязломныя,
Што ім напасці!

Змагацца і выстаяць.
Верыць і помніць.
Відаць, гэта ісціна,
Промень духоўны.

* * *

Не наракай, што лёс твой горкі.
Скажы сабе:
— Вось што б там ні было,
Пакіну ў свеце безыменнай зоркі
Таемнае і дрогкае святло.

Прайду ў жыцці
накатаваным шляхам,
Нялёгкім
і нязведаным нікім.
Пакіну вершы,
што маім працягам
Гукнуцца ў лесе
рэхам гаваркім.

І палятуць яны
сярод разлогаў,
Парэцкіх даляў
і палян лясных...
Нашчадкі маю зорную дарогу
Уявяць як дзівацтвы
альбо сны.

* * *

Перабрацца па зыбкай кладцы
Лёгка было, як не дзіўна.
Ажына ў лясной пасадцы,
Успамінам — ажына.

Нечаканасць галін калючых.
Жалоба караляў чорных.
Успамін безнадзейна-балючы.
Ўсё мінулася,
ўсё — учора...



Фота Раісы Марчук



## Алесь ТАНКЕВІЧ

**Дэбют**

Нарадзіўся 16 ліпеня 1986 года ў г. Вілейка, Мінскай вобласці. Уваходзіць у склад рэдакцыйнай калегіі Вілейскага гісторыка-краязнаўчага выдання "Волат". Магістрант Беларускага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага універсітэта. Жыве ў Мінску.

### Возера Воўчае

Вы бачылі возера Воўчае?
у чэраве крычаўскіх лірнікаў
у медзі агню і з дзявочаю
пастаццю пышна-цнатліваю

Раўло і цурчэла на водмелі
дзе жвір саступае на кукішкі
бясплённаму сонцу што з Гомелю
сваю барану – наручнікі
за спінаю цягне па роўнядзі

Вы бачылі возера Воўчае?
у снежаньскім пульхным каўнерыку
што сподак агорвае звонячы
ўсёй святочнай халераю

караляў-званочкаў
і просіцца
кліча ля ссечаных весніцаў
сумнае возера Воўчае
поўню ці дзядзькі-месяца

### У хаце мастака

Памёр пустэльнік,
з часам горад апусцеў.
каму пісаць, калі і хто канае?..
у хаце мастака паружавелых сцен
не цешыць баль,
не сыплюцца пашаны

Паўзуць маўклівыя да сцен вякі –
як вернікі: апушчаны галовы
ты быў і сам у срэбраных аковах
твайму настрою верылі шляхі

купальскі вечар спешна леціць ля вакна
і котка хвост прылізвае змакрэлы...
анёлы моляцца на хату мастака
мастак наўмысна прычыняе дзверы

### Лёс акторкі

Ч. А.

стаіць трывогу ў кутах пакуты,
забыць на сорам у лістах папутных
і маляваць сяброў святочны цень...

расці акторкаю несуцяшальнай ролі,
з вакна жалезныя ратаваць таполі
ды сноў кранаць даверасnёвы хмель...

руку рассекчы аб муры касцёла,
прадаць душу ля скверыка масонаў,
каб зашпіліць змакрэлы парасон…

цяплом гаіцца срэбнага пярсцёнка
і накрычаць на поўню ля касцёла,
ды моўчкі заручыцца пасмай валасоў...

забегчы ў хату да дурной суседкі
і расказаць пра поўню і пра кветкі,
…
ды пра вяртанне у дзіцячы сон…

### Світанне

Ноч. Цень хмызоў каля ног –
ад кастрышча прыжмурыўся месяц.
Дзень ад цені дачку не збярог,
аб каменне разбіўшы калені.

Лес, абгорнуты роснай травой,
спатыкнуўся аб свет, як скарыўся…
Не разводзячы вечны настой,
расцярушыў трывогу лісцем.

Слёзы лета на тваіх валасах,
край, лянота, застылая восень.
Вецер крылам пасаг свой раздаў
Думаць, жыць –
дарэмна ды позна.

Чалавек! Не старайся
перахітрыць
трыяду: Бога, Прыроду
і Жыццё.
Гэта яшчэ нікому
не ўдавалася,
і твае высілкі марныя.

# Слова пра братоў меншых



Алесь МАКОЎСКІ

## Брацкая магіла

Не ведаю, хто і калі першым увёў ва ўжытак, сказаў пра жывёл, звяроў і птушак, што яны браты нашы меншыя. У Бібліі на гэты конт, мне так падаецца, напісана больш канкрэтна: чалавек павінен ставіцца да іх як да сваіх дзяцей. Аднак жа, няхай сабе будуць і братамі, гэта таксама някепска. Тут важная не ступень роднасці, а наша ўсведамленне Богам наканаванага агульнага суіснавання на кволай планеце Зямля.

...На вуліцы гарачы чэрвень, сама што спеюць, наліваюцца сокам і чырванню клубніцы. Землі тут суглінiстыя, цяжкія, і выспяваюць ягады на добры тыдзень пазней, чым у іншых мясцінах. Але ж дачакаліся ласунку, асабліва нецярплівая дзятва. А яшчэ дразды... У іх, мабыць, таксама слінкі цякуць ад аднаго сузірання шырокай суседавай грады, усыпанай буйнымі, сакавітымі, духмянымі клубніцамі. Яны сядзяць на электраправадах, на макаўцы гонкай бярозы, на разлапістым дубе, час ад часу мяняюць месца дыслакацыі, не вельмі прыемна для вуха крычаць і цікуюць за суседам. Дразды ўжо, дарэчы, паспыталі ягад, упадабалі іх, адчулі смак і цяпер настроены вельмі рашуча. Так што барацьба за салодкі ўраджай будзе доўгай, упартай, бязлітаснай.

Сусед гэта добра ўцяміў з вопыту мінулых гадоў. Летась, напрыклад, паставіў пудзіла (і не адно!), страляў у птушак з пнеўматычнага ружжа, упрыгожыў гарод бліскучымі стужкамі – усё кату пад хвост. Сёлета сам дапяў ці хто падказаў, вырашыў укараніць ноу-хау.

Дзелавіта, па-вясковаму рупна і паважна, разблытвае і нацягвае на граду з клубніцамі рыбалоўную сетку. Прылада гэтая капронавая, моцная, вочкі ў ёй такія, што пячкур не праслізне, словам, снасць браканьерская. Ды суседу такой бяды, абы драздоў правучыць. За тым, што робіць дзядзька Міхась, з вуліцы, з-за плоту, сочаць дзве гарадскія дзяўчынкі-аднагодкі, сёлета пойдуць у першы клас, Алёна і Алеся. Яны прыхілілі да збуцвелага штыкетніку свае "велікі", прыселі на кукішкі і нават сталі дыханне. Першай не вытрымлівае байчэйшая Алеся. Яна паціраe рукой апечаную крапівой правую, вышэй шчыкалаткі, ножку, і тонкім голасам, з дзіцячай непасрэднасцю пытае:

— Дзядзечка! А што гэта вы робіце?

Сусед, не адрываючыся ад важнай работы, не падымаючы лысай галавы, без асаблівай прыязнасці буркае:

— Драздоў буду лавіць...

— Ура-а-а! — крычыць Алеся. — А як зловіце, дзядзечка, то дасцё нам аднаго?!

— Дам, дам... Толькі вы едзьце адсюль, а то яны хоць і нахабныя, але надта хітрыя... Прыязджайце праз якую гадзіну...

Дзяўчынкі зусім не супраць, каб гэты дзядзечка пачаставаў іх ягадамі. Ды не, не дачакаешся, надта ўжо скупы. Яны пра тое чулі ад сваіх бацькоў.

Не раз і не два прыскоквалі на сваіх "коніках" Алёна і Алеся да дзядзькі Міхася, а таго на градах усё не відаць было. Урэшце-такі, пад вечар, заспелі. Сусед, вясёлы і лагодны, стрэў іх нечаканай прапановай:

— Я буду выкідваць, а вы лічыце... Колькі налічыце — усе вашы...

Дзядзька Міхась, вялікі аматар прыроды (так ён сам сцвярджае), выблытваў з сеткі драздоў, дзелавіта, па-вясковаму рупна і паважна, кожнаму адкручваў ці адрываў галаву і шпурляў цераз плот. Выцерабіўшы ўсіх птушак і расправіўшыся з імі, пацікавіўся:

— Ну, колькі налічылі?

— Трынаццаць, — ціхім, дрыжачым голасам адказала сарамяжлівая Алёна.

— Во! — радасна засмяяўся дзядзька Міхась. — Чортаў тузін...

Сусед пайшоў займацца хатнімі справамі, а дзяўчынкі пошапкам параіліся і вырашылі пахаваць птушак. Пясок быў пад рукой, дзядзька Міхась сабраўся ладзіць лазню і прывёз яго цэлы самазвал. Моўчкі, па-дзіцячаму сапучы і хлюпаючы насамі, Алёна і Алеся выкапалі дол, радкамі паклалі птушак. Больш за ўсё засмуціліся тым, што не хапіла галавы аднаму драздy. Доўга корпаліся ў густой траве, паабпякалі аб крапіву рукі і ногі, ды дзядзька Міхась, мабыць, забыўся выкінуць яе. А яшчэ сяброўкі доўга маракавалі над крыжам. Яго яны пасля гераічных намаганняў усё ж змайстравалі з палачак і паставілі над птушынай брацкай магілкай. Праўда, давялося ледзь не шпульку нітак патраціць. Але гэта нічога...

## Шэры дэмакрат

Сацыяльны статус вераб'я не надта высокі. Магчыма, нават самы нізкі, бо шмат якія птушкі пагарджаюць ім і крыўдзяць. Тым не менш, з усведамленнем усёй адказнасці мушу сказаць: верабей — самы вялікі дэмакрат сярод усіх насельнікаў птушынага царства.

Палітра яго "спеваў" не надта ўражвае, не кажучы ўжо пра зачараванне. Ціў-ціў, ціў-ціў, ціў-ціў... Чык-чырык, чык-чырык, чык-чырык... Аднак жа колькі пяшчоты і цяпла ён дорыць людзям! Восенню, калі асірацеюць нівы і апусцеюць лясы, а большасць птушак уцячэ ў цёплыя экзатычныя краіны, наш дэмакрат застаецца верным чалавеку. Выйдзі на ганак зімою ў люты мароз ці завіруху — і верабей выскачыць з падстрэшка, адгукнецца, нагадае пра сябе. Маўляў, мацуйся, чалавеча, ты не адзін, я побач з табою, як-небудзь перазімуем. Вясной ён пачынае дбаць пра патомства. Крыху знясілены, згаладалы, смела займае шпакоўню, хоць і ведае, што кватараванне яго ненадоўгае. Прыляцяць з выраю шпакі, папросяць вызваліць жытло. Ды ён не горды, надта не ўпарціцца, саступае.

Па сваёй цярплівасці, памяркоўнасці, характары і ладзе жыцця верабей нечым нагадвае самога беларуса. Ён не канфліктны, вельмі працавіты, хітраваты і даволі ўпарты. Вось дзесьці адшукаў белае пушыстае, але доўгае, магчыма, курынае ці гусінае пяро і спрабуе адтарабаніць яго сабе ў гняздо. Дзьме пругкі ветрык, які вельмі перашкаджае здзейсніць задуманае. Толькі ўхопіць дзюбкаю пяро, падымецца, праляціць метр-другі і мусіць садзіцца, бо вятрыска збівае з маршруту. Але ж і верабей не здаецца, сяк-так дацягнуў да вугла хаты. Засталося зрабіць апошні рывок, каб даставіць каштоўную знаходку ў падстрэшак. Верабейка прыціснуў пяро лапкай, задраў галоўку, змераў вышыню, ацаніў свае сілы, ухапіў пяро якраз пасярэдзіне і сігануў у дзірку падстрэшка.

Праз якую хвіліну вылецеў і адразу ж асядлаў галінку яблыні. Пасля цяжкай працы не грэх і падсілкавацца. Санітар ён адмысловы, сапраўдны эквілібрыст. Спачатку ацерабіў галінку зверху, пасля ўчапіўся кіпцямі і перавярнуўся ўніз галоўкай. Вісіць і працягвае ачышчаць яблыню ад паразітаў...

Ці бываюць паміж вераб'ямі сваркі? Здараюцца. Але нядоўгія, бо суродзічы адразу ж разбараняюць. Толькі сцэпяцца двое, падымуць гармідар, адкуль ні вазьмiся зляціцца цэлая чарада. Ні на чым баку яны не выступаюць, у бойку не ўмешваюцца, адно гнеўна ціўкаюць-чырыкаюць. Маўляў, чаго не падзялілі? Перастаньце біцца, не смяшыце людзей, жывіце мірна. І гэта дзейнічае бездакорна. Умомант наступае цішыня, вераб'і пырхаюць і разлятаюцца ў розныя бакі.

Такі ён шэры дэмакрат, які нароўні з буслом мог бы стаць сімвалам Беларусі.

## Вернасць

У старога паляўнічага Піліпа Ладуцькі прапаў сабака Дружок. Паехаў гаспадар з жонкай у адведкі да дачкі ў раённы цэнтр усяго на суткі, вярнуўся, а сабакі ўжо няма. Прапаў разам з ланцугом. Пахадзіў, пахадзіў Піліп каля сваіх вуглоў, наведаўся да суседзяў, іх распытаў — ніхто нічога не чуў і не бачыў. Жыве Ладуцька крыху наводдалі, на самым канцы вёскі.

Загараваў Піліп, моташна ў старога на душы, начамі не спіць, варочаецца, уздыхае. А то падымецца, выйдзе на панадворак, зазірне ў пустую будку, пастаіць, прыслухаецца, ці не азавецца густым басам яго Дружок. Надта ўжо сабака быў хвацкі. Уся акруга дзівілася і нават зайздросціла. Яно і не дзіва, такога ганчака пашукаць. Рослы, ногі як у рысака, сам белы ў рыжыя плямы, галава вялікая, ну а вочы — разумныя-разумныя! Іншым разам Піліпу здавалася, што сабака возьме і загаворыць з ім.

Бывала, наблукаецца за дзень па лесе са стрэльбай, выйдзе на паляну, самлелы, прысядзе на свой любімы аброслы зялёным мохам яловы пень, а то і прыляжа каля яго, каб з паўгадзіны прыкімарыць. Праўда, папярэдне пакліча Дружка, акрэсліць вакол сябе пальцам круг і скажа толькі адно слова: "Не пушчай!". Усё. Нікога і блізка не падпусціць. Спрабавалі, і не раз, вясковыя мужчыны на заклад з Ладуцькам падлашчыцца да Дружка і забраць стрэльбу... Не выйшла. Ашчэрыць пашчу, выставіць вялікія вострыя іклы і нават не брахне, каб не разбудзіць гаспадара. А калі адзін рызыкант асмеліўся ўсё ж наблізіцца, атрымаў такі ўдар лапамі ў грудзі, што і ногі задраў.

Прыгадаў Ладуцька і сабачую крыўду на яго. Было тое мінулай зімою падчас палявання. Падняў Дружок зайца і пагнаў па лесе. Піліп дастаў цыгарэты, закурыў і стаў тупаць па рыпучым іскрыстым снезе, каб не задубянець. Ісці нікуды не рупіла, ведаў: праз пэўны час выганіць сабака вушастага на яго, так ужо было не раз. Перастаў Дружок яхкаць, ён насцярожыўся, значыцца, заяц дзесьці побач. Падняў стрэльбу, падрыхтаваўся страляць. Прама на яго, Піліпа, выгнаў Дружок беляка. Ладуцька прыцэліўся, гатовы быў націснуць курок, як заяц стаў на заднія лапы, а пярэднія склаў на грудзях і ва ўпор глядзеў. Здрыганулася сэрца ў старога паляўнічага, апусціў стрэльбу, і "касавокі", нібы на батуце, падскочыў, ірвануў у хмызняк.

Неўзабаве, захакаўшыся, высалапіўшы язык, выскачыў і Дружок. Ён аббег вакол Піліпа раз, другі, трэці... Падняў галаву, разумнымі вачыма паглядзеў свайму гаспадару ў вочы, усё зразумеў, утуліў хвост і пацюху патрухаў да хаты. Два дні Дружок не вылазіў з будкі, не дакранаўся да ежы. Ладуцька мусіў прасіць у сабакі прабачэння...

Прайшло два тыдні, а Дружка і знаку няма. Ладуцька ўжо згубіў усялякую надзею на яго вяртанне. Ды, на табе... На досвітку аднаго дня прачнуўся, бо пачуў нібы нейкае бразгатанне. Прыслухаўся, так і ёсць, у двары хтосьці хадзіў. Падняўся і выйшаў з хаты на ганак. Цягнучы за сабою ланцуг, да яго, хістаючыся, як п'яны, млява віхляючы хвастом, падышоў Дружок. Ён нават не ў стане быў стаяць на нагах, бо тут жа прылёг, выцягнуў доўгія пярэднія лапы перад сабою, паклаў на іх цяжкую галаву і заплюшчыў вочы. Піліп стаў здымаць ашыйнік з ланцугом, і сабака здрыгануўся, заскуголіў. Шыя ў Дружка (проста жах!) — адна суцэльная крывавая рана. Піліп узяў у рукі правую, потым левую лапы сабакі, прыглядзеўся: падушачкі таксама былі сцёртыя да крыві. "Здалёку прыбег", — падумаў ён.

Як ні стараўся паляўнічы ўратаваць свайго вернага сябра, усё аказалася марным. Дружок не браў ежу, ляжаў каля будкі і ціха канаў. А потым зноў знік. Піліп быў у роспачы. Куды мог падзецца зусім нямоглы сабака? І раптам нібы штосьці стукнула ў галаву. Нічога не кажучы жонцы, сабраўся і пайшоў у лес да свайго яловага пня. Каля яго, скурчыўшыся, ляжаў сабака. Над ім віліся вялікія чорныя мухі. На вуліцы стаяў верасень, якраз адкрыўся паляўнічы сезон. Давялося вяртацца дадому па рыдлёўку. Пахаваў тут жа, каля пянька.

Пазней, праз які месяц, сарафаннае радыё данесла да Ладуцькі: Дружка ўкралі паляўнічыя з суседняга раёна, за сорак пяць кіламетраў ад вёскі. Накінулі на сабаку трыгубіцу і толькі так здолелі саўладаць з ім. Усё ж з прывязі Дружок сарваўся, каб вярнуцца да свайго гаспадара.

## Мурка

Мінула шмат гадоў, а Сцяпан часта згадвае і пры выпадку апавядае тую забаўную гісторыйку. Убачыць на вуліцы ката і цёпла ўсміхнецца, нават зморшчыны на твары разгладзяцца.

Ён, падлетак, вярнуўся тады дахаты з вясковай вечарынкі. За дзяўчатамі яшчэ не ўлягаў, з танцаў нікога не праводзіў, але нейкае трывожнае пачуццё ўжо казытала душу і сэрца. Зашыўшыся ў клубе ў куток, з цікавасцю і зайздрасцю сачыў, як сталыя хлопцы, перахапіўшы прыгажунь-дзяўчат за талію, ганарыста кружыліся ў вальсе. І ўсё ж з вечарынкі прыйшоў даволі пазнавата. Распрануўся і адразу шуснуў пад коўдру, праўда, папярэдне напароўся на табурэтку, тая з грукатам перавярнулася на падлогу, і ён пачуў, як у спальні закашляў бацька. Маўляў, не забывайся, сынок, што заўтра, не, ужо сёння, табе на досвітку давядзецца падняцца, каб зганяць кароў і адпасвіць радоўку.

Спаў (тады проста Сцёпка) у прыхожай. Толькі лёг, сагрэўся, ужо і павекі змружыў, як з падлогі на ложак скокнула кошка Мурка і пачала ўмошчвацца ў нагах. "Ліха з табою, спі і ты", — падумаў ён. Але тут жа на кухні пачулася гулкае ў начной цішы спачатку шамаценне, а пасля дробненькі стукат мышыных лапак... Ён, Сцёпка, паварушыўся і прыслухаўся. Так і ёсць, мыш, во, залезла на кухонны стол, там ужо шнырыць. Кошка ж і вухам не вяла, соладка мурлыкала, і ён спіхнуў яе нагой на падлогу: ідзі, лежабока, лаві. Але Мурка зноў скокнула на ложак, пачала шыцца ў ногі, а мыш шуравала на кухні на чым свет стаіць.

Сцёпка са злосцю раз за разам скідваў кошку, але Мурка ўпарта вярталася ў ногі, а мыш гаспадарыла на кухні і не давала спаць. Знямогшыся, праклінаючы і мыш, і кошку, усё ж заснуў. Прачнуўся ад таго, што хтосьці сцягваў з яго лёгкую баваўняную коўдру. Расплюшчыў вочы: ужо віднела, на падлозе з мышкай у зубах на задніх лапах стаяла кошка, а пярэднімі драпала, цягнула з яго коўдру. Ён павярнуўся на бок, апусціў, каб лепей разгледзецца, галаву з ложка. Кошка выпусціла з зубоў яшчэ жывую мыш, але тут жа прыціснула яе лапай і кіпцюрамі падкінула ўверх — перад самым яго носам. Нібы хацела сказаць: глядзі, шпінгалет, я злавіла, дарма сам не спаў і мне не даваў.

Тут са спальні, сонна пазяхаючы, паказаўся бацька. Сцяпан коратка пераказаў усю гісторыйку, выказаў здзіўленне, чаму кошка ноччу, адразу, не злавіла мышку. Бацька з усмешкай пахітаў галавой:

— Ты ў сваёй хаце жывеш і не ведаеш, што яна ўжо глухая. Вось пачало днець, яна табе і злавіла — бачыць жа яна яшчэ добра. Уставай, сынок, снедай і бяры пугу ў рукі.

# Гульні з лялькамі

При канцы мая ў Мінску праходзіў VI Беларускі міжнародны фестываль лялечных тэатраў. Сімвалам фестывалю па-ранейшаму была драўляная марыянетка Бурацiна, якая, вызваліўшыся ад апекі лялькавода, лунала ў паветры.



Зададзены на адкрыцці мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксеем Ляляўскім тон добрага жарту суправаджаў усю фестывальную праграму. Прыгадаўшы Фідыя, што адсякаў ад кавалка мармуру ўсё непатрэбнае, каб атрымаць скульптуру, арганізатары мерапрыемства з дапамогаю двух акцёраў-анёлаў прапанавалі кіраўніку аддзела культуры Мінгарвыканкама бярозавае палена і сякеру. Той не разгубіўся, секануў па палене — і фестываль пачаўся.

Кожны дзень быў насычаны разнастайнымі імпрэзамі. Пасля паказу некалькіх спектакляў пачынаў працаваць вячэрні клуб, штодня з адным з музычных гуртоў: "Нагуаль", "Рэха", "Нона-band", "D.O.Z.S.K.I", "Фрык-кабарэ "Серебряная свадьба", "Дыліжанс-jazz", пасля чаго ў правы ўступала "Тэатральная інквізіцыя" (такую назву насіў дыскусійны клуб фестывалю).

Плацдармам фестывалю сталі некалькі пляцовак беларускай сталіцы — Беларускі дзяржаўны тэатр лялек, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (вялікая сцэна), Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы (малая і вялікая сцэны), Новы драматычны тэатр, культурны цэнтр касцёла св. Сымона і Алены (тэатральная зала). Сёлета да традыцыйных тэатральных сцэн далучыўся і Палац Рэспублікі, у малой зале якога адбыўся паказ пастаноўкі бельгійскага тэатра "Агора" — "Жанчына-крумкач".

На працягу тыдня мінчукі і госці сталіцы маглі далучыцца да панарамы лепшых узораў айчынага і еўрапейскага лялечнага тэатральнага мастацтва апошніх гадоў. У палітры фестывалю былі спектаклі "Poison" Магілёўскага абласнога тэатра лялек, "Жывая вада" Гомельскага дзяржаўнага тэатра лялек, "Канёк-гарбунок" Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка", "Пра ката Сафрона і пеўня Андрона" Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч", "Спячая прыгажуня" эстонскага "Тэатра ў чамадане" (Талін); Латвійскі тэатр лялек (Рыга) прапанаваў казку пра "Хітрую ліску і дурнога ваўка"; "Дзюймовачка" і "Папялушка. Урыўкі з яе дзённіка" прагучалі ў выкананні Міні Тэатра са Славеніі (Любляна).

Хаця беларускімі лялечнікамі на фестывалі ў асноўным былі прадстаўленыя спектаклі для дзіцячай аўдыторыі, на працягу тэатральнага тыдня вялася шчырая размова і з дарослымі пра выключна сур'ёзныя рэчы: сумленне і адказнасць за вынікі сваіх учынкаў, любоў і нянавісць, пра лёс чалавецтва ("Фасад" Беластоцкага тэатра лялек, "Чаму старэюць людзі?.." нашых сталічных лялечнікаў, "Магічнае люстэрка пана Твардоўскага" артыстаў з Гродна, "Гульня ў чатыры рукі" расійскага тэатра "Чамадан-Дуэт КВАМ").

Калі далучаешся да свята такога кшталту, як міжнародны тэатральны фестываль, хочацца да нябёсаў узносіць яго знаходкі, а хібы пакінуць іншым крытыкам, але…

На мой погляд, не хапала перакладу — спектаклі ішлі на польскай, украінскай, славенскай мовах, што вымагала ад нашых гледачоў пэўнага напружання. Асабліва бракавала перакладу спектаклю "Папялушка. Урыўкі з яе дзённіка" ў выкананні Вані Плут (Міні Тэатр, Славенія, Любляна). Колькасць ахвочых паглядзяць спектаклі на малой сцэне Купалаўскага тэатра ў некалькі разоў перавышала магчымасці залы, людзям даводзілася стаяць, сядзець у праходах, што перашкаджала ўспрыманню відовішча. Менавіта так адбылося з пастаноўкай "Антыгоны" (Палтаўскі лялечны тэатр), дзе ўступ павінен быў стварыць адпаведны настрой старажытнай трагедыі. І ў "Антыгоне", і ў "Папялушцы…" лялькі невялікага памеру — іх было дрэнна відаць з апошніх радоў. І ці настолькі неабходна было рэальна спальваць дэкарацыю храма ў "Антыгоне"? Пах нечага накшталт салярки, што ніяк не выклікае асацыяцый са старажытнай Грэцыяй, яшчэ доўга вісеў над залай…

Зрэшты, такія дробязі не вартыя ўвагі ў параўнанні з адкрыццямі фэсту — цудоўным майстэрствам лялькаводаў вялікіх лялек — у чалавечы рост — з Беластоцкага тэатра, нечакана новым прачытаннем "Яўгенія Анегіна", жанр якога пастаноўшчыкі — мастацкі кіраўнік тэатра Д. Віхрэцкі і Н. Шымкевіч — вызначылі як "Пасяджэнне клуба разбітых сэрцаў імя Я. Анегіна на курсах кройкі ды шыцця". Чатыры актрысы і вытанчаныя папяровыя лялькі прымусілі на дзве гадзіны забыцца пра дзень сённяшні і разам з "лішнім чалавекам свайго часу" адпрэчыць каханне і горка пашкадаваць пра гэта...



Агульнай сімпатыяй удзельнікаў фестывалю быў адзначаны і спектакль Архангельскага абласнога тэатра лялек "Лялечны балаганчык "Дон Жуан у Венецыі" — сапраўдная пародыя на звычаі тэатральнага закулісся.

На завяршэнне фестывалю яго ўдзельнікі абмяркоўвалі ў дыскусійным клубе два пытанні: "Каму на Русі жыць добра ў лялечным тэатры?" і "Мастацтва без межаў: дэфіцыт нацыянальных кадраў ці інтэрнацыяналізацыя?" Сёлетні фестываль не адступіў ад сваёй традыцыі: ніякіх прызавых месцаў, Гран-пры і да т.п. Усе калектывы атрымалі ганаровыя дыпломы ўдзельнікаў.

Згаджаюся са словамі першага намесніка Міністра культуры Беларусі Уладзіміра Рылаткі, што моцнае сяброўства беларускіх лялькаводаў са сваімі калегамі — плённае для тэатраў нашай краіны, і спадзяюся: працяг у міжнароднага фестывалю будзе.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: сцэны са спектакляў "Чаму старэюць людзі?.." і "Яўгеній Анегін".

Фота Віктара Зайкоўскага

# Міністэрства пачынае рэстаўрацыю



Італьянскі дойлід, манах ордэна езуітаў Джавані (Ян) Марыя Бернардоні, які прыбыў у Нясвіж па запрашэнні Радзівіла Сіроткі, пакінуў адметны след у архітэктурным ландшафце "некаранаванай сталіцы" Беларусі. З яго імем, у прыватнасці, звязваюць распрацоўку праекта першага на нашых землях барочнага культавага збудавання — касцёла Божага Цела. Неад'емны і ад сённяшняга аблічча старажытнага горада, Нясвіжскі фарны касцёл за сваю больш як 400-гадовую багатую і унікальную гісторыю ніколі не зачыняўся і не перабудоўваўся. У розны час тут праводзіліся рамонтна-рэстаўрацыйныя работы (вядома, што храм значна пацярпеў пры канцы вайны, у ліпені 1944-га). Сёння, калі мэтанакіравана вядзецца адраджэнне гістарычнага аблічча Нясвіжа ды адпаведнае ўпарадкаванне гарадскога ландшафту, усё вастрэй адчуваецца неабходнасць абнаўлення і яго знакамітага помніка культавага дойлідства.

І вось, як паведамілі нам з Міністэрства культуры Беларусі, у гэтым месяцы пачнуцца праектныя работы, звязаныя з рэстаўрацыяй касцёла. 1 чэрвеня ў яго сценах прайшла рабочая нарада, падчас якой прадстаўнікі міністэрства, ААТ "Дырэкцыя аб'ектаў будаўніцтва Міністэрства культуры", Нясвіжскага райвыканкама, ААТ "Белрэстаўрацыя" сумесна з пробашчам парафіі ксяндзом Пятром абмеркавалі найбольш актуальныя праблемы выканання адпаведных работ. Першачарговай справай з'яўляецца распрацоўка праектнай дакументацыі па рамонце даху знакамітага архітэктурнага помніка, яго вадасцёкавай сістэмы, сталярных вырабаў, што дазволіць ужо сёлета распачаць вытворчыя работы. Адначасова плануецца да канца года ажыццявіць значны аб'ём даследаванняў жывапісу, алтароў, ляпнога дэкору ў інтэр'еры храма, пахавальнай крыпты роду Радзівілаў, а таксама правесці геалагічныя даследаванні на тэрыторыі помніка дойлідства.

Па меры распрацоўкі дакументацыі пачнецца рэстаўрацыя фасадаў касцёла, вежы колішняй Замкавай брамы, капліцы Булгарына, касцельнай агароджы. Плануюцца таксама вырашэнне праблемы адтоку ападкавай вады, добраўпарадкаванне падворка, стварэнне малых архітэктурных форм ды інш.

Значнасць аб'екта рэстаўрацыі запатрабуе прыцягнення спецыялістаў з розных арганізацый, а таксама кансультацый з польскімі ды літоўскімі рэстаўратарамі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: касцёл Божага Цела ў Нясвіжы.

Фота аўтара



## Радуемся разам

Сталічная грамадскасць адзначыла 60-годдзе адной з вядомых і паважаных навучальных устаноў — дзіцячай музычнай школы № 2 горада Мінска. У гэтай школе, якая сёння носіць імя беларускага кампазітара-класіка Мікалая Аладава, атрымалі не толькі грунтоўную пачатковую спецыяльную адукацыю, але і пуцёўку ў прафесію многія нашы вядомыя выканаўцы, лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Гэта, напрыклад, скрыпач Арцём Шышкоў, цымбалістка Ангеліна Ткачова, спевакі Людміла Лазарчык-Сахацкая, Настасся Масквіна, Уладзімір Громаў... Можна доўга пералічваць знаёмыя і славутыя імёны выпускнікоў гэтай школы.

Наталля Табушава — студэнтка-пяцікурсніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў; вучаніца такіх знаных майстроў, як Май Данцыг, Уладзімір Тоўсцік, Мікола Кірэеў, яна спецыялізуецца ў станковым жывапісе. Яе тонкая творчая індывідуальнасць пачала раскрывацца яшчэ да паступлення ў акадэмію: Наталля займалася ў сталічнай ДМШ № 1 па класе скрыпкі, а таксама ў 1-й мінскай мастацкай школе, затым скончыла Рэспубліканскую гімназію-каледж імя І. Ахрэмчыка. Сёння Наталлю Табушаву называюць адной з найбольш таленавітых студэнтаў не толькі кафедры жывапісу, але і ўсяго мастацкага факультэта БДАМ. Мабыць, ген творчасці перадаўся ёй у спадчыну ад бацькоў: Наталля нарадзілася ў сям'і мастака Уладзіміра Табушава (незабыўны калега для старэйшага



пакалення лімаўцаў!) ды архітэктара Людмілы Луцэвіч. Маладая мастачка роду Луцэвічаў, чые работы ўжо адзначаліся на міжнародных конкурсах і выстаўках, падрыхтавала прыгожы праект "Кветкі — Янку Купалу". Гэта маляўнічыя нацюрморты, з якімі можна азнаёміцца ў Дзяржаўным літаратурным музеі песняра да 15 чэрвеня. А вось выразныя псіхалагічныя партрэты, створаныя Наталляй, экспанаваліся нядаўна сярод работ студэнтаў БДАМ у Доме культуры гарадскога пасёлка Мір — падчас VIII свята мастацтваў "Мірскі замак-2010".

"Упершыню ў Беларусі і толькі ў Гомелі!" — найлепшая рэкамендацыя для выстаўкі, што адкрылася ў Музеі гісторыі горада Гомеля. Называецца яна "Адлюстраванне" і прадстаўляе надзвычай арыгінальныя работы французскага фотамастака Мішэля Рабіне. Яго сапраўды непаўторныя кадры — адлюстраванне рэальных навакольных сітуацый, вынік пошуку ў працэсе здымак, а не фотамантажу ці нейкіх тэхнічных прыёмаў накладкі зафіксаваных выяў. Да арганізацыі выстаўкі спрычыніліся аддзел культуры Гомельскага гарвыканкама і муніцыпалітэт Клермон-Ферана, горада, у якім жыве і працуе Мішэль Рабіне.

Міжнародны фотапраект ажыццёўлены ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Разам з Беларускім народным банкам бібліятэка наладзіла сумесную выстаўку грузінскага фотамастака Арчыла Кікодзе і яго беларускага калегі Уладзіміра Парфянка. "Толькі асабістае" — так называецца экспазіцыя, складзеная з 46 работ — 23 здымкаў ад кожнага аўтара: шыкоўных краявідаў Грузіі ды каларытных каўказскіх тыпажоў і кадраў незавершанай серыі "Няпэўны ландшафт Беларусі".

Лана ІВАНОВА

На здымку: жывапіснае палатно Наталлі Табушавай "Маша".

Фота Віктара Кавалёва

# Казка мураванага дойлідства

Мірскі замак, без перабольшвання, з'яўляецца адмысловай візітоўкай нашай краіны. Бываюць дні, калі сюды прыязджае да 45 аўтобусаў з турыстамі. Вядома, пасля таго як замкавы комплекс “Мір” быў унесены ў Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЕСКА, у ім актывізаваліся рэстаўрацыйныя работы, якія мяркуецца завяршыць да канца гэтага года. Невялікую экскурсію для журналістаў падчас чарговага свята мастацтваў “Мірскі замак” правяла загадчык сектара па навуковай рабоце філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі “Замкавы комплекс “Мір” Вольга Навіцкая.


Мірскі замак.


Капліца-пахавальня ў Мірскім парку.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах мястэчка ўзгадваецца ў 1395 годзе, калі крыжакі на чале з грасмайстрам Конрадам фон Юнінгенам спустошылі яго і разрабавалі ваколіцы. Хутчэй за ўсё яно існавала задоўга да ўпамінання ў летапісе. Будаваць замак пачалі толькі ў пачатку XVI стагоддзя (невядома, у якім годзе, але не раней за 1510-ы). Першым уладальнікам і ініцыятарам будаўніцтва быў беларускі магнат Юрый Ільініч. Будынак меў некалькі функцый: месца пражывання гаспадароў, цэнтр адміністрацыйнай улады і абарончае збудаванне. Па загадзе гаспадара ўзводзяцца чатыры вуглавыя вежы і пятая — цэнтральная ўязная. Усе вежы злучаліся сценамі з баявымі галерэямі ўверсе.

На сценах можна заўважыць чорную паласу. Усё, што ніжэй за яе, — аўтэнтычная кладка XVI стагоддзя, а ўверсе — сучасная рэстаўрацыя. У плане замак уяўляе сабою крыху перакошаны квадрат. Для чаго гэта зроблена, ніхто не ведае, але наўрад ці гэта памылка будаўнікоў. Даўжыня сцен — 75 метраў, глыбіня падмурка пад вежамі — каля 4 метраў, таўшчыня сцен у аснаванні — каля 3 метраў. Цалкам выкласці трохметровую сцяну цэглай было немагчыма, бо яна была дарагім будаўнічым матэрыялам. Таму ніжняя частка камбінаваная — цэгла і камень, верхняя — з цэглы, а ўнутр засыпалі будаўнічае смецце. Спецыяльна для будаўніцтва замка за сем кіламетраў ад Міра ўзвялі дзве цагельні.

Каля аснавання вежы — чатырохкутнікі, на рознай вышыні кожная вежа пераходзіць у васьміграннік. Нізкі ўзровень пераходу чатырохкутніка ў васьміграннік маюць дзве вежы замка: цэнтральная і паўночна-ўсходняя (магчыма, жылая). Гэта стварала ілюзію іх узвышэння. Відавочна, майстры хацелі падкрэсліць іх найбольшую значнасць як уязной і княжацкай. Усе вежы маюць аднолькавыя абрысы, але аздабленне кожнай вырашана па-свойму, што надае замку непаўторнае дэкаратыўнае багацце і характар. Яны ўпрыгожаныя рознымі па форме і памерах дэкаратыўнымі нішамі і арнаментальнымі паясамі. Такі прыём быў характэрны для архітэктуры Беларусі XVI стагоддзя.

Для наведвання турыстамі адкрытыя сёння некалькі веж. У сутарэнных памяшканнях паўднёва-заходняй вежы выстаўлены будаўнічы матэрыял: цэгла XVI стагоддзя, аконныя і дзвярныя карнізы, выробленыя з пясчаніка, гранітныя блокі з надпісам на англійскай мове. Мяркуецца, што апошнія былі ўманцыраваныя над камінам у паўднёва-ўсходняй вежы. На першым ярусе месціцца экспазіцыя, прысвечаная археалагічным даследаванням і раскопкам на тэрыторыі замка ў 1980-х гадах: сталовы посуд, кафля, калекцыя люлек. На другім паверсе — фотаздымкі сям'і Хмель, якая жыла тут у 1930-я гады. Вера Іванаўна працавала поварам на княжацкай кухні, потым стала шэф-поварам, а яе муж Іван Сцяпанавіч быў загадчыкам сталярнай майстэрні...

На трэцім паверсе знаходзіцца зброевая зала. Тут можна пабачыць каменныя ядры для гармат (бамбард, фальканетаў), даспехі, кальчугі. Чацвёрты ярус поўнасцю прысвечаны вырабу кафлі. Пяты — традыцыйнай кераміцы Міра, які яшчэ з XVI стагоддзя становіцца цэнтрам вырабу керамічнага посуду.

Ільінічы не дабудавалі замак. Юрый Ільініч памёр у 1526 годзе. Не дабудавалі і яго сыны. Адзіны ўнук Юрый, названы ў гонар дзеда, ва ўзросце васьмі гадоў застаўся сіратой. Хлопчыка на выхаванне ўзяў яго дзядзька Мікалай Радзівіл Чорны, брат маці. Адсюль прасочваецца роднасная сувязь Ільінічаў і Радзівілаў. Юрый Ільініч-малодшы ў 1553 годзе атрымаў тытул графа як уладальнік даволі буйнога замка, а пасля, за год да смерці, перадаў мірскія землі і недабудаваны замак (не былі дабудаваныя два муры — паўднёвы і ўсходні, напалову пабудаваная паўночна-заходняя вежа) стрыечнаму брату Мікалаю Хрыстафору Радзівілу Сіротку. Таму з 1569 года да пачатку XIX стагоддзя Мірскім замкам валодалі Радзівілы.

Менавіта пры Сіротку была дабудавана жылая палацавая частка ўздоўж паўночнай і ўсходняй сцен замка. Сцены другога і трэцяга паверхаў наўмысна атынкаваныя і пабеленыя з дабаўленнем ружовага колеру. Сутарэнныя памяшканні і першы паверх выкарыстоўваліся як каморы. На другім знаходзіліся пакоі прыслугі і адміністрацыі мірскага графства. А трэці паверх лічыўся княжацкім: тут і вокны большых памераў, ёсць балкон. Дабудаваўшы жылую частку, Радзівілы змяншаюць абараназдольнасць замка, таму, каб умацаваць адзіны ўваход, у канцы XVI стагоддзя да цэнтральнай вежы прыбудавалі падкованападобнае перадбрам'е вышынёй 10 метраў з байніцамі, выкапалі двухметровы катлаван, які закрываўся пад'ёмным мостам. Адначасова з будаўніцтвам перадбрам'я насыпалі земляныя валы з бастыёнамі па кутах усяго замка. А за валамі быў выкапаны роў, які запаўняўся вадой.

Радзівілы валодалі замкам да пачатку XIX стагоддзя. Тут пэўны час жыў Кароль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку, які потым патрапіў у апазіцыю да новага караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага і вымушаны быў збегчы. З канца XVIII стагоддзя Мірскі замак паступова прыходзіць у заняпад. Дадаўся той факт, што апошні прадстаўнік Радзівілаў, які валодаў замкам, Дамінік Радзівіл падчас вайны 1812 года выступіў на баку Напалеона. Таму ён збег у Францыю, дзе і памёр у 1813 годзе ад атрыманых раненняў.


Аднаўленая замкавая вежа.

За сваю 500-гадовую гісторыю замак неаднаразова разбураўся: упершыню ў 1655 годзе падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай, затым восенню таго ж года пацярпеў ад шведаў, зноў шведы напалі на замак падчас Паўночнай вайны ў 1706 годзе. Але найбольшыя разбурэнні былі атрыманы ў вайне 1812 года, калі быў узарваны парахавы склад.

Да XX стагоддзя замак заставаўся паўразбураным. У такім стане яго набыў у 1891 годзе Мікалай Святаполк-Мірскі. Другая частка яго прозвішча — Мірскі — простае супадзенне з назвай мястэчка. Пасля рэвалюцыйных падзей, падпісання вядомага мірнага пагаднення, у 1921-м сюды прыязджае старэйшы сын гаспадара Міхаіл, які, згодна з завяшчаннем 1904 года, складзеным у Пецярбургу, з'яўляўся ўладальнікам Мірскага замка.

У пачатку XX стагоддзя былі пабудаваныя царква з фамільным магільным склепам у стылі мадэрн. Фасад упрыгожвае мазаічны абраз Ісуса Хрыста са смальты. Асаблівасць абраза ў тым, што ў якім бы месцы вы ні сталі перад царквою, вочы Ісуса заўсёды глядзяць на вас. Побач з гэтым святым абліччам — копія картуша Святаполк-Мірскіх з выявай двух гарадоў: Кіева і Масквы, чым яны падкрэслівалі старажытнасць свайго роду.

Адукаваны, эрудзіраваны, рамантык па натуры, Міхаіл Святаполк-Мірскі зрабіў першую спробу рамонту і аднаўлення замка. Была адноўленая ўсходняя частка. У 1924 годзе варшаўскі архітэктар Тэадора Буршэ распрацаваў праект работ, якія вяліся да 1929-га, але потым — эканамічная дэпрэсія, недахоп фінансаў, даўгі. Міхаіл Святаполк-Мірскі, у якога не было дзяцей, за год да смерці, у 1938-м, усынавіў свайго пляменніка Аляксандра, які і стаў апошнім уладальнікам замка да 1939 года...

Як і кожнае старажытнае збудаванне, Мірскі замак мае свае легенды. Так, пад уплывам паганства нашы продкі замуравалі ў паўднёвую абарончую сцяну сімвалічную каменную “галаву барана”. Мяркуецца, што пакуль гэты камень знаходзіцца ў сцяне, да таго часу стаяць будзе і сам замак. Другая легенда нарадзілася пры канцы XIX стагоддзя, калі замак быў набыты князем Святаполк-Мірскім. Раней на месцы тутэйшага возера рос пладовы сад, які быў выкарчаваны вясной падчас цвіцення, чаго, паводле народнага павер'я, рабіць нельга. Кажуць, што пры капанні возера загінуў сын вядзьмаркі і тая пракляла возера: каб у ім патанула столькі людзей, колькі было высечана дрэў у квецені. Да 2003 года тут штогод тапіліся ў асноўным маладыя людзі. Мяркуюць, што цяпер усе дрэвы атрымалі свае ахвяры і вядзьмарчын праклён зняты.

Удалае спалучэнне архітэктурных стыляў готыкі, барока і рэнесансу робіць Мірскі замак адным з найбольш уражальных у Еўропе. А ўражвае ён у першую чаргу не сваёй суровасцю і пагрозлівасцю, а прыгажосцю, велічнасцю і своеасаблівай мастацкай вытанчанасцю. За 500 гадоў існавання Мірскі замак зведаў перыяды росквіту і занядбання, увабраў гістарычную памяць і па праве стаў нацыянальным сімвалам Беларусі.

Віктар КАВАЛЁЎ
Фота аўтара


“Галава барана”.


Унутраны дворык.




## Слова краязнаўцы



Наста Весялуха з Гродна разважае пра ролю студэнцкіх краязнаўчых суполак у фарміраванні трывалай цікавасці да вывучэння гісторыі родных мясцін:

— Згуртаванне студэнтаў з аднолькавымі інтарэсамі і захапленнямі — з'ява заканамерная і не надзвычайная, асабліва калі гэта робіцца для дэталёвага вывучэння і пазнання гісторыі роднага краю. Вельмі добра, што такая ініцыятыва падтрымліваецца з боку старэйшага пакалення навукоўцаў, выкладчыкаў, каб накіраваць творчую і даследчыцкую энергію моладзі. Стварэнне студэнцкіх краязнаўчых таварыстваў на базе універсітэта заўсёды мае пад сабой акадэмічную аснову і абгрунтаванасць. Тут пачаткоўцы спрабуюць сілы ў навуковай дзейнасці, атрымліваюць першы досвед удзелу ў канферэнцыях. На пасяджэннях суполак праводзяцца агляды гістарычнай перыёдыкі і навінак навуковай літаратуры, прэзентацыі кніг, заслухоўваюцца паведамленні і даклады студэнтаў па іх даследчых тэмах.

Часта праходзяць і вандроўкі па гістарычных мясцінах. Выпраўляючыся ў краязнаўчыя экспедыцыі, асабліва па маршрутах, распрацаваных некалькі стагоддзяў таму, студэнты маюць магчымасць параўнаць вынікі даследаванняў і назіранняў папярэднікаў са сваімі, паглядзець на тыя самыя мясціны вачыма чалавека XXI ст., пераасэнсаваць гістарычны лёс народа. Напрыклад, некалькі год таму былі арганізаваны паход па краязнаўчым маршруце Мітрафана Доўнар-Запольскага.

Калектыўная справа яшчэ больш згуртоўвае, развівае пачуццё адказнасці, дазваляе абменьвацца думкамі і адкрыццямі. А паколькі студэнтва заўсёды было самай мабільнай часткай соцыуму, меркаванні гуртkoўцаў могуць прынесці свежыя погляды на даўно ўсталяваныя рэчы.

Краязнаўчыя гурткі паглыбляюць веды па айчыннай гісторыі, стымулююць цікавасць да вывучэння родных мясцін, тым самым абуджаюць патрыятычныя пачуцці. Пры гэтым адбываецца аб'яднанне маленькіх асабістых радзім у агульную вялікую Радзіму, што дапамагае больш дэталёва разглядзець развіццё краю. Гурток фарміруе сваё шчыльнае кола сяброў, аднадумцаў, калегаў, выпрацоўвае навыкі прафесійнай этыкі.

## Дакрануцца да рэліквій

Толькі на працягу трох дзён наведвальнікі Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея мелі магчымасць пазнаёміцца з рэдкімі экспанатамі, прадстаўленымі на выставе старажытнай іконы і кнігі.

Ініцыятарам правядзення выставы выступіў настаяцель прыхода храма Прэабражэння Гасподня Навагрудскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы горада Дзятлава Мікалай Пінчук. Ён жа разам з выпускніком Мінскай духоўнай семінарыі Аляксандрам Пышко ў гэтыя дні праводзіў экскурсіі.

На выставе былі прадстаўлены копіі азбук кірыліцы і глаголіцы, унікальныя кнігі: "Священное Евангелие" XIX ст., "Триодь цветная" XIX ст., "Триодион" пач. XIX ст., "Апостол" пач. XX ст., "Минея. Месяц апрель" XIX ст. Наведвальнікі музея маглі нават дакрануцца да гэтых рэліквій.

Да выставы былі падрыхтаваныя і праваслаўныя старажытныя іконы XIX ст. з фондаў музея, у калекцыі якога налічваецца каля 70 абразоў (калісьці яны былі затрыманыя на Гродзенскай мытні і перададзены музею).

Дзінара ХАРОШКА

Даўно цікаўлюся лёсам пісьменніка Рыгора Кобеца. Адзін з першых беларускіх кінасцэнарыстаў, былы "махновец" (!), вязень сталінскіх канцлагераў, сябра мар'інагорскага пісьменніка Анатоля Вольнага… Яркая, шматгранная асоба. Шукаючы нешта новае пра Рыгора Кобеца, пазнаёміўся з яго дачкой — паэтам, празаікам, перакладчыкам, публіцыстам Аленай Рыгораўнай Кобец-Філімонавай. Завочна ведаў яе з дзяцінства. Найперш – па аповесці "Жаўранкі над Хатынню".



Аляксандр Бялоў у фільме "Строгая жанчына".

# У Зацітавай Слабадзе

І вось – наша сустрэча з Аленай Рыгораўнай. Перш-наперш размаўляем пра бацьку, пра сяброўства Рыгора Кобеца з Анатолем Вольным, пра тое, што драматург неаднойчы бываў у Мар'інай Горцы, у мястэчку Пухавічы.

Высвятляюцца і многія іншыя акалічнасці. Аказваецца, што ў пасляваенныя гады Алена Рыгораўна разам са сваёй сям'ёй адпачывала ў Цэрабутах, непадалёку ад чыгуначнай станцыі Талька, у домiку, які месціўся за вёскай на адлегласці 200-300 метраў, каля самага лесу. Тады гэты домік належаў аднаму мастаку. А ў даваенныя гады гаспадаром яго быў Платон Галавач. Акалічнасць досыць цікавая. І можа нават высветліцца, што ён, былы першы сакратар ЦК камсамола Беларусі, пісьменнік, рэдактар газет "Чырвоная змена", часопісаў "Маладняк", "Полымя", менавіта на пухавіцкай зямлі пісаў свае аповесці "Спалох на загонах", "Носьбіты нянавісці". А мо нават – і кнігу пра будаўніцтва рэпрэсіраванымі Беламорска-Балтыйскага канала "Ад Мядзведжай гары да Белага мора".



Алена Кобец-Філімонава на беразе Свіслачы.

Алена Кобец-Філімонава была знаёмая з выкладчыкам Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума, пісьменнікам-сатырыкам Захарам Біралам. Расказвае шмат цікавых рэчаў з успамінаў нашага земляка пра лагер. У прыватнасці, і тое, як наглядчыкам і брыгадзірам быў у яго такі ж брат-пісьменнік. Наглядчыкам жорсткім і патрабавальным. Гэтым словам ёсць пацвярджэнне.

Вось што піша, перадаючы ўспамін Захара Біралы, паэт і празаік Павел Пруднікаў: "…Не толькі сталінцы, а й самі зэкі за лішні чарпак баланды гатовы былі здзерці скуру. Сябрук у мяне быў — ты яго добра ведаеш…Разам вучыліся, разам жылі ў адным інтэрнаце, разам трапілі ў кіпцюры НКУС, разам сядзелі ў падвале і ў "амерыканцы". Нас прывезлі ў лясны лагер, дзе мы нейкі час напару цягалі пілу, аб якой ён да лагера не меў аніякага паняцця. Словам, я выручаў яго — браў усё на сябе. А калі мне прыйшла пасылка — ратаваў яго і ад голаду. Потым гэты спрытнюга забыўся пра наша сяброўства і пра тое, што я для яго рабіў, — "частаваў" мяне дрынам за маё "гультайства" і немагласць…".

Алена Кобец-Філімонава расказвае і яшчэ адзін цікавы фрагмент са сваёй уласнай "пухавіцкай" біяграфіі. Дачка пісьменніка і кінадраматурга напрыканцы 1950-х здымалася ў фільме "Строгая жанчына" ў панадсвіслацкай вёсцы Зацітава Слабада.

— І вёска , што раскінулася па-над Свіслаччу, і сама рака ў гэтых мясцінах уразілі мяне сваёй прыгажосцю, — расказвае Алена Рыгораўна.

У Зацітавай Слабадзе Алена Кобец-Філімонава пазнаёмілася з многімі беларускімі і рускімі акцёрамі. Успамінае Аляксандра Бялова, які прамільгнуў у кіно яркай зоркай. Сёння ўжо і не памятаюць яго па фільме "Строгая жанчына", але ж вось і цяпер пазнаюць у "Карнавальнай ночы", іншых фільмах 1950-х гадоў.

У архіве Алены Рыгораўны захавалася шмат зацітаваслабодскіх фотаздымкаў, на якіх можна знайсці і яе, маладую, прыгожую, і Аляксандра Бялова, і Стэфанію Станюту, іншых акцёраў з фільма "Строгая жанчына".

Кастусь ЛАДУЦЬКА

Фота з хатняга архіва Алены Кобец-Філімонавай

## Культура слова

# Яечні

## (грыбковая і цалкавая)

Калі першы раз я пачуў у горадзе слова амлет, то не зразумеў, што яно азначае. Пэўна, гэта — рускае слова. Палез у руска-беларускі слоўнік. І са здзіўленнем прачытаў, што омлет і па-беларуску амлет! Што ж гэта за звер такі? Чаму на сваёй Старадарожчыне я пра яго нічога не чуў? Мусіў адгарнуць яшчэ тлумачальны слоўнік. З яго я даведаўся, што амлет — гэта "яечня з разбоўтаных яец, у якую дабаўлена малако і мука"! Божа, дык у нас жа гэта і завецца яечня, а ніякі не амлет-амулет! У Зялёнай Дуброве нават жанчыну, якая вельмі любіла гэтую яечню, так і празвалі — Яечня. Некалі мы, дзеці, таксама вельмі яе любілі, з нецярпеннем чакалі, калі маці, падчапіўшы чапялой, вымала яе з печы, з самага жару, дымную, пухкую, з вугольчыкамі ад трэсак, што там пастрэльвалі, і ставіла на дошчачку-падстаўку пасярод стала. Мы адразу ж накідваліся на яе.

Гэтую яечню — на муцэ і малацэ — называлі яшчэ грыбок. Як сведчыць "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі...", так называлі яе і ў Барысаўскім раёне ("Спячы грыбок з яец"), на Пастаўшчыне ("Разбіваюць яйкі, туды малака, трохі мукі і пякуць грыбок") і ў іншых раёнах. Знайшоў я слова грыбок таксама ў слоўніках І. Насовіча і М. Байкова з С. Некрашэвічам. Толькі ў іх яно перакладзена як дрочена. Што ж гэта за дрочена — не з а ў сярэдзіне слова, а з о? Бяру тлумачальны "Словарь русского языка" 1981 года: "дрочена" — кушанье из запеченной смеси яиц, молока и муки...". Значыць, усё правільна: дрочена — гэта тая ж самая яечня-грыбок.

Але ж у нас ёсць яшчэ адна яечня. З разбітых на патэльні, не разбоўтаных яек, спечаных на тлушчы, без мукі і малака. Рускія яе называюць глазунья. "Русско-белорусский словарь" перакладае слова глазунья па-беларуску проста — яечня, зусім не ўдакладняючы, што гэта за яечня. Між тым у народзе адразу ж сказалі б, што тут гаворка ідзе пра яечню з цалкоў (не разбоўтаных яек).

Якраз пра такую яечню пісаў у "Новай зямлі" Якуб Колас:

Тарэсяй звалась цётка гэта.
Яна так ветла сустракала
І надта ж добра частавала:
Спячэ цалкою на скавародцы,
І так, бывала, наясіся,
Што хоць на пупіку круціся.

У Лагойскім раёне такую яечню гэтак і завуць — цалкавая яечня ("Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі...").

Бытаваў на Беларусі яшчэ проста грыбок, які адрозніваўся ад яечні-грыбка тым, што ў яго сыпалі больш мукі. Пра такі грыбок расказала мне мая зялёнадуброўская суседка Вікця Шыкер. Пячэцца ён таксама на патэльні. Круглы. "Дык, можа, гэта пірог?" — пытаюся. "Не, гэта яшчэ не пірог. Грыбок". Пра яго згадвае і той жа "Слоўнік беларускіх гаворак...": "Грыбок — густая яечня" (Барысаўскі раён), "Грыбок робіцца з тварагу, дабаўляюць манкі, яйкі, слівкі, сахару, дробачку соды, выліваюць усё на патэльню і пякуць" (Смаргонскі раён).

Падрабязна расказала мне пра гэты грыбок і Алена Васілевіч. Яна сама некалі пякла грыбок і добра запомніла ўсе яго складнікі: яйкі, малако, мука (толькі больш, чым на яечню), цукар і сода. Ён добра падыходзіў на патэльні ў печы, рос — як грыб. Гэта быў некалі самы першы далікатэс. З ім, круглым, ружаватым, у невялікай сурвэце, хадзілі жанчыны ў адведкі да парадзіхі, на радзіны, на вяселле і проста ў госці.

Што з гэтага вынікае? А тое, што ў слоўнікі просяцца аж тры ўдакладненыя тут словы: яечня (ці яечня-грыбок, грыбковая яечня), цалкавая яечня (ці проста цалкі, а яшчэ лепш — цалкавуха, як пачуў сярод людзей А. Клышка) і грыбок — як від печыва.

Кастусь ЦВІРКА

## Свет таямніц

# З мінулым — у будучыню

У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Іосіфа Стаброўскага прайшла ноч музеяў. Кожны жыхар Слоніма ў гэтую ноч атрымаў магчымасць трапіць у свет гістарычных таямніц і загадак, пазнаёміцца з па-мастацку прадстаўленымі этапамі развіцця горада, важнымі гістарычнымі асобамі.

Сапраўднай нечаканасцю для наведвальнікаў стала тэатралізаваная "ажылая экспазіцыя", дзе можна было ўбачыць персанажаў Сярэднявечча, гусараў 1812 года і салдат Вялікай Айчыннай вайны на прывале.

Працавала "Выстава адной ночы", падчас якой дэманстраваліся ўнікальныя прадметы з фондаў музея: фрагменты торы XVIII ст., псалтыр XIX ст. і драўляная скульптура Хрыста XVIII ст. У гэтую ноч адбылася прэзентацыя мастацкіх выстаў — работ слонімскага мастака Дзмітрыя Палуносіка і творцы з Мінска Кірылы Мельніка.

На пляцоўцы каля музея разгарнуўся Горад майстроў, дзе мастакі, ганчары, аматары вырабу рыцарскіх даспехаў самі прадстаўлялі творы. Тут наведвальнікі мелі шанец на сапраўдным ганчарным крузе зрабіць сабе збаночак. Была магчымасць і наведаць майстар-класы па стварэнні выцінанак і вырабаў са скуры, пазнаёміцца з выступленнем Мінскага тэатра перформансу і пантамімы, завітаць у рыцарскі клуб.

Марына ВЕСЯЛУХА

**Зазвычай музеі маюць імідж устаноў статычных: адзін раз наведаеш, паслухаеш аповед экскурсавода і больш туды не вернешся. Здаецца, ужо ўсё сказана. Але пра Віцебскі абласны краязнаўчы музей — гаворка асобная. Складаецца ён з пяці па-свойму цікавых філіялаў: Ратушы, Мастацкага і Літаратурнага музеяў, Музея прыватных калекцый і Музея-сядзібы Ільі Рэпіна "Здраўнёва" (а гэта значыць, што, каб пазнаёміцца з музеем, трэба наведаць яго па меншай меры пяць разоў). Акрамя таго, калектыў супрацоўнікаў праводзіць актыўную работу па разбурэнні традыцыйных уяўленняў пра музей. Пра асноўныя дасягненні калектыву ў гэтым кірунку нам распавёў дырэктар музея Глеб Савіцкі.**



# Імідж, сугучны з часам

— Віцебскі абласны краязнаўчы музей ажыццяўляе шмат незвычайных, творчых праектаў, ладзіць выставы сумесна з наведвальнікамі. Чым гэта абумоўлена?

— Сваёй дзейнасцю мы стараемся адысці ад традыцыйнай схемы: музей — сховішча старажытнасцей. Хочацца паказаць, што музей — культурная ўстанова, дзе ўжо склалася своеасаблівае асяроддзе. Творчы падыход да вырашэння праблем выкліканы і жаданнем знайсці новы станоўчы і сугучны з часам імідж нашай культурнай установы. Мы яшчэ ў пошуку, таму і спрабуем праводзіць разнастайныя мерапрыемствы. Не заўсёды, праўда, дасягаем запланаваных вынікаў, але праца на імідж музея мае плён: наведвальнікі заўважаюць, што штосьці змянілася, і гэта ўжо добра, гэта той вынік, на які трэба было папрацаваць.

— Глеб Уладзіміравіч, якія праекты і акцыі, што прайшлі ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі, вы можаце адзначыць?

— Гэта, напэўна, музейныя і пазамузейныя святы, мерапрыемствы, што ўжо сталі традыцыйнымі ў нашым філіяле Музеі-сядзібе Ільі Рэпіна "Здраўнёва": Каляды, Масленка, "Восеньскі букет", Купалле. Можна адзначыць і акцыі, прымеркаваныя да святаў. На Тацянін дзень была праведзена акцыя "Усе Тацяны праходзяць бясплатна" (у гэты дзень музей наведалі 200 Таццян), ладзілі мы і выставу-аднадзёнку да Дня студэнта, да Дня святога Валянціна праводзілі конкурс на лепшую валянцінку. Рэалізавалі праект "Ладзім выставу разам" для жыхароў горада, па выніках якога была адкрыта выстава "Цацкі нашага дзяцінства". Усе экспанаты гэтай выставы былі прадастаўленыя нашымі гараджанамі. Папулярнасцю карысталася "Калядная варажба", што праводзілася на працягу некалькіх тыдняў у пачатку 2009 года.

— Якімі прынцыпамі вы кіруецеся пры арганізацыі мерапрыемстваў і праектаў?

— Стараемся браць якасцю, а не колькасцю, арыентавацца на розныя групы: пенсіянераў, навучэнцаў, мастакоў, школьнікаў. Нельга рабіць мерапрыемствы, разлічаныя на ўсіх, і нельга думаць, што гэта можа зацікавіць амаль усіх. Таму адной з новых тэндэнцый у дзейнасці нашага музея з'яўляецца вывучэнне інтарэсаў як рэальных, так і патэнцыяльных наведвальнікаў. Мы праводзім анкетаванне наведвальнікаў па музеі ў цэлым і па асобных залах, а таксама распаўсюджвалі анкеты сярод школьнікаў, каб даведацца, ці ведаюць яны музей. Два разы ладзілі конкурс для школьнікаў на лепшае веданне музея. Магчыма, на дзейнасць музея звяртаецца не так шмат увагі з-за таго, што ў Віцебску праходзіць многа культурных мерапрыемстваў. Таму галоўная задача — вылучэнне менавіта той аўдыторыі, што будзе цікавіцца працай музея. З пункта гледжання арганізацыі канцэртаў у нашай установы ёсць перавагі: музей мае некалькі філіялаў, таму можна змяняць дыслакацыю і дэкарацыі правядзення мерапрыемстваў. Але гэта працуе і не на карысць нам: у наведвальнікаў склалася ўяўленне, што музей знаходзіцца ў будынку Ратушы, таму людзі часам не ведаюць, дзе што адбываецца.

— Адным з філіялаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея з'яўляецца унікальны для Беларусі Музей прыватных калекцый. У чым яго адметнасць?

— Сам факт яго стварэння можна параўнаць са стварэннем Траццякоўскай галерэі ў Маскве: уладальнік калекцыі падарыў збор гораду, каб зрабіць яго агульнадаступным. Віцебску таксама былі зроблены такі падарунак — прыватная калекцыя Івана Галькевіча. Праўда, падарыў калекцыю не ён сам, а яго ўдава, аднак музей быў створаны, хоць і не адразу. Сам факт перадачы калекцыі гораду варты ўвагі, бо на сённяшні дзень ён адзіны ў Беларусі. Музей атрымаўся цікавы і арыгінальны: калекцыя дастаткова разнастайная, у яе ўваходзяць розныя прадметы, пачынаючы ад археалагічных знаходак, заканчваючы скульптурай. У асноўным гэта нумізматыка, фалерыстыка, баністыка, асабістыя прадметы калекцыянера. І сама ідэя стварэння музея унікальная. Існуе ў нас задумка перанесці музей у цэнтр горада (цяпер ён знаходзіцца далёка ад шырокіх вуліц і праспектаў), аб'яднаць калекцыю Івана Галькевіча з іншымі прыватнымі зборамі, што захоўваюцца ў нашых фондах. Гэта прыватная калекцыя Антона Брадоўскага, першага дырэктара краязнаўчага музея, з якой пачынаўся музей, і збор Вацлава Федаровіча. Тады сама назва "Музей прыватных калекцый" будзе адпавядаць рэчаіснасці, таму што зараз мы маем фактычна музей адной прыватнай калекцыі. Але і на сённяшні дзень гэта цікавы музей, які можна параўнаць з мюнц-кабінетамі, што існавалі ў Еўропе ў XVIII ст.

— Музей жыве і развіваецца, калі папаўняюцца яго фонды…

— Асноўныя крыніцы папаўнення фондаў нашага музея — мастакі і навукоўцы, дабрачынныя жыхары горада. Здараецца, мастацкія творы і выпадковыя знаходкі мы закупляем мэтанакіравана, але часцей за ўсё фонды папаўняюцца дзякуючы добраму стаўленню людзей да музея. Часам яны прыходзяць з жаданнем прадаць нейкія прадметы ў музей, але мы не можам вельмі хутка набываць экспанаты, таму цікавыя рэчы губляюцца і трапляюць у рукі антыквараў. Перадаюць нам свае калекцыі і археолагі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, знаходзім цікавыя і каштоўныя для музея прадметы і тут, падчас правядзення рамонтных работ.

Мы пакуль працуем на пашырэнне інфармацыйнай прасторы музея, выходзім на больш шырокія абшары. Можа, гэта мае асабістыя задумкі, але музей павінен выходзіць на агульнаеўрапейскі ўзровень: не толькі падтрымліваць адносіны з рэспубліканскімі музеямі, але супрацоўнічаць з падобнымі ўстановамі і за мяжой.

— З якімі ўстановамі замежжа музей ужо наладзіў супрацоўніцтва?

— Традыцыйна ў нас была наладжана сувязь з суседзямі і з амбасадамі тых краін, што ёсць у нашай рэспубліцы. Маем мы цесныя стасункі з латвійскім консульствам, што знаходзіцца ў нас у горадзе: ладзім сумесныя мерапрыемствы, два разы на год у нашым музеі праходзяць выставы мастакоў з Латвіі. Вялікай папулярнасцю карыстаецца і сучаснае латвійскае фотамастацтва. У нашых універсітэтах навучаецца шмат студэнтаў з Кітая, таму мы неадназрава ладзілі сумесныя мерапрыемствы з кітайскай амбасадай. Праводзім выставы і з дапамогай прадстаўніцтва Польскага інстытута ў Віцебску. Апошняе дасягненне нашага музея — супрацоўніцтва з пасольствам Ірана. У мінулым годзе прайшлі дзве выставы іранскага мастацтва, была такая выстава і ў гэтым годзе. Не так даўно мы арганізоўвалі выставу мастацтва Славакіі. Супрацоўнічаем і з Інстытутам Гётэ, з музеямі Смаленска, Пскова. У цэлым, геаграфія супрацоўніцтва з кожным годам пашыраецца, а паколькі латэнцыял у нас ёсць, самі маем што паказаць свету. Вось ужо некалькі год мы плануем арганізаваць у Германіі выставу карцін нашага земляка Юдаля Пэна, спадзяюся, праект нарэшце рэалізуецца ў гэтым годзе.

— Музей збірае ў сваіх сценах асаблівых людзей. Якія людзі гуртуюцца вакол вашага музея?

— Так, ёсць пакаленне, выхаванае на тым, што ў музей хадзіць патрэбна. Ёсць людзі, што працуюць у сферы культуры, таму іх дзейнасць звязана з працай музея. Наш музей мае шчыльныя сувязі з Віцебскім абласным аддзяленнем Беларускага саюза мастакоў, Віцебскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. І мастакі, і пісьменнікі прыходзяць на нашы мерапрыемствы, прымаюць у іх удзел. Акрамя гэтага, мы маем добрыя сувязі і з навукоўцамі, з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, гістарычным факультэтам Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Пятра Машэрава. Яны дапамагаюць нам кансультацыямі, мы ім прадастаўляем магчымасць працаваць з матэрыяламі фондаў. Вынікам сумеснай працы можна лічыць з'яўленне на свет кнігі Вольгі Ляўко "Витебск" у серыі "Древнейшие города Беларуси". Вельмі прыемна, што першая кніга ў гэтай серыі прысвечана менавіта нашаму гораду.

— Галоўнае багацце музея — унікальныя, цікавыя экспанаты. Ці ёсць такія прадметы ў вашым музеі?

— Калі адштурхоўвацца ад ступені публічнасці, на першае месца трэба паставіць мастацкія творы. Гэта ў першую чаргу калекцыя карцін Юдаля Пэна (больш як 60 работ). Маем мы і добры збор твораў рускага жывапісу XIX ст., тут ёсць некалькі сапраўдных работ Ільі Рэпіна, створаных у Віцебску ў здраўнёўскі перыяд. Сярод рэчавых помнікаў — вядомы ў колах навукоўцаў і навучэнцаў прадмет — першая знойдзеная на тэрыторыі Беларусі віцебская берасцяная грамата. Яна ўжо паўгода экспануецца ў нашым музеі, але чамусьці выклікае больш цікавасці ў журналістаў, чым у наведвальнікаў. Цяпер экспануюцца цалкам не вывучаныя прадметы: самая старажытная на тэрыторыі Беларусі еўрапейская алебарда пачатку XV ст., сярэбраны рыцарскі пояс з выявай сцэны каранацыі Стэфана Баторыя. Можна вылучыць і кларнет Яна Сабескага, і калекцыю масонскай атрыбутыкі, якая не так даўно экспанавалася ў музеі, калекцыю зброі, якая ўключае ў сябе шмат аўтэнтычных рэчаў з Усходу. Унікальнай з'яўляецца і нумізматычная калекцыя Івана Данілавіча Галькевіча, кожны экспанат якой мае навуковую, гістарычную каштоўнасць, але разглядацца яна павінна як адзін экспанат, збор. Сам факт прысутнасці ў музеі калекцыі аматара-калекцыянера вельмі значны. Своеасаблівымі экспанатамі з'яўляюцца і нашы будынкі, кожны з якіх мае цікавую гісторыю. У першую чаргу гэта будынак гарадской ратушы, музей-сядзіба Ільі Рэпіна "Здраўнёва", будынак першай электрастанцыі ў Віцебску, помнік архітэктуры пачатку XIX ст., дзе сёння размешчаны літаратурны музей. Шмат яшчэ экспанатаў можна назваць, але нават пералічаныя адзінкі вартыя таго, каб іх пабачыць і ведаць пра іх.

— Як правядзенне "Славянскага базару" ўплывае на працу музея?

— Акрамя будзённай змены рэжыму працы і павелічэння колькасці наведвальнікаў, падчас "Славянскага базару" ва ўнутраным дворыку ратушы традыцыйна ладзяцца мерапрыемствы з удзелам мастакоў. Амаль кожны дзень мы праводзім адкрыццё выстаў, але поспех ім не заўсёды гарантаваны: большай папулярнасцю карыстаюцца камерцыйныя праекты, а не навуковыя, альтэрнатыўныя. У стадыі распрацоўкі — ідэя правядзення ў музеі-сядзібе Ільі Рэпіна "Здраўнёва" першага ў Беларусі фестывалю шыцця з лапікаў. У Расіі такія фестывалі ўжо сталі традыцыйнымі. Хацелася б і нам перайсці на нейкія традыцыйныя мерапрыемствы, бо Віцебск — гэта не толькі "Славянскі базар", магчыма, і нашы святы, фестывалі ў хуткім часе стануць папулярнымі і будуць візітнай карткай і горада, і музея.

Адным з кірункаў дзейнасці нашага музея з'яўляецца выданне і прэзентацыя зборнікаў матэрыялаў канферэнцый, даведнікаў, буклетаў. Каля двух год працуе сайт музея, выдадзены два зборнікі матэрыялаў канферэнцый, плануем выданне трэцяга, падрыхтавалі да друку каталог калекцыі жэтонаў Расійскай Імперыі. Не так даўно мы выдалі набор паштовак з выявамі Віцебска XIX ст., які ўжо стаў рарытэтам, бо разышлося выданне за некалькі месяцаў. У планах і падрыхтоўка невялікага каталога ці мультымедыйнага даведніка па калекцыі масонскай атрыбутыкі, што захоўваецца ў нашым музеі. Напісанае застаецца, таму варта і далей працаваць у гэтым кірунку. Прыемна, што калектыў музея актыўна ўдзельнічае ў творчым працэсе: павялічылася колькасць публікацый у друку і ў навуковых выданнях, прычым матэрыялы рыхтавалі самі нашы супрацоўнікі, узрасла і колькасць выступленняў на канферэнцыях. Гэта добры крок наперад, але спыняцца не трэба, трэба крочыць далей.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Глеб Савіцкі.



# Хроніка адной вёскі

**У Вялікасельскай сярэдняй школе, што на Дзяржыншчыне, адбылася прэзентацыя незвычайнай кнігі "Маленькія хронікі Вялікага Сяла". І хоць аўтары далі выданню досыць сціплую назву, яго змест уражвае разнастайнасцю і шырынёй.**

На працягу больш як 20 гадоў выкладчыца рускай мовы і літаратуры Вялікасельскай школы Тамара Заблоцкая збірала, захоўвала і сістэматызавала шматлікія матэрыялы, звязаныя з гісторыяй найстарэйшай на Дзяржыншчыне школы (яна была адчынена ў 1863-м годзе), з падзеямі жыцця рэгіёну, займалася апытаннем мясцовых жыхароў пра часы калектывізацыі, Вялікай Айчыннай вайны, вывучала тапаніміку…

На аснове багатых матэрыялаў быў створаны школьны музей. Дапамагаў Тамары Заблоцкай яе муж Алег Антонавіч (цяпер нябожчык), былы дырэктар школы, якога і сёння з удзячнасцю згадваюць настаўнікі і вучні школы.

А сёлета, напачатку года, у Тамары Заблоцкай і яе аднадумцаў узнікла ідэя стварыць на аснове сабраных матэрыялаў краязнаўчую кнігу. Больш як за тры месяцы карпатлівай працы ідэя ўвасобілася ў жыццё. Багатая па змесце і афармленні кніга ўключае успаміны мясцовых жыхароў пра мінулую вайну, спісы загінулых на вайне і рэпрэсіраваных у 1930-я, шмат змешчана матэрыялаў пра тапаніміку і прыроду краю, а таксама вершы, легенды, казкі вучняў школы і шмат іншых цікавых звестак.

У падрыхтоўцы краязнаўчай кнігі "Маленькія хронікі Вялікага Сяла" актыўна ўдзельнічалі дырэктар раённага Дома народнай творчасці, што месціцца ў Вялікім Сяле, таленавіты мастак-кераміст педагог Наталля Ермаловіч, вядомы ў Беларусі майстар па вырабе драўляных гадзіннікаў і музычных інструментаў Андрэй Мартынюк, а таксама супрацоўніца дзяржынскай раённай газеты "Сцяг Кастрычніка" Інеса Хвалей. На вялікі жаль, з-за недахопу сродкаў кніга выйшла толькі ў 2-х экземплярах. Першы з іх — музейны экспанат, зроблены ўручную Наталляй Ермаловіч і Андрэем Мартынюком, другі — таксама ручной работы — бібліятэчны варыянт. Добра было б, каб знайшоўся спонсар і дапамог выдаць гэтую унікальную кнігу.

Лявон ЦЕЛЕШ

# Панамарэнка ў атачэнні сучаснікаў

Вывучэнне асабістых бібліятэк, што ўяўляюць сабой важную частку культурнай спадчыны, — асобная галіна кнігазнаўства, якая дае багаты матэрыял для вызначэння светапогляду, характару іх збіральніка, яго асабістых і грамадскіх сувязей, збіральніцкіх схільнасцей, а таксама кніжнай культуры пэўнага часу. У Цэнтральнай нацыянальнай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі асабістым кніжным зборам заўсёды аддавалася пільная ўвага. Гэта прыватныя кніжныя калекцыі вядомых пісьменнікаў, вучоных, культурных і грамадска-палітычных дзеячаў: Пятра Глебкі, Янкі Брыля, Адама Багдановіча, Паўла Беркава, Анатоля Вялюгіна, Панцеляймона Панамарэнкі і многіх іншых.

Адметнай асаблівасцю кніг з прыватных збораў з'яўляецца наяўнасць у іх аўтографаў, дароўных надпісаў, рукапісных праўак і пазнак. З усіх кнігазбораў, што захоўваюцца ў ЦНБ, бібліятэка партыйна-дзяржаўнага дзеяча Панцеляймона Кандрацьевіча Панамарэнкі займае, бадай, адно з першых месцаў па колькасці дарчых надпісаў на кнігах. У 1985 годзе ўдава П. Панамарэнкі Вера Георгіеўна перадала кнігі мужа на захаванне ў Цэнтральную нацыянальную бібліятэку НАН Беларусі.

У прыватнай калекцыі П. Панамарэнкі 447 кніг за 1933-1983 гг., з якіх 426 — з дарчымі надпісамі. Бібліятэка мае 3 даваенныя выданні, 37 асобнікаў кніг ваеннага і 407 — пасляваеннага часу. У кожным з раздзелаў ёсць рэдкія кнігі, якія вылучаюцца незвычайнай гісторыяй стварэння, імёнамі вядомых аўтараў, маюць дарчыя надпісы аўтараў кніг або ўдзельнікаў баёў, цесна звязаныя з людзьмі гераічнай біяграфіі. Менавіта гэта павялічвае каштоўнасць дадзенай калекцыі.

## Кнігі ваеннага часу

Даваенныя выданні прадстаўлены зборнікам "Современная татарская литература" (1933 г.), паэмай Якуба Коласа "Новая зямля" (1934), зборнікам "Искусство Советской Белоруссии" (1940 г.).

Выпуск кніг не спыняўся і ў ваенныя гады. Літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны мае гістарычнае значэнне як помнік духоўнай культуры свайго часу. Калекцыя П. Панамарэнкі ўключае 37 кніг за 1941 — 1945 гг. Сярод іх можна вылучыць адметную кнігу "Минно-подрывное дело для партизан" (1943 г.). На вокладцы кнігі і тытульным лісце — грыф: "Для служебного пользования. Экз. № 1", на тытульным аркушы — авальны штамп чырвонай масцілкай "Библиотека П. К. Пономаренко № 11". На форзацы кнігі — дарчы надпіс: "Генерал-лейтенанту, тов. П. К. Пономаренко! В грозные дни начала Великой Отечественной войны Вы создали наш коллектив, усилия которого были направлены на оказание помощи в организации и развёртывании партизанской борьбы в тылу врага… Настоящая работа, выполненная наряду с подготовкой руководящих партизанских кадров, ставит перед собой задачу помочь нашим доблестным партизанам в их практической борьбе… Примите, Пантелеймон Кондратьевич, эту скромную работу в фонд скорейшего разгрома врага. Начальник Центральной Школы подготовки партизанских кадров — инженер-майор Г. Семенихин, старший преподаватель по минно-подрывному делу — инженер-капитан А. Дубров. 5 августа 1943 г. г. Москва".

У калекцыі можна адзначыць маскоўскае выданне "В тылу врага" (1943 г.) з дарчым надпісам партыйна-дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Мікалаевіча Шалепіна: "Товарищу Пономаренко от ЦК ВЛКСМ. Секретарь ЦК ВЛКСМ А. Шелепин. 13.1.44 г. г. Москва".

## На памяць пра будаўніцтва "Новага Мінска"

Панцеляймон Панамарэнка ў 1944 — 1948 гг. займаў пост старшыні Савета Міністраў БССР. Дзякуючы яму, разбураны за гады вайны Мінск вырашылі аднаўляць менавіта там, дзе горад стаяў першапачаткова, а не пераносіць сталіцу на поўдзень Беларусі. На далучанасць Панцеляймона Кандрацьевіча да гэтых падзей указваюць дарчыя надпісы на кнігах архітэктара Міхаіла Асмалоўскага, які ажыццяўляў у пасляваенным Мінску праект планіроўкі жылога масіву Савецкага раёна (1944 — 1947 гг.), Ленінскага праспекта і Цэнтральнай плошчы (1948 г.): "Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу! Моему руководителю, в память о создании Нового Минска — столицы БССР. Архит. М. Осмоловский. Х.68 г."; "Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу. С глубокой благодарностью за незабываемую школу передового советского градостроительства, пройденную автором этого скромного труда под Вашим личным руководством. М. Осмоловский. 9 августа 1952 г. "; "Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу от автора книги, в которой кратко подведены итоги воплощения Ваших градостроительных идей и мероприятий по созданию столицы Советской Белоруссии. Преданный Вам М. Осмоловский. 16.ІІІ — 1953 г."

## Ад удзельнікаў вайны

У 1950 — 1960-я гг. сваё пачэснае месца ў кнігазборы П. Панамарэнкі знайшлі ўспаміны ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Дарчыя надпісы і словы, якія пакідалі аўтары, прадыктаваныя шчырай павагай да асобы Панцеляймона Панамарэнкі і нязменна пачыналіся словамі, поўнымі шанавання: глыбокапаважанаму, шматпаважанаму, паважанаму, дарагому… Пасляваенныя выданні партызанскіх мемуараў у калекцыі прадстаўлены кнігамі з дарчымі надпісамі ўдзельнікаў вайны, Героеў Савецкага Саюза А. Брынскага, С. Ваупшасава, В. Казлова, Р. Мачульскага, А. Сабурава і многіх іншых. Рукапісныя пазнакі П. Панамарэнкі на палях і ў тэксце падараваных кніг дазваляюць зрабіць выснову, што менавіта гэтыя асобнікі выклікалі эмоцыі, успаміны, цікавасць да прачытання.

Расказалі праўду пра вайну, ушанавалі памяць герояў, зрабілі вялікі ўклад у пошук загінулых у гады вайны і невядомых герояў кнігі Сяргея Смірнова. На тытульным лісце кнігі "На войне" — дарчы надпіс: "Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко с глубоким уважением и с благодарностью за теплый прием и интереснейший вечер в Гааге. 24.І.62. С. Смирнов".

Выклікае цікавасць дарчы надпіс на кнізе аднаго з удзельнікаў вайны — І. І. Апаровіча "На главной магистрали": "Боевому и славному руководителю советских партизан, дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко – в знак глубокой признательности за оказанное доверие (посылку в тыл врага со спецзаданием по окончании особого белорусского сбора) — от автора. 27 июля 1972 г. г. Минск. Апарович".







## «Шчыраму другу беларускай літаратуры…»

У бібліятэцы захоўваюцца творы класікаў беларускай літаратуры: Якуба Коласа, А. Куляшова, М. Лынькова, П. Броўкі, Максіма Танка, Максіма Лужаніна, І. Шамякіна і іншых. Дарчыя надпісы, пакінутыя літаратарамі, нібы зноў аўтарызавалі кнігу, вярнулі ёй сваё цяпло.

Аўтографы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа надаюць асаблівую каштоўнасць яго выданням: "Глыбокапаважанаму і дарагому Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнка на памяць ад Якуба Коласа. 5.ХІ.1946 г." ("Паэмы", 1946); "Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко. Час праходзіць, сляды-ж творчай працы на карысць народу застаюцца, а людзі, пакінуўшыя гэтыя сляды, не забываюцца. Якуб Колас. 21. ІХ.1951 г." ("Собрание сочинений в четырех томах. Т. 1", 1951 г.); "Глубокоуважаемому, дорогому П. К. Пономаренко на память о Белорусии, о белорусских лесах. Якуб Колас. 27.ХІ.1952 г." ("Збор твораў у сямі тамах. Т. 7", 1952 г.); "Глыбокапаважанаму П. К. Панамарэнка, шчыраму другу беларускага народа на памяць ад Якуба Коласа. 22.І.1947 г." ("Избранное", 1946).

Сваю павагу і найлепшыя пажаданні выказаў у дарчых надпісах народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі за паэму "Сцяг брыгады" А. Куляшоў: "Паважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнка, —

Народ беларускі
з'яднаны ў змаганні —
Вядзе яго партыя большэвікоў,
Цяжкія, крывавыя выпрабаванні
Ён мужна пад сцягам
Радзімы прайшоў,
Ён чэсна прайшоў,
не губляючы веры, –
Пясняр яго думкі
падслухаў, збярог
І сэрцам гарачым
на гэтай паперы
У вершах сваіх
запісаў іх, як мог.
Рад будзе пясняр,
калі разам з байцамі,
На грозных дарогах
Айчыннай вайны,
Радкі яго гнеўныя
блісНуць штыкамі
І ворагу помстаю стануць яны!

Ар. Куляшоў. 24.ХІІ — 43 г. Г. Масква" ("Сцяг брыгады", 1943); "Глыбокапаважанаму і дарагому Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнка ад аўтара з любоўю і пашанай Ар. Куляшоў. 12.ІІ — 44 г." ("Знамя бригады", 1943); "П. К. Панамарэнка — Кіраўніку беларускіх партызан у гады Айчыннай вайны — з павагай і ўдзячнасцю за стрэчы і гутаркі з беларускімі пісьменнікамі, за стрэчы і гутаркі, якія прынеслі карысць і аўтару гэтай паэмы. Ар. Куляшоў. 6/ХІІ — 45 г. г. Мінск" ("Прыгоды цымбал", 1945); "Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнка – першаму чытачу гэтае паэмы ў арыгінале – з любоўю і ўдзячнасцю за тыя сардэчныя клопаты, якія натхнялі і натхняюць на далейшыя творчыя поспехі. Ад шчырага пачуцця Ар. Куляшоў. 6.ІІІ — 48 г." ("Прапор бригади", 1947).

Нямала ў кнігазборы выданняў з дарчымі надпісамі народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі: "Дарагому Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку. З вялікай падзякай з "Роднае хаты". Пятрусь Броўка. 23.ІІІ.1947 г." ("У роднай хаце", 1946); "Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку. Шчыраму другу беларускай савецкай літаратуры — ад усяго сэрца. 16.ХІІ.1947 г. Пятрусь Броўка" ("Выбраныя творы", 1947); "Дарагі Панцелеймон Кандратавіч! Ніколі не забыцца тых год, у якія мы пры Вас працавалі, раслі і вучыліся. Дазвольце-ж, з гэтаю кніжкаю, ад усяго сэрца пераслаць Вам шчырую падзяку за ўсё! Пятрусь Броўка. Красавік. 1949 г. Мінск" ("Избранное", 1949); "Дарагому Панцелеймону Кандратавічу Панамарэнку.

Даруйце, што зроблена мала,
тым больш — незаўсёды ўдала,
Ды тое, што сёння я маю
ад сэрца пасланы Вам жадаю —
прыміце мае прывітанні
І лепшыя Вам пажаданні!.

Пятрусь Броўка. Люты, 1952 г." ("Выбраныя творы", 1951).

Нельга абмінуць увагай і дарчыя надпісы паэта Максіма Танка: "Паважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку імя чыё нераздзельна і назаўсёды звязана з гераічнай вызваленчай барацьбой беларускага народа, з яго перамогай, з росквітам яго культуры. Максім Танк. Масква. 21-ХІІ-43 г." (Паэма "Янук Сяліба", 1943); "Паважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку на ўспамін аб светлай даце далучэння Заходняй Беларусі. З пашанай Максім Танк. Мінск. 4 снежня 1945 г." ("Праз вогненны небасхіл", 1945); "Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку гэтыя вершы з Беларусі, з краіны, якую ён шчыра пакахаў і з краіны, дзе шмат у яго сяброў, якія заўсёды яго ўспамінаюць. З пашанай Максім Танк. Масква. 8/VI — 49 г." ("Каб ведалі", 1948); "Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнку.

Хай гэтыя песні,
свабоднай хвілінай,
Прыпомняць любімую
Вам краіну,
У якой Вы, калісьці,
жылі, працавалі,
Расці і дужэць
нам усім памагалі,
Дзе дружная наша
сям'я баявая
Вас словам сардэчным
заўжды ўспамінае.

Максім Танк. Мінск. 4.VIII.1952 г." ("Выбраныя творы", 1952).

У калекцыі годнае месца займае кніга вершаў Максіма Лужаніна "Шырокае поле вайны". Выданне 1945 года мае на тытульным аркушы і на старонцы 55 штамп: "Библиотека П. К. Пономаренко" і дарчы надпіс: "Панцелеймону Кандрацьевічу Панамарэнка — першую кніжку па звароце дамоў. 18.9.45. Максім Лужанін".

## «Разумнаму дарадцу...»

Усяго год, з 1953 па люты 1954, П. Панамарэнка займаў пост міністра культуры СССР, але памяць пра яго дзейнасць знайшла адлюстраванне ў шматлікіх дарчых надпісах. Напрыклад, ад пісьменніка і заслужанага артыста РСФСР Георгія Бударава: "Глубокоуважаемый Пантелеймон Кондратьевич! Недолго Вы занимали пост Министра культуры СССР, но память о Вашей деятельности сохранилась в народе и будет жить из поколения в поколение. Живёт она и у меня с тех пор, когда Вы прочитали мою первую книжку «Таёжные охотники» и сказали мне: «Начал читать один Ваш рассказ, да так и не заснул, пока не прочитал всю книгу. Рассказы, в которых Вы пишете о прошлом, смотрят в будущее». Бесконечно обрадует меня, если эта книжка не навеет на Вас тоску. Желаю Вам доброго здоровья и благополучия. С сердечным приветом Георгий Бударов. 15 декабря 1963 года. Москва" (Аповесць "Золотая земля", 1963).

Ёсць у калекцыі П. Панамарэнкі кнігі з дарчымі надпісамі беларускіх кампазітараў І. Любана, М. Чуркіна, пісьменніка і кінематаграфіста Міколы Садковіча. Цёплыя словы ўдзячнасці — у аўтографе кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Ісака Любана: "Дорогому Пантелеймону Кондратьевичу Пономаренко — умному советчику, строгому критику и фактическому «соавтору» моих лучших сочинений дарю часть своего сердца — мои песни. 15/ІІ 64 г. [Подпіс І. Любана]" ("Избранные песни", 1963).

Вывучэнне і аналіз дарчых надпісаў — гэта, безумоўна, адна з найцікавейшых тэм даследавання. Такія надпісы на кнігах — каштоўная крыніца звестак пра асобу ўладальніка бібліятэкі, некаторыя факты яго біяграфіі. Гісторыказнаўчая, гістарычная і культурная іх каштоўнасць у тым, што яны дазваляюць убачыць аўтара ў атачэнні сучаснікаў.

Святлана ПРЫХАЧ

На здымках: дарчыя надпісы, зробленыя аўтарамі кніг на памяць Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнку.

Фота аўтара

# Бесядзь — крыніца натхнення і творчасці



Цешуся цудоўнымі радкамі прозы пісьменніка-земляка: "— Якая раскоша, — сказаў раскурыўшы сваю самакрутку Кузьма, памаўчаў, тады зноў сказаў: — Многа я пахадзіў дзе, а вось такой прыгажосці, як у нас, здаецца не бачыў... Нечага мне не хапае ў жыцці, можа апошняга: на свае вочы пабачыць той куст, з-пад якога бруіць наша рака... Для мяне той выток цяпера — як святая крыніца. Здаецца, дастаў бы з-за печы свой ціпок ды й патупаў усцяж усе Бесядзі, нават не так важна, ці вярнуўся б пасля".

Гэтай размовай старога Кузьмы Прыбыткова, па-сялянску дабітнога і цікаўнага з яго разважаннем "...зямля наша параўндзе райская..." з рамана "Вяртанне да віны" я хацеў бы і павесці гаворку пра народнага пісьменніка Івана Чыгрынава, падставай да якой — мае ўспаміны пра сустрэчы, размовы і нашу перапіску.

У лютым 1971 года, калі на Магілёўшчыне праводзіліся Дні беларускай літаратуры, са сваёй творчай справаздачай прыбыла група пісьменнікаў у складзе Івана Аношкіна, Пятра Прыходзькі і Івана Чыгрынава да нас на Хоцімшчыну. Сустрэчы праходзілі ў раённым Доме культуры, у калгасе "Чырвоны Маяк" (вёска Баханы), у саўгасе "Трасціно" (вёска Трасціно).

Мне як сельскаму бібліятэкару і краязнаўцу давялося па даручэнні райкама партыі суправаджаць гасцей і выступаць з аглядам жыццёвага і творчага шляху — прадставіць гасцей хацімчанам. Ва ўрачыстай абстаноўцы госці былі прынятыя ў ганаровыя піянеры. Іван Гаўрылавіч вельмі чула ўспрыняў гэту падзею. Ён упершыню ў жыцці быў прыняты ў піянеры, бо адразу пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў Касцюкоўшчыны ў іхняй сямігодцы (вёска Вялікі Бор) такая работа не вялася.

У размовах з хацімчанамі на пытанне, што ён стаў пісьменнікам, Іван Гаўрылавіч расказваў:

— У нашай Саматэвіцкай сярэдняй школе вучыўся Аркадзь Куляшоў, паэт, які не мае патрэбы ў ацэнцы. Дык вось, калі ў іншых школах літаратуру пазнавалі па кнігах безадносна да іх аўтараў, дык мы, хто вучыўся ў Саматэвіцкай школе, мелі магчымасць знаходзіцца сярод жывых герояў куляшоўскай паэзіі.

На пытанне, што прывяло аўтара выдатных апавяданняў да рамана і як гэта адбылося, пісьменнік адказаў:

— Магчыма, пачуццё вінаватасці перад тым месцам, дзе нарадзіўся, перад спаленым і разбураным Вялікім Борам, перад людзьмі, якіх я ведаў у дзяцінстве, перад маці Хадоскай Ігнатаўнай, братамі і сёстрамі, перад аднавяскоўцамі і тымі, хто пайшоў на вайну і не вярнуўся...

— Увогуле да гісторыі трэба ставіцца з пашанай, не ляпаць яе па плячы, — працягваў госць, — я вярнуўся да гісторыі, каб правесці сваіх сучаснікаў па тых дарогах, па якіх хадзілі нашы продкі.

На памяць пра нашыя сустрэчы Іван Гаўрылавіч зрабіў каштоўныя падарункі на сваіх кнігах — напісаў напоўненыя цеплынёй аўтографы: "Дарагім чытачам Трасцінскай сельскай бібліятэкі, што на Хоцімшчыне. Ів. Чыгрынаў. У часе дзён беларускай літаратуры. 10 лютага 1971 г.".

І мне асабіста: "Ласоўскаму Міхаілу, чалавеку з кнігай у руках, які прысвяціў сваё жыццё прапагандзе гэтай кнігі сярод людзей. Ів. Чыгрынаў. 10 лютага 1971 г.".

...Маё знаёмства з творчасцю пісьменніка-земляка пачалося з 1963 года, калі ў часопісе "Полымя" прачытаў апавяданне "Маці", а ў газеце "Літаратура і мастацтва" — "Па дарозе дамоў". Творы гэтыя, здавалася мне, былі ўдосталь напоеныя жыватворнымі сокамі роднай бацькоўскай зямлі, а Прыбесяддзе ж — паўнаводны выток яго творчасці. З гэтага часу пачалася і перапіска. З радасцю сустракаў зборнікі апавяданняў "Птушкі ляцяць на волю", "Самы шчаслівы чалавек", якія з аўтографамі дарыў мне аўтар.

У сваіх лістах я раіў Івану Гаўрылавічу звярнуцца да публікацый пра падзеі на беларускім усходзе ў часы Вялікай Айчыннай вайны, з якімі ён змог бы азнаёміцца ў бібліятэках Мінска.

Але, на маё здзіўленне, у сваім лісце да мяне 30 мая 1971 года ён піша: "...Неўзабаве я маю намер прыехаць на радзіму (збіраю матэрыял для другога тома "Плача", і, можа, завітаю ў Трасціно).

P.S. Напішы мне, калі ласка, ці ёсць у цябе асабіста выразкі з газет і кніг, якія ты пералічыў у сваім лісце да мяне ад 3 сакавіка 1971 года? Маецца на ўвазе ўсё, што тычыцца маёй тэмы. Цісну руку. Ів. Чыгрынаў".

Летам 1971 года Чыгрынаў прыязджае ў Трасціно. Уважліва і старанна вывучае сабраныя мной матэрыялы. Папрасіў пакарыстацца кніжкай пра партызанскі атрад Д. Мядзведзева "Дзённік камісара" (Г. Кулакова), якая была выдадзена ў маскоўскім выдавецтве. Калі размова зайшла пра літаратуру, пра пісьменніцкую працу, то Іван Гаўрылавіч па-бацькоўску прачытаў мне такія вершаваныя радкі:

Я ўпарты,
не кіну пачатае справы,
Каменне крышу,
Разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў
лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі...
І дадаў:

— Для мяне як настаўнік у літаратуры Аркадзь Куляшоў значыў шмат.

Упамінанне Бесядзі спакусліва пацягнула нас на сустрэчу з ёй. Мы ціхай хадой па правым беразе ракі прайшлі аж да мяжы з Расіяй, да вёскі Ціхань. Увесь час гаворку вёў госць. Яго цікавасць была скіравана на навакольную прыроду. Для мяне ён быў выдатным экскурсаводам у свет раслін. Кожную траўку-мураўку ён называў сваім імем. На маё здзіўленне яго досведам Іван Гаўрылавіч сказаў:

— Хацелася б, каб у нашай літаратуры было болей паху кветак, і спеваў птушак, і зямлі, якая дыхае, і дажджу, і сонца, і плоці людской. Усё гэта літаратура павінна адлюстроўваць, у тым яе і прызначэнне.

А калі заўважылі фантанчыкі рачных крынічак на пясчанай водмелі, Іван Гаўрылавіч зняў абутак, закасаў калашыны, увайшоў у раку, памыў рукі, далонямі набраў вады, абмыў-асвяжыў твар і тройчы са смакам і асалодай прагна выпіў бальзам зямных крыніц.

У час сустрэч у 1973 і 1979 гадах прайшлі з ім па сцежках партызанскага атрада Д. Мядзведзева, а таксама па шляху воінаў-кавалерыстаў.

За сяброўства, якое лічу вялікім гонарам, атрымаў раман "Плач перапёлкі" з аўтографам: "Дарагому Міхаілу Аляксеевічу з удзячнасцю за дапамогу ў маёй рабоце. Іван Чыгрынаў. 15.IV.79".

Кнігі з аўтографамі Івана Гаўрылавіча для мяне як бальзам, як узнагарода за маю 36-гадовую працу сельскім бібліятэкарам. Творы майстра мастацкага слова натхнялі мяне на добрасумленную работу.

Слынны сын Прыбесяддзя ў сваіх раманах "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужынцы", "Вяртанне да віны", "Не ўсе мы згінем" увекавечыў подзвіг нашых бацькоў і прадзедаў, асабліва ў гады нямецкага ваеннага ліхалецця, з любасцю і вялікай праўдай расказаў усяму свету, як у Прыбесяддзі ішло змаганне з фашысцкімі захопнікамі. Шчаслівы атрымалася, што, распавёўшы пра сваіх зямлякоў-верамейкаўцаў, аўтар расказаў чытачам і пра ўвесь беларускі народ — гераічны і шматпакутны. Творы Івана Чыгрынава чытаюць за мяжой Беларусі, яны перакладзеныя на многія мовы народаў былога СССР, а таксама на балгарскую, нямецкую, французскую і англійскую мовы.

"Калі нам удасца жыць на гэтай зямлі, калі ўсё зладзіцца з радыяцыяй, — марыў пісьменнік, — то мы паспрабуем наладзіць сваю дзяржаву са сваёй прыгожай нацыянальнай душой, працавітай і вясёлай. Мяркую, што самай светлай старонкай стане наша суверэнная дзяржава, думаю, што пераможам".

На жаль, дачасна пайшоў з жыцця выдатны майстар мастацкага слова, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, народны пісьменнік Беларусі Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, але ён пакінуў нам праўдзівую жывую памяць народа нашага Прыбесяддзя.

Міхаіл ЛАСОЎСКІ

# Згадкі без юбілейнага выпадку

*Калі б на карце Беларусі пазначыць сімвалічнымі кружочкамі кожную вёску, мястэчка ці горад, дзе нарадзіліся пісьменнікі, то мая Патапаўка, што ў Буда-Кашалёўскім раёне, была б абведзена імі тройчы. Менавіта адсюль яшчэ да мяне выправіліся ў літаратуру Уладзімір Дзюба і Таццяна Гарэлікава. Валодзя, праўда, у пазней апублікаваных біяграфіях месцам свайго нараджэння назаве ўкраінскі горад Палтаву, хаця ў першым паэтычным зборніку, які выйшаў у 1972 годзе, ён быў яшчэ патапаўскім. І ў гэтым двайным адрасе з'яўлення на свет ёсць пэўная логіка: што б там ні было напісана ў метрыках, але, так і не пабачыўшы бацьку, які загінуў у 1945-м у Германіі, і пераехаўшы з маці Нінай Апанасаўнай на яе радзіму, хлапчук менавіта ў Патапаўцы нарадзіўся як паэт.*

Я — самы малодшы з гэтай патапаўскай пісьменніцкай тройкі (Валодзя, напрыклад, ужо стаяў на апошняй прыступцы школьнага ганка, а я толькі пераступіў школьны парог), таму ўпершыню мы сустрэліся значна пазней, калі я вучыўся на філфаку Гомельскага дзяржаўнага універсітэта і неяк з сябрамі-паэтамі завітаў на пасяджэнне літаб'яднання "Рунь" пры рэдакцыі "Гомельскай праўды", дзе на той час працаваў мой зямляк. Дарэчы, тады якраз выйшаў яго другі паэтычны зборнік "Кругазварот", на які я паспеў ужо адгукнуцца рэцэнзіяй "З увагай да лёсаў людскіх" у той жа абласной газеце 23 верасня 1976 года. То была мая чацвёртая публікацыя пад традыцыйнай рубрыкай "Кнігі нашых землякоў", якую вёў пісьменнік Міхась Даніленка. Але менавіта яна пісалася з асаблівым хваляваннем у душы, бо многае ў "Кругазвароце", як і ў першым зборніку "Вуліцы без назваў" (1972), было такое знаёмае. І навакольная прырода, і героі, якія жылі побач: цётка Матруна — "дакор той вайне", бабуля, з якой "у кааперацыю ішлі", Лявон, які "рабіў гармонікі, каб музыка была", і Лявоніха, што "з той музыкай не ўмела сумаваць", два родныя браты, украінцы-халасцякі Гарцукі, будакашалёвец, "музыка ад роду Грыня". Быў, апроч усяго, у кнізе і верш, прысвечаны выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры роднай школы Ульяне Фёдараўне Лазавенцы (без упамінання прозвішча, праўда), якая ўсім нам, траім сваім вучням, пакавала шлях на Парнас. Ужо тады, на пачатку творчага шляху, было заўважана, што ўдзячная ўвага да лёсаў людскіх — адметная рыса паэзіі У. Дзюбы. І калі мне сёння кажуць, што я ў сваіх паэтычных і празаічных творах шмат згадваю Патапаўку і аднавяскоўцаў, то скажу шчыра: гэтаму ў немалой ступені спрыяў мой зямляк.

І хаця мы пазнаёміліся позна, ды і потым з-за маёй празмернай прыроднай замкнёнасці сустракаліся даволі рэдка, аднак яшчэ са школьных гадоў, калі сам пачаў крыху рыфмаваць нешта, імкнуўся не прамінуць ніводнай публікацыі, пад якой ці над якой стаяла імя У. Дзюбы. А аднойчы мне пашчасціла ўбачыць свайго земляка ў лесе, куды ён, тады студэнт філфака БДУ, прыехаўшы дахаты, завітаў у грыбы. Безумоўна, я не падышоў, не паказаўся, а толькі нейкі час назіркам сачыў, куды ён пойдзе. Цікава ж было, як збірае грыбы не нейкі шараговы грыбнік, а добра вядомы ў вёсцы паэт, быццам — о то ж на дзіцячы розум! — у таго гэта адбываецца інакш, чым у астатніх аматараў "ціхага палявання". Потым у згаданым ужо зборніку "Кругазварот" я натрапляю на маленькі верш:



На здымку: Уладзімір Дзюба, Хведар Жычка і Міхась Даніленка.

Пад гудзенне
Назойлівых восаў,
Пад шаптанне
Калматых дубоў
Я аднойчы прыснію сваю восень
З поўным кошыкам
Белых грыбоў.

У тую нашу выпадковую сустрэчу я не заўважыў, ці "з поўным кошыкам белых грыбоў" быў Валодзя, але чамусьці пераконваю сябе, што верш нарадзіўся менавіта тады, і такім чынам нібыта і сябе далучаю да паэтавых хвілін натхнення.

Такое адчуванне наведвала мяне і за школьнай партай, за якой побач са мной год ці два сядзела сястра У. Дзюбы Надзя, якая была для мяне не проста аднакласніца: яна жыла пад адным дахам з паэтам і, мабыць, магла назіраць (у гэтым я ніколькі не сумняваўся!), як ён піша вершы. Эх, думаў я, глянуць бы і мне хоць адным вокам на тое — глядзіш, можа, і мае творы пачалі б друкавацца!

У. Дзюба быў даволі таварыскім, гаваркім, мог з кожным, нават незнаёмым, чалавекам, выпадкова сустрэўшыся недзе ў дарозе, знайсці тэму для размовы. З асаблівай увагай адносіўся да сваіх аднавяскоўцаў. Бадай, не было такога выпадку, каб ён, завітаўшы на дзень-другі ў Патапаўку, не прайшоўся па вёсцы, не пагаварыў з людзьмі. Памятаю, як мы з ім у кампаніі з Міколам Чарняўскім прыязджалі на сустрэчу з землякамі ў свой раён. Выступалі і ў Патапаўскай школе, пасля чаго завіталі да маіх бацькоў. Валодзя пабыў у хаце, паразмаўляў і, папрасіўшы прабачэння, пачаў збірацца: "Хачу наведаць сяго-таго яшчэ, бо не ведаю, калі ў наступны раз удасца выбрацца".

Паэт любіў сваю радзіму шчырай сыноўняй любоўю. Яна — у яго вершах, у яго дзівакаватых для многіх этымалагічных расшыфроўках-даследаваннях, якім ён, на маю шкадобу, адшоўшы ад вершаў, аддаваў, бадай, усе сілы і час у свае пазнейшыя гады — ажно да апошняга дня жыцця, які стаў 17 верасня 2008 года. Як Валодзя марыў, каб яго адна шматгадовая праца пабачыла свет! І нават калі рэдакцыі не прымалі напісанага, ні на каго не крыўдаваў, хіба што суцяшаў сябе і тых, хто суцяшаў яго: "Не бяда. Тое, што я раблю, сёння, пэўна, большасці цяжка зразумець. Не настаў яшчэ час. Аднак не сумняваюся: некалі зразумеюць". І дзе б ні выступаў У. Дзюба, ён быў у гэтай сваёй стыхіі — проста жыў у ёй. Стваралі легенды, мой зямляк спакваля і сам станавіўся легендай. Сёння ў пісьменніцкім асяроддзі, магчыма, далёка не кожны можа згадаць вершы паэта, а вось чым ён займаўся ў апошнія два дзесяткі гадоў, ведаюць, мусіць, ледзьве не ўсе.

У свой час я рэдагаваў "Беларускую лясную газету", куды Валодзя неяк і прынёс пяць старонак тэксту, у якім, скажу шчыра, ні я, ні супрацоўнікі рэдакцыі нічога не цямілі. І тым не менш, каб падтрымаць земляка, я папрасіў аўтара скараціць свой матэрыял да дзвюх старонак, і мы яго ўсё-ткі надрукавалі. Колькі званкоў было ад няўцямлівых чытачоў! А чаго мне прыйшлося наслухацца ў Міністэрстве лясной гаспадаркі, якое з'яўлялася заснавальнікам газеты! Аднак праз гэтае абурэнне прабіваліся і рэдкія галасы людзей, што здзіўляліся, як гэта можна так цікава ўсё прыдумаць. Значыць, мёў рацыю Валодзя, калі верыў, што прыйдзе час — і ягонымі экспертаментатарскімі пошукамі зацікавяцца. Магчыма, так яно некалі і будзе.

...А на маёй кніжнай паліцы стаяць чатыры прыжыццёвыя кнігі У. Дзюбы: дзве вышэй згаданыя, а таксама "Карані блісковіцы" (1976) і "Доктар Русель" (1991). Пасля таго як не стала майго земляка, я ўсё часцей і часцей перачытваю іх. І нібыта вяртаюся ў той час, калі мы хадзілі па адной зямлі.

Анатоль ЗЭКАЎ





З першых дзён свайго існавання фальклорны ансамбль “Ячаўскія вячоркі”, што на Случчыне, заявіў пра сябе як пра яскравае сузор’е талентаў. У 1992 годзе ансамбль атрымаў пачэснае званне “народны”. У рэпертуары — народныя абрадавыя песні, танцы, прыказкі, пастаноўка беларускіх абрадаў. Колькі любові, святла нясуць яны! Якія невычэрпныя крыніцы народнай творчасці адкрываюць!..

# Спявай, душа!..



Самадзейныя артысты выступаюць на вясковых і гарадскіх святах, вечарах ушанавання жывёлаводаў і хлебаробаў, на палетках і фермах. Удзельнічаюць у раённых, абласных, рэспубліканскіх, міжнародных фестывалях, конкурсах, аглядах мастацкай самадзейнасці.

Ансамбль створаны ў 1979 годзе ў вёсцы Ячава. Яго арганізатар і нязменны кіраўнік — выдатнік культурна-асветніцкай работы Людміла Калядка. Адлік гісторыі калектыву яна вядзе з далёкіх 1960-х гадоў, з ансамбля “Вячоркі” Казловіцкага Дома культуры. Душой “Вячорак” была Ганна Радзюк, якая ў 1970-я пераехала ў вёску Ячава і прапанавала там заснаваць песенны калектыў. Трыццаць гадоў таму, дажджлівым восеньскім надвячоркам, Людміла Кузьмінічна і Ганна Максімаўна абышлі 18 ячаўскіх хат, дзе жылі асабліва галасістыя гаспадыні. Так адбылося першае праслухоўванне, першая спеўка калектыву.

На канцэртах артысты апраналіся ў традыцыйнае беларускае адзенне — даставалі яго з сямейных куфраў. На сцэну выходзілі з прасніцамі, верацёнамі, некаторыя садзіліся на лавы да стала, пакрытага даматканым абрусам. Падлогу засцілалі тканымі ходнікамі. На сцэне і ў глядзельнай зале стваралі атмасферу сапраўдных вячорак — з песнямі, размовамі, прымаўкамі. Не ленаваліся ўвесь свой “тэатральны” антураж вазіць за сабой на канцэрты — з вёскі ў вёску.

Немагчыма пералічыць усе дасягненні творчага калектыву — іх шмат. Прыкладам, народны ансамбль “Ячаўскія вячоркі” — лаўрэат II і III усесаюзных фестываляў народнай творчасці, а таксама Усесаюзнага агляду самадзейнай мастацкай творчасці (1987 — 1992). Узнагароджаны дыпломам сакратарыята праўлення Беларускага саюза кампазітараў (1992). У 1990 годзе браў удзел у Днях культуры Беларусі ва Узбекістане, у 1994-м — у святкаванні Дня горада Ганувера (Германія). Ансамбль “Ячаўскія вячоркі” — дыпламант Першага міжнароднага фестывалю аўтэнтычнага фальклору ў горадзе Пінску (1994), Міжнароднага фестывалю аўтэнтычнага фальклору Падняпроўя ў Магілёве (1996), Міжнароднага фестывалю “Вянок дружбы” ў горадзе Бабруйску (2003). Артысты калектыву ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх “Дажынках” у Мастах (1997), Нясвіжы (1998), Шклове (2000), Слуцку (2005)…

Але самая галоўная ўзнагарода для “Ячаўскіх вячорак” — усенародная любоў суайчыннікаў. Нездарма калектыў з гонарам носіць званне “народны”.

Сутнасць народнага ансамбля, яго душа — гэта артысты. З самага пачатку павялося так, што радасці і смутак яны дзеляць разам. Ансамбль для іх — гэта жыццё, жывая радасць святаў і сустрэч. Рэпетыцыі і канцэрты для ўдзельнікаў — справа святая. Іх адмяніць нельга.

Першыя ўдзельнікі “Ячаўскіх вячорак” пастарэлі, але застаецца іх любоў, энергія, талент. Застаюцца традыцыі. Яны — адвечныя, неўміручыя, маюць свой працяг і развіццё ў сучаснасці. З вялікім ушанаваннем і падзякай тут называюць імёны ветэранаў народнага ансамбля: Серафіма Светаш, Ніна Троцкая, Зінаіда Чухонская, Зінаіда Клека, Марыя Пупкевіч, Валянціна Варывончык, Марыя Міронччык, Антаніна Слепянчук, Галіна Ганчарова, Надзея Пужэвіч, Кацярына Радзюк, Уладзімір і Марыя Белыя.

На жаль, некаторыя з ветэранаў пайшлі ўжо з жыцця. Але іх песні і справа жывуць. Сёння ў ансамблі выдатна спяваюць і танцуюць сёстры Раіса Калядка і Святлана Казлоўская. Моцным, каларытным голасам вылучаецца Алена Камоцкая. Галіна Кірыленка працягвае традыцыі сваіх бацькоў, якія ў свой час былі ўдзельнікамі народнага Казловіцага хору. Рэдкім альтовым голасам валодае Марына Бандарэнка. Непаўторную плынь у канцэрты ўносіць скрыпачка Аляксандра Грачэк.

Ці знойдзеш словы, каб выказаць удзячнасць мужчынскаму складу ансамбля! Баяніст Уладзімір Сушко — душа кожнай песні і выступленняў. Саліст, ударнік-музыкант Валерый Лабковіч — не ўтрымаешся ад скокаў, слухаючы яго. Спявак і дудар Уладзімір Жукоўскі, цымбаліст Уладзімір Ліпоўскі. Шчыра, душой успрымае традыцыі творчага калектыву моладзь: Валянціна Калядка, Надзея Вялешка, Аляксей Бажко.

Ларыса САЛОДКІНА

Фота аўтара і з архіва “Ячаўскіх вячорак”

## У наступным нумары

Творчасць класікаў не можа састарэць — старэюць падыходы да яе, яе інтэрпрэтацыя.

Новыя літаратуразнаўчыя даследаванні звычайна публікуюцца ў навуковых выданнях, тым часам як сучасны погляд на класіку быў бы цікавы і для паспалітага люду.

Невысокі аўтарытэт беларускай класікі (складана ўявіць цырульніцу ці інжынера, якія зачытваюцца Максімам Гарэцкім) – у пэўнай ступені вынік яе “нераскручанасці” з боку крытыкаў і журналістаў.

Цыкл артыкулаў Алесі Лапіцкай — спроба вызначыць прыярытэты, вылучыць творы, якія маглі б прывабіць сённяшняга чытача.

З глыбінкі

## Майстроў сапраўдных свята

Мядзел зноў сабраў разьбяроў Міншчыны — тут прайшло пятае рэгіянальнае свята-конкурс “Разьбы зачараванне”. У райцэнтр з’ехаліся майстры з няблізкіх Стоўбцаў і сяброўскай Любані, працавітага Чэрвеня і гасціннага Валожына, Вілейкі-суседкі і песеннага Салігорска. Прыехалі як вопытныя творцы, так і зусім юныя таленты.

Выставілі яны свае працы на цэнтральнай плошчы горада з тым, каб кожны жадаючы мог палюбавацца, якія дзівосы ствараюць майстры з дрэва: ад невялічкіх фігурак і філігранных шкатулак да вялізных і незвычайных па прыгажосці пано.

Падчас свята разьбяры маглі паспаборнічаць у майстэрстве — ім прапаноўвалася зрабіць твор з дрэва за тры гадзіны. Ацэньвала вырабы журы на чале з прафесарам, доктарам мастацтвазнаўства, старшынёй Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам.

Другі раз завітваюць у Мядзел прадстаўнікі Стоўбцаў. Пра гэта паведаміў адзін з іх — Валерый Чараднічэнка:

— Таму і завіталі, што добрыя ўражанні засталіся ад мінулага разу. Мядзел падабаецца: чысты, прыгожы горад. Са мной пяць дзяцей з народнай студыі “Разьбы зачараванне”, якая працуе пры гімназіі № 1 Стоўбцаў.

А пакуль разьбяры са стараннем выконвалі конкурсныя заданні, гледачы маглі набыць сувеніры. Увесь час майстроў падтрымлівалі са сцэны песнямі і прыпеўкамі — добрую і разнастайную праграму паказалі лепшыя артысты раёна.

Ды і надвор’е не падвяло. У Мядзеле без дажджу пратрымалася роўненька да таго часу, пакуль разьбяры не скончылі выкананне конкурсных твораў. Але ж цырымонію ўзнагароджвання давялося праводзіць у зале гарадскога Дома культуры. Ніхто з гасцей не паехаў з гасціннай Мядзельшчыны без дыпломаў і падарункаў — кожны атрымаў узнагароду ў той ці іншай намінацыі або за ўдалы творчы дэбют.

Алесь ВЫСОЦКІ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2998
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.06.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2725

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686